# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

Часопіс соцыялістычнага будаўніцтва с.-гаспадаркі



N

СТУДЗЕНЬ 1930

Выданьне Наркамзему і Белкалгасцэнтру БССР

# ЗЬМЕСТ



---

На вокладцы: Каровы ў новай аборы (да артыкулу Драздова, на стар. 19)


Друкарня БДВ. Заказ № 1065. 10.000 экз. Галоўлітбел № 928.

# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

ЧАСОПІС САЦЫЯЛІСТЫЧНАГА ЗЕМЛЯРОБСТВА І АГРАНАМІЗАЦЫІ НАСЕЛЬНІЦТВА

ВЫДАНЬНЕ НАРКАМЗЕМУ І БЕЛКАЛГАСЦЭНТРУ БССР

Выходзіць раз у месяц

№ 1 (7) | Студзень | 1930

## За поўнае выкананьне пляну калектывізацыі і веснавой с.-г. пасеўкампаніі.

Ажыцьцяўленьне генэральнае лініі партыі, накіраванае на індустрыялізацыю краіны, рашучае наступленьне разгорнутым фронтам на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі знайшло сваё выражэньне ў бурным росьце калгаснага будаўніцтва. Толькі па БССР плошча пад калгасамі з 94.000 га на 1/X-28 г. павялічылася да 1.498.000 га на 15/XII-29 г.

Шпаркі тэмп калектывізацыі, перавысіўшы ўсе нашыя проэктаваньні, сьведчыць аб тым, што сьледам за бядняцкімі гаспадаркамі вёскі ў калгасы пашлі шырокія масы серадняцкіх гаспадарак, якія на практыцы пераканаліся ў перавазе калектыўных форм земляробства. Дасягнуты пералом у адносінах бядняцка серадняцкіх мас да калгасаў зьявіўся непасрэдным вынікам правільнае палітыкі партыі на вёсцы, вынікам узмацненьня кіруючае ролі рабочае клясы ў адносінах бядняцка-серадняцкага сялянства, вынікам магутнага росту сацыялістычнай індустрыі і ўзмацненьня вытворчых форм сувязі рабочае клясы з асноўнымі масамі сялянства.

Падрыхтоўка і правядзеньне вясновае сельска-гаспадарчае кампаніі, у сувязі з правядзеньнем суцэльнай калектывізацыі, у гэтым годзе набывае асаблівае значэньне і будзе рашаючым момантам ў ажыцьцяўленьні ўзятых тэмпаў па калектывізацыі. Плян правядзеньня пасеўнае кампаніі як вясновай, так і асеньняй складзен адзін, і падзяляецца на часткі вясновае працы і асеньняй. Канкрэтныя ліміты, якія абгаварваліся на Пленуме ЦК КП(б)Б, зводзяцца ў асноўным да наступных паказчыкаў: калектывізаваць ужо ў вясновую пасеўную кампанію ня менш як 35% усяе сельска-гаспадарчае плошчы, пашырыць пасеўную плошчу на 200 000 га, падвысіць ураджайнасьць супроць 1928-29 году на 25%, павялічыць стада буйнай рагатай жывёлы на 10% і сьвіней на 30%; асноўнымі выканаўцамі гэтага заданьня павінны быць савецкія і калектыўныя гаспадаркі, загэтым ад падрыхтаванасьці нашага сацыялістычнага сэктару будзе залежаць і выкананьне вызначаных лімітаў. Мы ставім у гэтым годзе практычную задачу – ачысьціць усё высяваемае ў весну насеньне, намечана завапнаваць глебы 75.000 га, затарпаваць 40.550 га, пашырыць засеў траў на 50% супроць мі-

нулага году, правесьці шырокую лубінізацыю, масавы збор попелу. Усё гэта патрабуе шырокай арганізацыі грамадзкасьці, прыцягненьня да гэтае справы ўсіх рабочых, батракоў, беднякоў і серадняков. Трэба зараз-жа разгарнуць работу па рамонту інвэнтару, скарыстаўшы ўсе налічныя майстэрні ў акругах, а таксама і чыгуначныя, зернаачышчальныя машыны павінны працаваць бесьперабойна ў дзьве, тры зьмены, ніякіх сьвятаў. Зараз-жа камсамольцы, вучні павінны выступіць па зборцы попелу, ажывіць працу аграўпаўнаважаных, перагледзець іх склад, выгнаць кулакоў, дзе яны ёсьць. Шэфскія арганізацыі павінны мабілізавацца для працы па падрыхтоўцы да правядзеньня сельскагаспадарчае вясновае кампаніі. Перад калгасамі ставіцца практычная задача, каб ужо ў вясновую пасеўную кампанію давесьці плошчу пад калектыўнымі засевамі, як мінімум, да 676.000 га, узьняць ураджайнасьць на 25%, усё высяваемае насеньне абавязкова павінна быць ачышчана, пасеяць ня менш 73.000 га гатунковым насеньнем, ня менш, як 55.000 га павінна быць радавога пасеву, пашырыць пасеў кармовых траў і караньплодаў да 10.000 га, завапнаваць глебы 60.000 га і правесьці торпаваньне на плошчы 17.000 га. Гэта задача патрабуе зараз-жа арганізаваць у калгасах працу так, каб цалкам забясьпечыць выкананьне вызначаных лімітаў. Трэба ўстанавіць адказнасьць за выкананьне вызначаных заданьняў ня толькі на саветы, ці праўленьні калгасаў, а паставіць працу так, каб кожны калгасьнік адказваў за выконваемую працу; трэба дабіцца, што-б там ні было, узьняцьця працоўнае дысцыпліны. Калгасцэнтру шырока разгарнуць працу пасылкі людзей на месцы па падрыхтоўцы ўсёй калгаснае сыстэмы да вясновага пасеву; усё тое, што патрабуецца к выезду на работу ў поле, павінна быць агледжана, адрамантавана і быць гатовым к рабоце. Практыку індывідуальных гаспадарак, якія рамантуюць плуг, барану тады, калі едзе ў поле, трэба адкінуць; усё гэта павінна быць зроблена ў зімовы час.

Савецкія гаспадаркі павінны пашырыць у гэтым годзе пасеўную плошчу на 27,6% супроць мінулага году, павысіць ураджайнасьць на 30%, узьняць таварнасьць і зьнізіць сабекошт прадукцыі на 25%. Трэба сказаць адкрыта, што ў савецкіх гаспадарках па часьці іх гаспадараньня справа абстаіць небясьпечна, працоўная дысцыпліна і вытворчасьць вельмі нізкія, кіруючы склад не на належнай вышыні, з слабай падрыхтоўкай, добрая палова за гэты год аддадзена пад суд, вялікая цякучасьць. Усё гэта, бязумоўна, адбіваецца на якасных паказчыках работы ў саўгасах. Мне здаецца, што нам зараз-жа трэба ўзяцца за ўмацаваньне складу саўгасаў добрымі кіраўнікамі, не рабіць частых зьмен, пасылаць працаўнікоў лепшых, а не беспрацоўных, як часта гэта робіцца. Тады толькі мы зможам дабіцца таго становішча, калі саўгасы будуць зьяўляцца сапраўды арганізуючымі цэнтрамі вакольнага насельніцтва і прыкладамі ва ўсёй працы. Асаблівую ўвагу неабходна зьвярнуць на ўзмацненьне саўгасных ячэек.

Каб забясьпечыць выкананьне пастаўленых задач перад саўгасамі і калгасамі, нам неабходна разгарнуць працу па арганізацыі у саўгасах і калгасах сацыялістычнага спаборніцтва як паміж паасобнымі гаспадаркамі, так і ўнутры гаспадарак паміж асобнымі галінамі працы. Вынікі, якія мы маем ў прамысловасьці, гавораць нам аб тым, што гэтыя мэтады як мага хутчэй у шырокім маштабе трэба пераносіць у вытворчасьць сельскае гаспадаркі. Калі нам удасца падняць усіх рабочых саўгасаў і калгасьнікаў на гэтую справу, выкананьне вызна-

чаных заданьняў забясьпечана, а загэтым гэтую працу трэба лічыць важнейшай працай, за якую павінны ўзяцца ўсе савецкія, прафэсыянальныя і коопэрацыйныя арганізацыі. Партыйныя камітэты павінны ўзяць непасрэдна пад сваё кіраўніцтва і кантроль выкананьне гатае задачы. Для забясьпечаньня засеву вызначаных плошчаў нам неабходна стварыць насенны фонд ў ліку: 27.041 тону зернавых культур, 1.370 тон насеньня канюшыны, 4.600 тон вікі, 530 тон сэрадэлі, 4.585 тон лубіну, 4.089 тон ільнанасеньня і 86,3 тон караньплодаў. Гэтая грамадная задача павінна быць выканана абавязкова. Па зернавых культурах, якія ёсьць ў нас на месцы, трэба разгарнуць працу, асабліва ў калгасах, па збору гэтага фонду і забясьпечаньне яго захаваньня к вясьне, арганізаваўшы пры гэтым належную ахову, таму што кулак паспрабуе зьнішчаць гэтыя фонды, калі мы ня прымем сваечасовых мер. Горш абстаіць з нарыхтоўкамі такога насеньня, як канюшына, віка, сэрадэля, лубін і караньплоды, якіх значную частку трэба завозіць з-за межаў БССР і ўпэўненасьці ў тым, што нашы заяўкі будуць цалкам забясьпечаны,—няма. У прыватнасьці па канюшыне, на якую мы зрабілі заяўку на 850 тон, нам абяцаюць 500—600 тон і то паўдзённых канюшын, якія ў паўночных нашых раёнах сеяць небясьпечна. Таму нашай задачай, ня гледзячы на некаторыя мясцовыя настроі, будзе зрабіць перасоўку з нашых паўднёвых раёнаў у паўночныя, а украінскую канюшыну завезьці ў паўднёвыя нашыя раёны. Гэта першае, а па-другое, трэба разгарнуць нарыхтоўку мясцовых запасаў усяго дэфіцытнага насеньня так, каб яно было ўсё сабрана. На жаль, тэмп работы нашых нарыхтоўчых арганізацый, у асаблівасьці Паляводсаюзу, калі ня будзе зараз-жа зьменен у лепшы бок, не забясьпечваюць выкананьня пастаўленай задачы. Мне здаецца, на гэтую працу трэба зьвярнуць больш увагі, чым зварочвалася да гэтае пары. Пабудаваць нарыхтоўчы апарат па-баявому, ускласьці пэрсанальную адказнасьць на кіраўнікоў загатоўчых арганізацый, Наркамгандлю гэтыя нарыхтоўкі трэба правесьці так, як ён праводзіў нарыхтоўку хлеба і бульбы. Паслаць людзей на месцы, устанавіць дэкадную справаздачу нарыхтавальнікамі.

Становішча, якое мы маем ў галіне жывёлагадоўлі і неабходнасьці рашучага пераломў ў гэтай галіне, ставіць гэтую задачу ў цэнтр усёй работы сельска-гаспадарчай кампаніі гэтага году. І асабліва вялікую работу трэба правесьці ў аграмаджаным сэктары, які павінен стаць асноўнай базай жывёлагадоўлі. Такое становішча, калі стада буйнае рагатае жывёлы ў аграмаджаным сэктары ў гэтым годзе налічвала толькі 38.000, ці каля 2% ад усяго стада, далей нецярпіма і абавязвае нас прыняць рашучыя захады, ня лічачыся са значнымі затратамі, каб у гэтым ужо годзе давесьці стада аграмаджанага сэктару ня менш, як на 25% ад усяго пагалоўя. Плянам прадугледжваецца стада буйнай рагатай жывёлы саўгасаў давесьці з 15.000 галоў да 28.000, ці на 86% павялічыць супроць мінулага году, сьвіней з 3.300 галоў павялічыць да 7.500, ці на 123%, стада калгасаў буйнай рагатай жывёлы з 23.000 галоў давесьці, як мінімум, да 596.000 галоў, сьвіное стада з 5.100 галоў да 782.000 галоў. Гэтыя тэмпы патрабуюць арганізацыі навокал гэтае справы ўсіх рабочых, усіх саўгасьнікаў і калгасьнікаў. Без грамадзкасьці гэтую справу нам не падняць, трэба арганізаваць у бліжэйшы-ж час месячнік жывёлагадоўлі, у правядзеньне якога павінны быць уцягнуты пагалоўна ўсе арганізацыі, камсамольцы, шэфскія таварыствы, дэлегацкія сходы, друк, усё пастаўлена на ногі,

каб ажыцьцявіць намечаныя тэмпы, таму што, калі прыняць пад увагу яшчэ некаторую тэндэнцыю распродажу насельніцтвам жывёлы, дык ґэтыя тэмпы зьяўляюцца напружанымі. Трэба канкрэтна паставіць пытаньне аб арганізацыі цэлай сеткі буйных савецкіх і калектыўных гаспадарак з жывёлаводным ухілам. Для таго, каб падняць жывёлагадоўлю на належную вышыню як колькасна, гэтак і якасна, трэба арганізаваць кармавую базу, чым да гэтае пары яшчэ, як належыць не займаліся; трэба разгарнуць шырока работу па палепшаньню сенажацяй, закладцы штучных выпасаў, лугоў, дабіцца абавязкова ў гэтым годзе пабудовы сілосных установак ва ўсіх саўгасах і калгасах.

Правядзеньне суцэльнай калектывізацыі і наша работа ў саўгасах і калгасах не гаворыць таго, што мы ў будучую вясновую кампанію не павінны весьці працы сярод індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, якія яшчэ ў гэтым годзе ня змогуць увайсьці ў калгасы і ўдзельная вага якіх яшчэ застаецца вялікай. Загэтым ва ўсёй працы падрыхтоўкі правядзеньня пасеўнае кампаніі ні ў якім разе ня трэба забывацца, што і гэты сэктар для дзяржавы мае значэньне, і таму задачай усіх арганізацый і ў асаблівасьці вытворчай коопэрацыі павінна быць абслугоўваньне індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, іх арганізацыя для правядзеньня пасеўнае кампаніі. Камітэты сялянскай узаемадапамогі яшчэ больш павінны разгарнуць працу дапамогі беднякам, жанчынам-адзіночкам, сем'ям чырвонаармейцаў як насеньнем, так і інвэнтаром, каб ніводнага кавалку зямлі ў ґэтых гаспадарках не засталося незасеяным.

Зразумела і відавочна, што правядзеньне гэтых мерапрыемстваў у пасеўную кампанію будзе залежаць ад таго, як будзе пабудована праца партыйных, савецкіх і грамадзкіх установаў, наколькі будзе ўзьнята навокал кампаніі ўся савецкая грамадзкасьць, наколькі рашуча будзе праводзіцца генэральная лінія партыі па выкарчоўваньню карэньняў капіталізму, наколькі будуць забясьпечаны тэмпы ў працы па рэканструкцыі сельскае гаспадаркі і пераводу на вышэйшыя калектыўныя формы, наколькі будзе непрымірымасьць да кулацтва ад усіх выканаўцаў зьверху да нізу. Бясспрэчна, што тыя задачы, якія стаяць перад намі па падрыхтоўцы і правядзеньні пасеўнае кампаніі і асабліва правядзеньні суцэльнае калектывізацыі, вызначанымі мерапрыемствамі ня вычэрпваюцца і многа раз яшчэ прыдзецца займацца ў штодзённай сваёй працы гэтымі вялікімі пытаньнямі. Трэба ўсюды распрацаваць цэлы шэраг практычных мерапрыемстваў, якія-б забясьпечвалі поўнае выкананьне пастаўленых на бліжэйшы год задач у справе соцыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі.

**Рачыцкі.**

---

## Чым шырэй падрыхтоўка—тым вышэй тэмп і посьпехі сельска-гаспадарчай кампаніі другога году пяцігодкі.

# Пастанова Савету Народных Камісараў БССР

## аб вытворчай сельска-гаспадарчай кампаніі 1930 году.

У справе каранной сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі выключна важнае палітычнае і эканамічнае значэньне набывае сельскагаспадарчая кампанія 1930 году, якая павінна даць высокія тэмпы аграмаджаньня сельскай гаспадаркі і ўздыму сельскагаспадарчай вытворчасьці. Вытворчая сельскагаспадарчая кампанія 1930 году, якая будзе праходзіць ва ўмовах абвастрэньня клясавай барацьбы і імкненьня кулацтва сарваць посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва, патрабуе самай энэргічнай мабілізацыі самадзейнасьці і актыўнасьці шырокіх мас рабочае клясы, батрацтва і бядняцка-серадняцкага сялянства ў справе падрыхтоўкі і правядзеньня гэтай кампаніі для забесьпячэньня чоткай арганізацыі ўсёй работы і выкананьня намечаных задач.

Асноўнымі задачамі сельскагаспадарчай кампаніі 1930 году зьяўляюцца:

а) далейшае ўзмацненьне і пашырэньне сыцыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі на базе арганізацыі буйных савецкіх і калектыўных гаспадарак, далейшае энэргічнае наступленьне на кулацкія элемэнты і выкарчоўваньне карэньняў капіталізму гораду і вёскі;

б) давядзеньне да часу вясеньняга севу пасеўнай плошчы ў калгасах ня менш як да 25 проц. агульнай пасеўнай плошчы з давядзеньнем да канца 1929-30 году ўдзельнай вагі калгасаў у агульнай плошчы да 40 проц.; з пераводам нізшых форм калгасаў у высшыя і арганізацыя новых калгасаў пераважна ў высшых формах;

в) пашырэньне агульнай плошчы яравых культур на 6 проц. з засевам 2.300 тыс. га супроць 2.156,5 тыс. га мінулага году, з разьмеркаваньнем па сэктарах: у саўгасах—44,5 тыс. га, у калгасах—614,5 тыс. га і індывідуальных гаспадарках—1.641 тыс. га. У паасобку пашырэньне па культурах: пад ільном і канаплёй на 11 проц. (199,2 тыс. га), пад бульбай на 6 проц. (487,2 тыс. га), пад канюшынай пасеву 1930 году на 50 проц. (120 тыс. га), пад вікай і серадэляй на 40 проц. (142,7 тыс. га), пад лубінам на насеньне і ўгнаеньне на 65 проц. (103 тыс. га) і пасеў кармовых карняплодаў давесьці да 40 тыс. га;

г) падвышэньне ўраджайнасьці у саўгасах на 30 проц., у калгасах на 25 проц. і сялянскіх гаспадарках на 20 проц. у параўнаньні да ўраджаю выходнага году пяцігодкі;

д) фарсіраваньне колькаснага і якаснага разьвіцьця жывёлаводзтва і падвышэньня яго таварнасьці з павялічэньнем пагалоўя буйнай рагатай жывёлы на 10 проц. і сьвіньняў на 30 проц. у параўнаньні з 1928-29 годам, а таксама ўсямернага садзейнічаньня разьвіцьцю жывёлагадоўлі ў гаспадарках сацыялістычнага сэктару праз арганізацыю буйных савецкіх і калгасных племянных і прамысловых жывёлаводных гаспадарак з максымальнай мэханізацыяй працэсаў абслугоўваньня жывёлы і поўнага аграмаджаньня галіны жывёлагадоўлі ў існуючых і арганізуючыхся калгасах, з адначасовым пашырэньнем кармовай базы для разьвіцьця прадукцыйнага жывёлаводзтва, сьвінагадоўлі і дробнай жывёлы,

Для ажыцьцяўленьня пастаўленых перад вытворчай сельска-гаспадарчай кампаніяй 1930 году задач—Савет Народных Камісараў БССР пастанаўляе правесьці наступныя мерапрыемствы:

1. Вызначыць, згодна заявак акруговых выканаўчых камітэтаў, як мінімум для суцэльнай колектывізацыі ў сельска-гаспадарчую кампанію 1930 году цалкам Магілеўскую акругу і наступныя 15 раёнаў:

Гарадоцкі, Сіроцінскі і Сеньненскі—Віцебскай акругі;

Лоеўскі і Хойніцкі—Гомельскай акругі;

Рагачоўскі і Жлобінскі—Бабруйскай акругі;

Лядзянскі, Круглянскі і Расьнянскі—Аршанскай акругі;

Сьмілавіцкі і Капыльскі—Менскай акругі;

Юравіцкі і Калінкавіцкі—Мазырскай акругі і

Ветрынскі—Полацкай акругі.

2. У справе забясьпечаньня сродкамі вытворчасьці прыняць агульны плян машынаснабжэньня на 1929-30 год на суму 12386 тыс. руб. супроць 5722 тыс. руб. мінулага году, вызначыўшы ўзрост ролі аграмаджанага сэктару, які ў 1929-30 годзе павінен атрымаць 70 працантаў усіх машын.

3. Арганізаваць у вясеньні пэрыяд з колькасьці завазімых трактароў і завезеных у мінулыя гады—трактарныя калёны ня менш як па 10 трактараў у кожнай, з камплектамі прычэпных прыладаў, для абслугоўваньня колектыўных і савецкіх гаспадарак і мэліарацыйных работ з максымальнай загрузкай трактароў праз перавод працы трактарных калён на бесьперапынны тыдзень пры 2-х зьменах з забясьпечаньнем іх інструктажам і тэхпэрсаналам па рамонту.

4. Арганізаваць на працягу году 143 рамонтных майстэрні, у тым ліку ў савгасах 21, у калгасах—77, пры сельска-гаспадарчай каапэрацыі—29 і камітэтах сялянскай узаемадапамогі—20, прычым па лініі савгасаў і калгасаў арганізаваць 24 мэханізаваныя майстэрні. Да вясеньняй пасеўнай кампаніі закончыць канчаткова абсталяваньне 70 рамонтных майстэрняў, арганізаваных у 1929 годзе і з нанова-пабудаваных 70 майстэрняў.

Прапанаваць ВСНГ БССР тэрмінова скончыць абсталяваньне на 3-х заводах спэцыяльных цэхаў для рамонту сельска-гаспадарчых машын.

5. Улічваючы запатрабаваньні сплашных раёнаў калектывізацыі і агра-індустрыяльных камбінатаў у мэханізацыі працэсаў сельска-гаспадарчай вытворчасьці, узьняць пытаньне перад Саветам Працы і Абароны аб выдзяленьні для БССР пяці машынна-трактарных станцый у 1929-30 годзе, а таксама аб завозе трактараў і прычэпных прыладаў да часу вясеньняй пасеўнай кампаніі ня менш 60 проц. гадавой плянавай заяўкі БССР для арганізацыі трактарных калён.

6. Загатовіць на мясцовым рынку і прывезьці з-за межаў БССР насеньне: канюшыны 1370 тон (павялічэньне супроць мінулага году на 248 проц.), вікі—4600 тон (рост+282 проц.), сэрадэлы 530 тон (рост+265 проц.), лубіну 4585 тон (рост+435 проц.), карняплодаў 86,3 тон (рост+86 проц.), зернавых—аўса і ячменю—27041 тона (рост+25,8 проц.), ільна-насеньня 4089 тон (рост+56,6 проц.), лугавых траў на 178920 руб. (рост+258 проц.), гародняга насеньня на 182 тыс. рублёў (рост 264 проц.), і ўсяго насеньня на 6594 тыс. руб.

7. Правесьці зернаачышчэньне насеньня яравых, зернавых і тэхнічных культур (ільну) на 100 проц. усяго высяваемага насеньня ў савгасах, калгасах і індывідуальных сялянскіх, бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарках і пратручваньне насеньня ў савгасах на 100 проц., у калгасах на 75 проц. і асобных сялянскіх бядняцка-серадняцкіх гаспадарках на 25 проц.

8. Прапанаваць Народнаму Камісарыяту Земляробства і Белсельтрэсту рашуча прыступіць да арганізацыі спэцыяльных гаспадарак па вырашчваньню лубіну на насеньне з такім тэмпам, каб ужо ў 1930 годзе па лініі саўгасаў была засеяна плошча лубіну на насеньне ў разьмеры 6000 га. Адначасова праз кантрактацыю дабіцца пашырэньня засеву лубіну на насеньне ў калгасах на плошчы 20 тыс. га і асобных бядняцка-серадняцкіх гаспадарках на плошчы 19 тыс. га. Н. К. Земляробства і Белкалгассаюзу ў першую чаргу забясьпечыць насеньнем лубіну плошчы, вызначаныя пад пасеў лубіну на насеньне ў савецкіх і калектыўных гаспадарках.

9. Прапанаваць Н. К. Земляробства, Н. К. Гандлю і выканкомам рашуча ўжыць захады да загатоўкі насеньня сельскагаспадарчых культур праз давядзеньне пляну загатовак па травах да асобных вёсак з уцягненьнем усіх маючыхся насенных рэсурсаў для пасеўкампаніі. Плян нарыхтовак у асноўным павінен быць закончан да 15 сакавіка, а па лубіну да 15 красавіка 1930 году.

10. Утварыць гатунковыя засевы яравых культур у саўгасах на плошчы 20 тыс. га, калгасах і каапэрацыйных аб'яднаньнях 73 тыс. га, а разам 93 тыс. га, у тым ліку пад гатунковым аўсом 39.700 га, пад гатунковым ячменем 15 тыс. га і бульбай 7.800 га.

11. Вытварыць радковы засеў яравых у савгасах на плошчы 10.000 га, у калгасах—55.000 га і ў бядняцка-серадняцкіх сялянскіх гаспадарках сеўнікамі пракатных пунктаў на плошчы 10.000 га, а па ўсім сэктары 85.000 га.

12. Увесьці ў 1929-30 годзе шматпалявыя севазвароты па земляўпарадкаванай плошчы калектыўных гаспадарак 1.000.000 га пахаці, з іх вясной ня менш 600 т. га.

13. Правесьці тарпаваньне за год на плошчы 40.550 га, у тым ліку ў савгасах 3.500 га, у калгасах 17.000 га і каапэрацыйных аб'яднаньнях 20.000 га. Нарыхтаваць

тарпяной падсьцілкі 16.000 тон і тарпянога ўгнаеньня 2.400 т. тон для тарпаваньня ў 1930 г.

14. Правесьці вапнаваньне глебы ў 1930 годзе на плошчы 75 тыс. га, у тым ліку ў савгасах 8.000 га, калгасах 57.000 га і ў паселішчных таварыствах 10 тыс. га з нарыхтоўкай молатай вапны 225 т. тон, арганізаваўшы ня менш 81 размольных установак З гадавога пляну па вапнаваньню ў вясеньнюю пасеўную кампанію пад яравыя і ў паравым кліну завапнаваць 40 тыс. га, а астатнія 35 тыс. га ў час зяблевай ворапкі 1930 году.

Адначасова прапанаваць НК Земляробству, ВСНГ, Белпаляводсаюзу, Белкалгассаюзу, акруговым і раённым выканаўчым камітэтам улічыць усе выяўленыя памылкі і недахопы па мерапрыемствам вапнаваньня ў 1929 годзе, зьліквідаваць іх і забясьпечыць поўнае выкананьне пляну вапнаваньня ў 1930 г.

15. У галіне палепшаньня кармовага пытаньня адначасова з пашырэньнем палявога травасеву і караньплодаў пашырыць карэннае палепшаньне сенажаці (успашка дзярвіны і засеў) у калгасах 10.000 га, у савецкіх гаспадарках—4.200 га і мэліарацыйных таварыствах—13.000 га, а ўсяго—27.200 га, у тым ліку пад штучныя выпасы—1.200 га і паверхавае палепшаньне сенажацяў у калгасах 60.000 га, у савецкіх гаспадарках—3.000 га, мэліарацыйных таварыствах—24.000 га і сялянскіх бяд.-серад. гаспадарках—200.000 га, а ўсяго 287.000 га ў парадку аграмінімуму. Пабудаваць сіласныя ўстаноўкі ва ўсіх савецкіх і калектыўных гаспадарках, якія з'арганізаваны да 1-га сьнежня 1929 году, у малочна-жывёлаводных паселішчных таварыствах ня менш 400 установак, забясьпечыўшы пабудову іх будаўнічымі матар'яламі і ўжыўшы захады да засеву спэцыяльных культур на сілас.

Даручыць Народнаму Камісарыяту Земляробства разам з зацікаўленымі ўстановамі вырашыць пытаньне аб тыпах сіласных установак і забясьпечаньні сіласнага будаўніцтва стандартнымі будаўнічымі матар'яламі і адпаведныя прапановы па гэтым пытаньні падаць на разгляд Эканамічнай Нарады на працягу 2-х месяцаў.

16. Утварыць пасадку новых садоў у 1929-30 годзе на плошчы 4.000 га, з якіх у трэсьціраваных саўгасах 500 га і калгасах 3.500 га, прычым пры пасадцы садоў браць курс на пасадку выключна буйных аграмаджаных садоў, а таксама залажыць у спэцыяльна вызначаных саўгасах і калгасах 2.000 га прамысловых агародаў, прадукцыя з якіх павінна паступаць у рабочыя цэнтры для забясьпечаньня гароднінай рабочага насельніцтва.

17. Для пашырэньня плошчы пад тэхнічнымі культурамі і павялічэньня ўраджайнасьці іх—прапанаваць НК Земляробства, Белсельтрэсту і Белкалгассаюзу прыступіць з гэтага году да арганізацыі спэцыяльных ільнаводнаканапляных гаспадарак у ільнаводных рёнах з такім разьлікам, каб ужо ў гэтым годзе арганізаваць 4 спэцыяльныя гаспадаркі з тэхкультурамі па лініі саўгасаў, 4 спэцыяльных гаспадаркі па лініі калгасаў. Адначасна пашырыць ільняны клін у савецкіх і калектыўных гаспадарках ільнаводных раёнаў і пасевы канаплі ў мэліарацыйных таварыствах, правесьці ачыстку насеньня ільну ў разьмеры 100 проц. агульнай колькасьці засяваемага насеньня і пашырыць у ільнаводных раёнах увядзеньне шматпалёвых севазваротаў, тарпаваньне глебы, ужываньне попелу непасрэдна пад засеў ільна.

18. Для фарсыраваньня арганізацыі савецкіх буйных спэцыяльных ільнаканапляных гаспадарак па лініі аграмаджанага сэктару—прапанаваць НК Земляробства, акруговым выканаўчым камітэтам і раённым выканаўчым камітэтам ужыць рашучыя захады да далейшага вышуканьня свабодных плошчаў (з-пад лесу і мэліараваных) для ўцягненьня іх у спэцыяльныя арганізоўваемыя савецкія ільнаканапляныя гаспадаркі.

19. У галіне буйнай рагатай жывёлы прапанаваць Белсельтрэсту прыступіць да падрыхтоўкі арганізацыі бліз гарадоў Менску, Бабруйску, Гомелю і Віцебску чатырох малочных савецкіх гаспадарак (фэрмаў) з агульнай колькасьцю 1750 кароў з тым, каб 50 проц. заданьня выканаць да 1 чэрвеня 1930 г. і закончыць арганізацыю савецкіх гаспадарак (фэрмаў) да 1 кастрычніка 1930 г.

Лічачы патрэбным шырокае разгортваньне каля буйнейшых гарадоў малочных, малочна-гародных і бульбяна-жывёлаводных савецкіх і калектыўных гаспадарак, запрапанаваць Белкалгассаюзу прыступіць да арганізацыі 4 спэцыяльных малочных калектыўных гаспадарак (фэрмаў), 6 малочна-гародных гаспадарак і 100 бульбяна-жывёлаводных гаспадарак, з тым, каб поўнае комплектаваньне стада памянёных фэрмаў і гаспадарак і арганізацыя іх была скончана на працягу трох бліжэйшых гадоў.

Даручыць Народнаму Камісарыяту Земляробства разам з Белмалжывёлсаюзам, Белрабсэкцыяй і Менсельпромам на працягу месяца распрацаваць пытаньне аб арганізацыі малочных і малочна-гародных гаспадарак з магчыма-шырокім прыцягненьнем да гэтага сродкаў зацікаўленых гаспадарчых арганізацый.

20. Прапанаваць Белсельтрэсту, Белкалгассаюзу і Белмалжывёлсаюзу разгарнуць працу па закупцы буйнай рагатай жывёлы розных узростаў у агульнай колькасьці 47600 галоў з тым, каб да канца вясеньняй сельска-гаспадарчай кампаніі было выканана як мінімум 75 проц. заданьня па закупцы.

21. Устанавіць на 1929-30 г. сетку злучных пунктаў для абслугоўваньня статкаў з наступнай колькасьцю палепшаных бугаёў: у савецкіх гаспадарках 350, у колгасах—1000 і малочна-жывёлаводнай каапэрацыі 2600, а ўсяго 3950 бугаёў.

Прапанаваць усім акруговым і раённым выканаўчым камітэтам скончыць арганізацыю злучных пунктаў да пачатку пасеўнай кампаніі, прычым у паселішчах, якія маюць 30 і больш двароў—арганізаваць сетку злучных пунктаў з грамадзкімі бугаямі.

22. Прапанаваць Народнаму Камісарыяту Земляробства разам з навукова-дасьледчым інстытутам імя У. І. Леніна, Белкалгассаюзам, Белмалжывёлсаюзам і Белсельтрэстам на падставе папярэдніх матар'ялаў навукова-дасьледчага інстытуту імя У. І. Леніна аб выніках досьледаў буйнага рагатага жывёлаводзтва разгарнуць гнёздавую працу над лепшай буйнай рагатай жывёлай у раёнах Менскай, Магілеўскай, Віцебскай і Мазырскай акруг для захаваньня, палепшаньня і распаўсюджаньня гэтай жывёлы. Адначасна прапанаваць Народнаму Камісарыяту Земляробства і навукова-дасьледчаму інстытуту прадягваць работу па выяўленьню гнёздаў лепшай жывёлы і ў другіх раёнах БССР.

23. Для поўнай і своечасовай загрузкі бэконнай прамысловасьці кандыцыйнай сыравінай, а таксама для павялічэньня заводзкай продукцыі для палепшаньня мясцовай сьвінагадоўлі—прапанаваць НКЗему арганізаваць у аграмаджаным сэктары 120 прамыслова-адкормачных бэконных баз, з іх у савецкіх гаспадарках 10, калгасах—85 і па лініі малочна-жывёлаводнай каапэрацыі—25, а таксама 115 племрассаднікаў, з якіх у савецкіх гаспадарках 15 і калгасах 100.

Даручыць Народнаму Камісарыяту Земляробства разам з Белсельтрэстам, Белкалгассаюзам і Белмалжывёлсаюзам на працягу 2 месяцаў вызначыць адпаведныя гаспадаркі для канцэнтраваньня ў іх вышэйпералічаных мерапрыемстваў па сьвінагадоўлі і правесьці падрыхтоўчую працу з такім разьлікам, каб з сакавіка месяца 1930 году прыступіць да будаўніцтва.

24. Даручыць Народнаму Камісарыяту Земляробства, Белмалжывёлсаюзу і Белкалгассаюзу распрацаваць пытаньне аб пераразьмеркаваньні конскага пагалоўя ў БССР у зьвязку з суцэльнай калектывізацыяй раёнаў, сканцэнтраваўшы ў каняводных раёнах племянную працу для забясьпечаньня цягавай сілай гаспадарак сацыялістычнага сэктару. Адначасна пашырыць колькасьць злучных пунктаў да 2000.

25. У галіне насенаводзтва кармавых траў: лугавых і палявых і караньплодаў дабіцца рашучага пераломy, узяўшы напрамак на канцэнтрацыю вырошчваньня гэтага насеньня ў савецкіх і калектыўных гаспадарках праз вылучэньне і ўключэньне ў дзяржнасенкультуру савецкіх і больш буйных калектыўных гаспадарак. Даручыць Народнаму Камісарыяту Земляробства да 15 студзеня 1930 году скласьці плян вырошчваньня насеньня лугавых і палявых траў і караньплодаў у такім разьмеры, каб цалкам прадукцыяй 1930 году забясьпечыць тэмпы і патрэбнасьці ў насенаводзтве 1931 г. і складзены плян унесьці на разгляд і зацьверджаньне Эканамічнай Нарады БССР.

26. Для пашырэньня прамысловага птушкаводзтва, даручыць Народнаму Камісарыяту Земляробства, Белкалгассаюзу і Белмалжывёлсаюзу распачаць гнёздавую працу па мэтызацыі мясцовай птушкі (кур) праз распаўсюджаньне сярод калгасаў 10000 пеўняў і распачаць пабудову 25 інкубатараў, вышукаўшы з адпаведнымі ўстановамі найбольш рацыянальны тып інкубатара для беларускіх умоў і наладзіць мясцовую іх вытворчасьць. Апроч таго, даручыць Белкалгассаюзу арганізаваць 35 племянных рассаднікаў птушкі і 3 прамысловыя гаспадаркі па яечнай прадукцыі.

27. Даручыць Народнаму Камісарыяту Гандлю разам з Народным Камісарыятам Земляробства і кантрактуючымі арганізацыямі на працягу 2-х тыдняў унесьці ў ЭКАНА сводны плян кантрактацыі на 1930 г., выходзячы з патрэбы стопроцантнай кантрактацыі пасеўных плошчаў па зерневых культурах і максымальнага ахопу таварнай часткі па іншых культурах.

Адначасна абавязаць раённыя выканаўчыя камітэты і сельскія саветы больш дапамагаць кантрактуючым арганізацыям праз фактычны ўдзел у справе кантрактацыі з сталай прапрацоўкай плянаў кантрактацыі, кантрактацыйных дагавораў на вытворчых нарадах, камісіях, сэкцыях сельсаветаў і папярэднім шырокім абгаварэньнем на бядняцка-серадняцкіх сходах з уключэньнем у дагаворы мінімуму агрыкультурных мерапрыемстваў адпаведна з умовамі раёнаў і культур, а таксама праверкай іх выкананьня.

28. Прапанаваць ВСНГБ прыняць захады да пуску ў бліжэйшы час усіх размольных фасфарытных установак і ўвядзеньню на іх бесьперапыннага рабочага тыдню і 3-х зьменнай працы.

29. Улічваючы практыку мінулага году па збору і захоўваньню попелу на ўгнаеньне, даўшую ў вясеньнюю пасеўную кампанію звыш 14000 тон попелу, даручыць Народнаму Камісарыяту Земляробства, Вышэйшаму Савету Народнай Гаспадаркі, акрвыканкомам і райвыканкомам арганізаваць сыстэматычны збор і захаваньне попелу на ўгнаеньне на ўсіх прадпрыемствах і сярод насельніцтва гарадоў і вёсак. Даручыць акруговым выканаўчым камітэтам распрацаваць сыстэму мерапрыемстваў па збору попелу насельніцтвам і скарыстаньні яго на ўгнаеньне.

30. Пасьпяховае выкананьне пляну сельскагаспадарчай кампаніі вымагае асаблівай увагі да пытаньняў арганізацыі і падвышэньня прадукцыйнасьці працы, а таксама ўзмацненьня працоўнай дысцыпліны ў калгасах і саўгасах. Даручыць Народнаму Камісарыяту Земляробства, Белсельтрэсту, Белкалгассаюзу і АВК разгарнуць працу па сацыялістычнаму спаборніцтву ў саўгасах, калгасах і ў вёсках, шырока разгарнуць працу па абгаварэньню задач сельска-гаспадарчай кампаніі 1930 году і ажывіць вытворчыя нарады ў вёсках, арганізаваць у саўгасах і калгасах ударныя брыгады.

31. Улічваючы вялікае значэньне сельска-гаспадарчай кампаніі для далейшага пашырэньня сельска-гаспадарчай вытворчасьці і сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, прапанаваць акруговым і раённым выканаўчым камітэтам плян сельска-гаспадарчай кампаніі 1930 г. канкрэтызаваць і давесьці да кожнай вёскі, савецкай і калектыўнай гаспадаркі, абмеркаваўшы ўсе пытаньні сельска-гаспадарчай кампаніі на шырокіх вытворчых нарадах у калектыўных і савецкіх гаспадарках, на прэзыдыумах і пленумах сельскіх саветаў і шырокіх сходах бядняцка-серадняцкіх мас вёскі. Правядзеньне пляну да вёскі цалкам закончыць да 25-га студзеня 1930 г., а плянаваньне ў акругах да 1-га студзеня, у раёнах да 10-га студзеня і сельсаветах—да 15-га студзеня 1930 г.

32. Разгарнуць працу па ўцягненьні ў мерапрыемствы сельска-гаспадарчай кампаніі 1930 г. шырокіх колаў савецкай грамадзкасьці, камсамолу, праф'ячэек, рабочых брыгад, шэфтаварыства, камітэтаў сялянскай узаемадапамогі, настаўніцтва, аграўпаўнаважаных і ўвесь актыў рабочае клясы і бядняцка-серадняцкіх мас.

Даручыць Народнаму Камісарыяту Земляробства разам з прафэсыйнымі арганізацыямі распрацаваць і ажыцьцявіць пытаньне аб пасылцы рабочых брыгад на вёску для падрыхтоўкі да вясеньняй пасеўнай кампаніі. Толькі пры ўмове шырокага ўдзелу ў мерапрыемствах вясеньняй сельска-гаспадарчай кампаніі рабочае клясы і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі можна будзе з посьпехам выканаць вялікія задачы сельска-гаспадарчай кампаніі і ажыцьцявіць вызначаныя мерапрыемствы.

33. Пры правядзеньні ўсіх мерапрыемстваў па сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі забясьпечыць у працы зямельных і каапэрацыйных органаў поўнае ажыцьцяўленьне чоткай клясавай лініі.

Асноўнай умовай далейшага пасьпяховага рашучага наступленьня на кулацкія элемэнты вёскі і прэадаленьня іх супраціўленьня, павінна быць поўнае ажыцьцяўленьне вызначаных мерапрыемстваў па сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, разгортваньне масавай і суцэльнай калектывізацыі, і вытворчага каапэраваньня, пашырэньне кантрактацыі, яшчэ большага ўзьняцьця і арганізацыі самадзейнасьці батрацкіх і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі навакол асноўных практычных задач сацыялістычнага будаўніцтва сельскай гаспадаркі.

34. Даручыць Народнаму Камісарыяту Земляробства і акруговым выканаўчым камітэтам ужыць захады ў тых выпадках, калі кулацкія і заможныя гаспадаркі вёскі, у відзе супраціўленьня сацыялістычным мерапрыемствам, скарачаюць плошчу пасеваў, перадаваць гэтую плошчу для скарыстаньня бядняцкай часткі вёскі, ці аграмаджанаму сэктару.

35. Прапанаваць Белдзяржвыдавецтву і Народнаму Камісарыяту Земляробства своечасна выдаць адпаведную літаратуру да пасеўнай кампаніі 1930 г. і прасунуць яе да чытача. Цэнтральнаму і мясцоваму пэрыядычнаму друку неадкладна распачаць кампанію па папулярызацыі задач і ўсіх практычных мерапрыемстваў сельска-гаспадарчай кампаніі з выяўленьнем усіх недахопаў у падрыхтоўцы да яе.

36. Плян фінансаваньня мерапрыемстваў вытворчай сельска-гаспадарчай кампаніі 1930 году прыняць у агульнай суме 23 млн. руб., з якіх па лініі Белсельбанку 16 млн. руб. і ўзьняць хадайніцтва перад Саветам Працы і Абароны аб пакрыцьці нехапаючай сумы.

37. Прапанаваць Народнаму Камісарыяту Земляробства разам з Дзяржплянам і Народным Камісарыятам Асьветы на працягу двох тыдняў распрацаваць пытаньне адносна кадраў, патрэбных для забясьпечаньня поўнага выкананьня пляну сельска-гаспадарчай кампаніі 1930 г., у паасобку Народнаму Камісарыяту Асьветы і Народнаму Камісарыяту Земляробства распрацаваць пытаньне аб скарыстаньні ў зімовы пэрыяд у выглядзе вытворчай практыкі студэнтаў сельска-гаспадарчай Акадэміі і тэхнікумаў у падрыхтоўцы да правядзеньня вясеньняй пасеўнай кампаніі.

38. Лічачы намечаную плянам пасеўную плошчу ў савецкіх гаспадарках (44,5 тыс. га) недастатковай і надаючы асаблівую ўвагу далейшаму будаўніцтву савецкіх гаспадарак, асабліва буйных, даручыць Народнаму Камісарыяту Земляробства і Белсаўгасцэнтру і акруговым выканаўчым камітэтам прыняць канкрэтныя меры для ўзмацненьня саўгаснага будаўніцтва, палепшаньня работы існуючых савецкіх гаспадарак і арганізацыі новых шляхам выяўленьня зямельных фондаў.

39. Лічыць патрэбным узьняць у цэнтры хадайніцтва аб дадатковым завозе ў БССР 4.166 тон лубіну для вясеньняй пасеўнай кампаніі.

40. Даручыць Цэнтральнай Статыстычнай Управе распрацаваць пытаньне аб прыстасаваньні форм вясеньняга апросу да значна павялічыўшайся ролі аграмаджанага сэктару ў сельска-гаспадарчай вытворчасьці.

41. Лічыць патрэбным, каб 60 проц. вызначаных па пляну фінансаваньня сродкаў было асыгнавана ў першым паўгодзьдзі 1929-30 г. Даручыць Народнаму Камісарыяту Фінансаў і Белсельбанку ажыцьцявіць гэтую дырэктыву.

42. Даручыць Народнаму Камісарыяту Земляробства, акруговым і раённым выканаўчым камітэтам пільна сачыць за выкананьнем пастановы СНК аб правядзеньні ў жыцьцё аграмінімуму і заомінімуму, уцягваючы ў гэтую працу шырокія колы батрацкіх і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі. Распрацаваць і ўстанавіць грамадзкі сыстэматычны кантроль над выкананьнем гэтых мерапрыемстваў.

Старшыня Савету Народных Камісараў БССР М. ГАЛАДЗЕД.

Кіраўнік Спраў Савету Народных Камісараў і Эканамічнае
Нарады БССР М. КАЛЕВІЧ.

14 сьнежня 1929 г.
г. Менск.

„Каб зьністожыць клясы трэба, па-першае, зьністожыць розьніцу паміж рабочым і селянінам, зрабіць усіх работнікамі. Гэтага нельга зрабіць адразу... Яго можна вырашыць толькі арганізацыйнай перабудовай усяе грамадзкае гаспадаркі, пераходам ад адзінкавай абасобленай таварнай гаспадаркі да грамадзкай буйнай гаспадаркі. Паскорыць гэты пераход можна толькі такой дапамогай селяніну, якая-б давала яму магчымасьць у вялізарных памерах палепшыць усю земляробскую тэхніку, ператварыўшы яе ў корані“.

(ЛЕНІН, том XVI, ст. 352).

# ЗА ПРАЛЕТАРСКІЯ КАДРЫ

## Падрыхтоўка кадраў і сел.-гасп. кампанія.

Шпаркі тэмп сацыялістычнага будаўніцтва народнае гаспадаркі і сацыяльна-тэхнічнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі на новай базе немагчым без дастатковай колькасьці кваліфікаваных кіраўнічых і тэхнічных кадраў. Вялізарны недахоп у спэцыялістых, пры наяўнасьці шкодніцтва сярод некаторай нязначнай часткі старых спэцыялістых, ва ўмовах абвастронай клясавай барацьбы ў краіне—ставіць рашуча пытаньне аб фарсіраваньні падрыхтоўкі новых пралетарскіх кадраў спэцыялістых. Дырэктывы партыі аб будаўніцтве буйных калектыўных гаспадарак у земляробстве прабудзілі і арганізавалі ініцыятыву і творчую самадзейнасьць шырокіх мас беднаты і сераднякоў. Будаўніцтва калгасаў уступіла ў такі пэрыяд, калі аб'ектам калектывізацыі становяцца ня толькі асобныя сялянскія гаспадаркі, альбо асобныя паселішчы, але і групы сяленьняў, якія ствараюць цэлыя раёны суцэльнай калектывізацыі.

Гіганцкі размах у галіне будаўніцтва новых форм у сельскай гаспадарцы патрабуе для ўладаньня ім ня толькі колькаснага павялічэньня кадраў, але і іх якаснага палепшаньня. Кадры, якія падрыхтоўваюцца, павінны быць запраўднымі арганізатарамі бядняцка-серадняцкіх мас, накіроўваючы іх вытворчую энэргію на стварэньне сацыялістычных гаспадарак. Калгаснае будаўніцтва ёсьць зьявішча сусьветна-гістарычнага значэньня, таму патрабуе дзеля сябе і спэцыялістага сацыялістычнага тыпу. Патрэбны спэцыялістыя па ўсемагчымым галінам сельскай гаспадаркі, патрэбны інжынэры будаўнікі, мэханікі, тэхнолёгі, электратэхнікі, патрэбны арганізатары масавае калгаснае працы і г. д.

Будаўніцтва сацыялістычнай сельскай гаспадаркі, грунтуючыся на перабудове дзесяткаў тысяч дробных таварных вытворцаў у буйныя, сацыялістычныя фабрыкі земляробства, на зусім новай тэхнічнай базе і апошніх дасягненьняў навукі і тэхнікі, патрабуюць, каб пытаньню аб падрыхтоўцы кадраў была прыкована ўвага ўсёй партыйнай і савецкай грамадзкасьці. Але задача падрыхтаваць кваліфікаваныя кіраўнічыя і тэхнічныя кадры, задача не аднаго дню, а патрабуе некаторага адрэзку часу. Таму нам зараз патрэбна, шляхам адчыненьня цэлага шэрагу курсаў, забясьпечыць калгаснае будаўніцта кваліфікаванай працоўнай сілай, якое хутка разьвіваецца, каб падрыхтаваныя кадры маглі таксама быць здольнымі накіраваць творчую ініцыятыву рабочых саўгасаў, калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкае сялянства на сацыялістычнае будаўніцтва. Трэба таксама паставіць пытаньне аб падрыхтоўцы кадраў з шэрагу Чырвонай арміі, бо мы там маем лепшых прадстаўнікоў батрацтва, беднаты і серадняков, якія пры нязначных затратах сродкаў з боку дзяржавы могуць быць падрыхтаваны і здольны, звarочваючыся з шэрагаў Чырвонай арміі, стаць на чале кіраўніцтва, альбо кіраваньня асобнай галіною сельска-гаспадарчай вытворчасьці.

Савет Народных Камісараў, які разглядаў пытаньне аб забесьпячэньні хутка растучых патрэб у кіраўнічых і тэхнічных кадрах, намеціў наступныя мерапрыемствы: выпуск не пазьней красавіка месяца г. г. з апошніх курсаў сельска-гаспадарчай акадэміі і сельска-гаспадарчых

тэхнікумаў, якія ў агуле павінны даць для сельскай гаспадаркі аграномаў, жывёлаводаў каля 200 чалавек, а таксама зацьвердзіў плян правядзеньня курсаў, на якіх намечана падрыхтаваць кіраўнікоў калгасаў 1500 чалавек, трактарыстых каля 800 чал., рахункаводаў—700 чал., падвышэньне кваліфікацыі калгасаў 4740 чал., курсы для сяброў КСМ 320 чал., курсы для аграўпаўнаважаных і саўпартактыву 8000 чал. і правядзеньне курсаў масларобаў і сыравараў на 270 чал., кантроль асыстэнтаў 150 чал., сяброў ільнаводных т-ваў 1500 чал., садоўніцтва і гародніцтва 320 чал., павышэньня кваліфікацыі рабочых саўгасаў 1950 чал. і цэлы шэраг іншых курсаў.



Група рабочых на курсах калгасьнікаў (Гомель).

На падрыхтоўку і правядзеньне гэтых курсаў зараз патрэбна зьвярнуць асаблівую ўвагу ўсім зямельным органам, асьветы і каапэрацыйным. Трэба на пытаньні аб курсах сканцэнтраваць увагу ўсіх навучальных установ, скарыстаўшы пры гэтым усе навукова-дасьледчыя сілы і ўстановы. Трэба, каб надыходзячая вясеньняя сельска-гаспадарчая кампанія атрымала падрыхтаваны праз курсы шырокі круг працаўнікоў, здольных справіцца з задачай ня толькі пасьпяховай калектывізацыі, але і ўздыму ўраджайнасьці асобных галін сельска-гаспадарчай вытворчасьці. Трэба мабілізаваць усе сілы для таго, каб намечаныя пастановай Савету Народных Камісараў курсы былі праведзены ў жыцьцё.

Нямалае значэньне пры правядзеньні курсаў набывае пытаньне зьместу іх працы, праграм і г. д., а таму партыйныя арганізацыі павінны забясьпечыць дастатковы ўдзел і кантроль у працы гэтых курсаў і, нарэшце, трэба сказаць, што толькі пры актыўным удзеле з боку ўсёй партыйнай і савецкай грамадзкасьці ў падрыхтоўцы кадраў праз навучальныя ўстановы і праз створаныя курсы магчыма забясьпечыць сельскую гаспадарку кваліфікаванымі кадрамі.

**К. Масюкоў.**

# Пра падрыхтоўку сельска-гаспадарчых кадраў.

Рэканструкцыя сельскае гаспадаркі на сацыялістычны лад патрабуе і адпаведных кадраў спэцыялістых, якія-б кіравалі і напраўлялі гэтую рэканструкцыю па шляху разьвіцьця сацыялістычнага сэктару саўгасаў і калгасаў.

Апошні год працы быў годам вялікага пералому ў сэнсе пад'ёму і ўцягненьня новых батрацка-бядняцка-серадняцкіх мас у будаўніцтва грамаджанай гаспадаркі, арганізацыі новых камун і арцеляй і ўзбуйненьне ўжо меўшыхся калгасаў. Так, у 1928 годзе было абагулена 36.238 гектараў зямельнае тэрыторыі, з сярэдняй плошчай на гаспадарку 65 *га*. У 1929 г. (не за ўвесь год) абагулена 143.000 гектары зямельнае тэрыторыі з сярэдняй плошчай на гаспадарку 218 гектар. „Мы больш, чым у тры разы перавысілі плян калектывізацыі, які быў вызначан кантрольнымі лічбамі мінулага году“ [1]).

З гэтага відаць, што ўстаноўка 5-гадовага пэрспэкцыйнага пляну выканана з перавышэньнем нормы, што прыпадае на адзін год, і апошні Пленум ЦК КП(б)Б даў дырэктыву 5-годкі разьвіцьця сельскае гаспадаркі перагледзець нанова, у бок рашучага паскарэньня. Такім чынам была рашуча разьбіта жыцьцём і асуджана права-апартуністычная палітыка, стаўка на хутары і дробныя пасёлкі.

Пашырэньне сацыялістычнага сэктару сельскае гаспадаркі, яе ўзбуйненьне, пашырэньне асноўных сродкаў вытворчасьці, павялічэньне ўраджаю і г. д. і г. д., усё гэта сьведчыць аб правільнасьці рашэньня XV партыйнага зьезду па пытаньню разьвіцьця сельскае гаспадаркі; і гэта абвяргае сьцьверджаньні права-ўхілістых аб „дэградацыі сельскае гаспадаркі“.

Выходзячы з росту гэтага году, наступныя гады павінны даць і дадуць яшчэ большы процант росту грамаджанай гаспадаркі.

Але зусім ня так абстаіць справа з кадрамі. На вялікі жаль, мы ў БССР яшчэ да гэтага часу не завастрылі ўвагу ні дзяржаўных і гаспадарчых установ, непасрэдна кіруючых разьвіцьцём сельскае гаспадаркі, ні савецкае грамадзкасьці і тым самым зусім не пасунулі справу па выкананьню рашэньняў Ліпеньскага Пленуму ЦК УсеКП(б), які даў яскравы і вычэрпваючы напрамак па паскарэньню і палепшаньню падрыхтоўкі новых кадраў.

Той факт, што сельска-гаспадарчыя ўстановы ў гэтым годзе бяруць на сталую працу яшчэ ня скончыўшых студэнтаў і значная частка месц на раёнах зьяўляецца вакантнымі, сьведчыць аб вялікім недахопе сельска-гаспадарчых спэцыялістых.

Згодна пэрспэкцыйнай заяўкі Наркамзему, на 5-цігодку патрэбна будзе 2.484 спэцыялістых. З іх павінна быць падрыхтавана акадэміяй 1.705 асоб; за межамі БССР, шляхам кантрактацыі падрыхтавана будзе 87 і з стыпэндыятаў 65 асоб, а ўсяго 1.875 спэцыялістых, што складзе толькі 75 проц. заяўленай патрэбнасьці. А калі ўлічыць, што разьвіцьцё сельскае гаспадаркі і, у прыватнасьці, яе грамаджанага сэктару будзе разьвівацца значна большым тэмпам, чым гэта прадугледжана пяцігодкай, а гэта ўжо зьяўляецца фактам, дык недахоп у с.-г. спэцыялістых вызначыцца прыблізна ў 3—4 разы.

---

[1]) З дакладу тав. Галадзеда на Пленуме ЦК КП(б)Б.

Якім чынам мы іх рыхтуем? Тут патрэбны некалькі лічб. Зразумела, што асноўным пастаўшчыком высокакваліфікаваных сельска-гаспадарчых спэцыялістых зьяўляецца Беларуская Дзяржаўная С.-Г. Акадэмія імя Кастрычнікавае рэволюцыі, якая выпусьціла па гадох:

| | |
|---|---|
| у 1925-26 г.—139 аграномаў | у 1927-28 г.—89 аграномаў |
| у 1926-27 г.— 76 „ | у 1928-29 г.—67 „ |

Гэты выпуск зусім не адпавядае росту грамадзянай сельскай гаспадаркі і яе запатрабаваньню ў спэцыялістых. Грамадзяны сэктар за год вырас больш, чым у тры разы (запатрабаваньні ў спэцыялістых, відаць з прыведзеных лічбаў), а ня гледзячы на гэта мы маем агульнае зьніжэньне выпуску аграномаў і амаль зусім непрыстасаваных да запатрабаваньняў сучаснага жыцьця. Вучэбныя пляны не адпавядалі і зараз яшчэ не адпавядаюць той устаноўцы, якая ўзята ў разьвіцьці сельскае гаспадаркі.

Пабудова вучэбных плянаў і праграм ВНУ і наогул перабудова ўсяе працы ВНУ адстала ад запатрабаваньняў і жыцьця па меншай меры на тры-чатыры гады.

Курс с.-г. калектывізацыі ў акадэміі ўведзен толькі з 1927-28 н. г., чытаньне і правядзеньне якога пастаўлена яшчэ зусім дрэнна. Бесьперапынная практыка адсутнічае, сыстэма выкладаньня лекцыйная, якую патрэбна зьмяніць на больш актыўны мэтад выкладаньня, масавая культурна-выхаваўчая праца праводзіцца слаба, у сувязі з адсутнасьцю студ. клюбу, выкладаньне грамадзкіх дысцыплін вымагае шмат лепшага. Многа прадметаў выкладаецца наяжджаючай прафэсурай. А адгэтуль, зразумела, што мы маем ня зусім добра падрыхтаванага спэцыялістага з акадэмічнага боку, а таксама з боку ідэалёгічнае вытрыманасьці.

Некалькі лічб аб вытворчасьці працы студэнцтва, ці правільней аб акадэмічнай пасьпяховасьці. У 1927-28 навучальным годзе ўсяго студэнтаў на Агранамічным Ф-це было 493, з якіх толькі 18.2 проц. здалі мінімум, патрэбны дзеля пераходу на вышэйшыя курсы. Засталося на другі год 15,4 проц. ад усяго ліку студэнцтва.

У 1928-29 н. г. усяго студэнтаў на Аграфаку было (бяз IV к.) 407, з якіх здалі мінімум толькі 13,7 проц., засталося на другі год 15,7 проц. ад усяго складу студэнцтва.

Такім чынам, мы маем зьніжэньне процанту здаўшых мінімум (на 4,5) і павялічэньне процанту застаўшыхся на другі год (на 0,3). *Усё гэта сьведчыць аб зьніжэньні вытворчасьці працы студэнцтва, аб марудным тэмпе прахаджэньня навучаньня ў акадэміі, што зусім не адпавядае рашэньням Ліпнёўскага Пленуму ЦК УсеКП(б) аб паскарэньні і палепшаньні падрыхтоўкі новых кадраў.*

Некалькі слоў аб дыплёмах. У 1927-28 навучальным годзе здадзена дыплёмных прац толькі 8, а ў 1928-29 навучальным годзе—15. Такім чынам, амаль усе выпушчаныя студэнты за апошнія 2 гады ня маюць дыплёмаў. Наркамасьветы трэба канчаткова замяніць дыплёмы справаздачамі аб працы на вытворчасьці ці зусім скасаваць іх, бо вопыт мінулых гадоў паказаў, што без стварэньня належных умоў для выканананьня дыплёмных прац, яны зьяўляюцца някыцьцёвымі.

Адгэтуль можна зрабіць наступныя вывады:

1) Неадпаведнасьць між разьвіцьцём сельскае гаспадаркі, патрэбнасьцю ў спэцыялістых і падрыхтоўкай іх.

2) Неадпаведнасьць выпушчаемых спэцыялістых у сэнсе іх прыгоднасьці для рэканструкцыі сельскае гаспадаркі (вучэбныя пляны толькі пачынаюць перабудоўвацца, а жыцьцё ўжо даўно патрабуе новага агранома-арганізатара, кіраўніка буйнай сельскай гаспадаркі, а ня „земца", якога да гэтага часу рыхтавала акадэмія).

3) Марудны тэмп прахаджэньня навучэньня ВНУ, процант застаўленьня на другі год на курсе павялічваецца, а здаўшых мінімум памяншаецца.

4) Маруднасьць і значная адсталасьць у каранной рэарганізацыі вучэбнае справы ВНУ (перабудова праграм і навучальных плянаў).

Усё гэта сьведчыць аб тым, што пастановы Ліпнёўскага Пленуму ЦК УсеКП(б) пачынаюць толькі выконвацца, а Наркамзем, Калгасцэнтр, Белсельтрэст, Белсельсаюз, Белсельбанк нічога не зрабілі ў сэнсе абгаварэньня і вызначэньня тыпу спэцыялістага, патрэбнага для розных галін с.-г. працы, паляпшэньня і паскарэньня выпуску іх.

На падрыхтоўку спэцыялістых трацяцца вялікія сродкі. Кожны студэнт за год дзяржаве абыходзіцца ад 640 руб. да 820 руб., а таму патрэбна прыцягнуць увагу савецкае грамадзкасьці і, у першую чаргу, дзяржаўных і гаспадарчых органаў, каб атрымаць танней добра падрыхтаванага спэцыялістага, адпавядаючага патрэбам разьвіцьця сельскае гаспадаркі.

Наркамзем і да гэтага часу ня ведае, каго рыхтуе акадэмія і як рыхтуе. Пытаньню падрыхтоўкі кадраў мы павінны ўдзяліць максымум увагі і часу.

*„Партыя павінна сканцэнтраваць усе свае сілы на вырашэньне важнейшай для сацыялістычнага будаўніцтва задачы—падрыхтоўкі новых кадраў, пралетарскіх спэцыялістых"* [1]).

**А. М. Сермяжка.**

[1]) Перадавая „Большевик" № 20.



Жанчына-трактарысты. Калгас імя 11-цігодзьдзя Кастрычнікавае рэвалюцыі. Каратковічы. Бабруйскай акругі.



# ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ НА ПЕРШЫ ПЛЯН

**Сілосная вежа ў камуне „Чырвоная Зорка“ (Полаччына).**

## Праз сілосаваньне да перабудовы жывёлагадоўства Беларусі.

### З практыкі сілосаваньня ў камуне „Чырвоная Зорка“ *(Полаччына).*

Імкненьне да павялічэньня колькасьці галоў жывёлы на адзінку плошчы, скарыстоўваньне ўраджаю траў у вільготныя гады (што на Полаччыне здараецца часта), вырашэньне справы недахопу спажыўных кармоў і наогул кармовага пытаньня—выклікала вялізарную цікавасьць з боку камунараў к пераходу на сіласаваньне. Мерапрыемства гэта новае, вопыту ў гэтай працы няма. Усё гэта палохала камунараў. „Вось мы пабудуем сілос, паложым зяляніну, а корм можа ня ўдасца“, разважалі яны. Далей паўставала пытаньне з чаго будаваць, з якога матар‘ялу, якія культуры для гэтай мэты сеяць. Урэшце вырашылі пабудаваць цагляную сілосную вежу.

Вядома, што ў Нямеччыне сьцены сілоснае вежы будуюць ў 1/2 цэглы таўшчыні. Але адсутнасьць вопыту і беднасьць літаратуры ў гэтай справе прымусіла камунараў застанавіцца будаваць у 1 1/2 цэглы. Упаўне магчыма, што дапушчаны памылкі ў частцы таушчыні сьцен, роўна як і ў астатнім будаўніцтве вежы, але вышэй паказаныя прычыны ня далі магчымасьці зрабіць іначай. Для ўхіленьня ад прамярзаньня, у сьцяне вежы ўкладзены дрыўляныя брускі на аднэй лініі, каб магчыма было па меры патрэбы вежу абшыць дошкамі і запоўніць паміж імі і сьцяною ізаляцыйным матар‘ялам. Бутовы фундамант

займае глыбіню ў 2,60 мэтра; пры аснаваньні ён мае таўшчыню ў 1,20 м. і наверсе 1 мэтр. Цокаль займае ўвышыню 0,5 м. пры тэй-жа таўшчыні. Вышыня вежы (з падземнай часткай без драўлянай надбудовы) роўна 9,85 м. Дыямэтр раўняецца 5,50 м. Вежа разьлічана для зьмяшчэньня прыкладна 200 тон гатовага сілосу. Для прыданьня большай устойлівасьці супроць разрыву, на вежу наложаны 4 абручы на вышыні 2; 3,25 4,15 і 5,00 мэтр. ад цокалю. Дзьвярэй зроблена 4, з якіх вышыня ніжніх раўняецца 1,20 м., а рэшта па 0,80 мэтра пры шырыні 0,56 м. і адлегласьць адных дзьвярэй ад другіх 1 м. Дзьверы зроблены падвойныя, асобных рам для дзьвярэй ня зроблена, а толькі прыстасаваны вуглы цагельнай кладкі, як відаць з рысунку. З сярэдзіны дзьверы прыціскаюцца да вежы ціскам сілоснай масы. Знадворку дзьверы прымацаваны пласьцінкамі, якія засоўваюцца ў крукі. У сярэдзіне пласьцінкі мяркуецца зрабіць шрубу, якая сваім паваротам будзе прыціскаць знадворныя дзьверы да вежы. На цагельнай частцы вежы зроблена дзеравяная надбудова каля 1 мэтра, якая зьяўляецца запасам пры асяданьні сілоснага матар'ялу. Гэта зроблена ў мэтах дасягненьня эканоміі ў будаўнічым матар'яле. Бутавая кладка рабілася на цэмантным растворы (у адносінах 1 : 5, кладка цэглы 1 : 4). Падлога вежы бэтонная і мае зьлёгка ўхіл да сярэдзіны. Сьцены ў сярэдзіне атынкаваны ў $1^{1}/_{2}$ сантым. таўшчыні цэмантным растворам у адносіне 1 : $1^{1}/_{2}$. На жаль, к атынкованаму раствору ня быў прымешан церэзіт, які прыдае больш устойлівасьці супроць кіслот, якія ствараюцца ў сілосе ў выніку бушаваньня, з тэй прычыны, што ён (церэзіт) у той час адсутнічаў.


Схэматычны рысунак сілоснай вежы.

Каштоўнасьць вежы вызначаецца ў 2.800 руб., з якіх на матар'ял прыходзіцца каля 2.000 р. і рабсіла 600 руб. Каб зручней было выгружаць і падаваць масу ў вежу, мяркуецца пабудаваць тамбур над дзьвярыма.

Другое пытаньне, якое паўстала перад камунарамі, гэта *сыравінная база для сілосу*. Для гэтай мэты камуна пасеяла 2 гектары сланэчніка, вынікі ўраджаю якога перавысілі ўсе меркаваньні, бо сярод некаторых спэцыялістых была думка, што сланэчнік на Полаччыне ня мае ніякай пэрспэктывы для разьвіцьця. У сярэднім камуна атрымала 655 цэнтнэраў (4.000 пуд.) зялёнае масы з 1 гектару.

Трэба дадаць, што сланэчнік з прычыны адсутнасьці насеньня, быў пасеян позна (у пачатку чэрвеня м-ца). Сеяўся ён на гароднай зямлі, дзе раней былі караньплоды. Як гной, так і штучнае ўгнаеньне ў гэты год пад сланэчнік зусім не ўнасіліся. Догляд быў таксама недастатковы. Асыпаньне зроблена 2 разы, а праматыжана ўсяго 1 раз, замест 4—5, як раіцца. Пасеў рабіўся ручным спосабам па маркеру (у далейшым для пасеву мяркуецца ўжываць ручны плянэт). Адлегласьць паміж радамі 70 сантым., а паміж расьлінамі ў радку 15-18 сант.

Акрамя сланэчніка, была пасеяна на невялікім вучастку (некалькі кв. саж.) земляная груша. На жаль, ураджай яе ня быў падлічан, але тое, што земляная груша дае ня менш зялёнай масы, чымся сланэчнік. не выклікае ніякіх сумненьняў, да таго-ж яна дае яшчэ і клубняплоды. Апошнюю культуру камуна мяркуе пашырыць, калі дастане насеньня.

Для досьледу быў пасеяны вучастак кукурузы (з Бабруйскае акругі), але вынікі атрымаліся нездавальняючыя. Мела яна вышыню ўсяго 20—30 сант., сьцябло было ценкае і беднае лісьцем. У наступным годзе для досьледу камуна мяркуе пасеяць кукурузу гатунку „Конскі зуб".

Прыборка сланэчніка рабілася звычайнымі нажамі і пры зьняцьці ўкладваўся на полі кучкамі па 10—15 сьцяблоў у кожнай. Для рэзкі і падачы сілоснага матар'ялу камуна набыла машыну-сілосарэзку, зробленую заводам „Белмэталётрэсту" (Магілеў), сыстэмы Амэрыканскай „папека". Камуна гэтую машыну атрымала позна і на гэтым пацярпела вялікія страты. Яна патрэбна была з пачатку жніўня, а атрымалі ў канцы верасьня, чаму частка сланэчніка згніла. Машына працуе здавальняюча, але ўсё-ж мае наступныя недахопы; транспарцер зроблен надзвычайна нямоцны і ў першы-ж дзень разарваўся. Прышлося прыстасаваць звычайны столік з дошчак і прасуваць рукамі сыравіну к нажавому апарату. Другі недахоп гэтай машыны— гэта тое, што яна ня мае каробкі скорасьцяй і таму нельга рэгуляваць разьмер сечкі, у залежнасьці ад асаблівасьцяй розных культур. Разьмер рэзкі 12 м.-м. Машына патрабуе больш абаротаў, чым сілосарэзка камуны сыстэмы „Інтэрнацыянал". Пры рабоце трактарам „Фордзон" 10—20 HP забіўка трубы не заўважвалася, але пры рабоце лёкамабілем у 6 HP часта забівалася труба і прыходзілася яе ачышчаць. Машына каштуе 1.100 руб.

Сілосная маса ў вежы раскідвалася роўнамерна і ўтрымбоўвалася нагамі і звычайнымі дрыўлянымі ўтрамбоўкамі. Солі не ўнасілася, кіслым малаком не апырсквалася, як некаторыя раяць. Віказая мешаніна ўтрамбоўвалася больш (сільней), бо яна лягчэй сланэчніка і кепска ўкладываецца. Сілос упаўне ўдаўся. Да карыстаньня камуна мяркуе прыступіць з студзеня месяца. Трэба сказаць, што працэс сілосаваньня зьяўляецца надта простым і не патрабуе ад гаспадара вялікага навыку і кемкасьці, як і звычайнае прыборнае сена.

**З. М. Гарэлік.**

# Больш рашучы курс на сілосаваньне кармоў.

У справе рэконструкцыі нашае жывёлагадоўлі і наогул сельскай гаспадаркі сілосны мэтад кормаздабычы грае грамадную ролю і таму павінны быць прыняты меры к хутчэйшаму ажыцьцяўленьню гэтых мерапрыемстваў. Сілосаваньне дае ўтаненьне харчоў, стварае ўстойлівасьць у кармовай базе, страхуе ад пажараў харчы, часткова разьвязвае пытаньне з недахопам бялкоў, значна паляпшае якасьць жывёлы, утаняе сабекошт прадукцыі і садзейнічае скарэйшаму пераходу да калектыўных формаў індывідуальных сялянскіх гаспадарак. Сілос ва ўмовах Беларусі нясе з сабой цэлую рэвалюцыю ў галіне рэканструкцыі жывёлагадоўлі, у бок яе інтэнсыфікацыі. Сілосаваньне—гэта трактар у жывёлагадоўлі. Даныя камуны „Герольд“ Маскоўскай вобласьці яскрава нам даводзяць, што колькасьць галоў жывёлы ўпаўне магчыма давесьці да 2—3 на 1 гектар зямлі. Па даных той-жа камуны сабекошт 16 кгр. сланэчнага сілосу абходзіцца ўсяго ў 6 кап., а вікааўсяны 10 кап. Даныя калгасаў Полаччыны нам даказваюць, што ва ўмовах паўночнай часткі Беларусі сланэчнік добра сябе адчувае і дае да 4000 пуд. з аднаго гектара. На вялікі жаль, нашы дасьледчыя ўстановы амаль што ў гэтым напрамку мала чаго зрабілі. Зусім мала ўвагі аддаецца пытаньню аб тыпах сілосных установак ва ўмовах Беларусі, што значна абцяжарвае прасуваньне гэтага мерапрыемства ў гаспадарку нашага абагуленага сэктару. Трэба ў бліжэйшы час асьвятліць пытаньне аб тыпах і стандартызацыі сілосных установак у напрамку найбольш танных, устойлівых супроць прамярзаньня, зручных для выгрузкі і мінімальнага ўжываньньня дэфіцытных матар'ялаў. Сілосныя ўстаноўкі, хоць і ў зачатковым відзе, ужо маюцца, трэба, каб дасьледчыя ўстановы сабіралі гэты матар'ял і каб у далейшым будаўніцтва гэтых установак насіла характар арганізаванасьці, плянавасьці. Трэба зараз-жа ўсе намячаемыя мерапрыемствы ў гэтай галіне накіраваць у плянавае русло дасьледчага нагляду. Дасьледчым станцыям неабходна шырэй разгарнуць працу па вывучэньню сыравіннай базы для сілосаў, тэхнічнай апрацоўкі культур, нормаў кармленьня розных відаў жывёлы, якасьці атрымоўваемай прадукцыі, уплыву прамярзаньня і г. д. Белмэтпрому і машына-спрабавальнай станцыі належыць вывучыць работу выпускаемых сілосарэзак на нашых заводах і выправіць тыя ці іншыя дэфэкты. Усе гэтыя пытаньні ня церпяць адкладаньня і патрабуюць хутчэйшага вырашэньня.

Г.

---

# Як пабудаваць хлявы і сьвінарнікі ў калгасах пры наліччы старых будынкаў.

Гіганцкае будаўніцтва калгасаў і саўгасаў высоўвае надзвычайна важнае і складанае пытаньне аб сельска-гаспадарчых будынках. Набыўшы за дванаццаць гадоў працы ў буйных гаспадарках некаторы вопыт у будаўніцтве, лічу неабходным перадаць яго сваім сябром па працы—аграномам-арганізатарам.

У практыцы, я заўсёды імкнуўся будаваць як мага дзяшовы будынак, а разам з гэтым і з самага таннага матар'ялу. Да сучаснага мо-

манту ня ўсе яшчэ калгасы маюць добрыя будынкі для жывёлы. У спадчыну ад абшарнікаў у іх засталіся вельмі дрэнныя, у большасьці выпадкаў, вялікія дзіравыя драўляныя аборы, якія служылі як для жывёлы, так і для хаваньня фуражу. Ня ў лепшым, а нават у горшым, адносна будынкаў, становішчы знаходзяцца калектыўныя гаспадаркі, якія зараз арганізуюцца, бо акрамя невялікіх драўляных хат і хлявоў, у іх нічога няма. Частка арганізатараў лічыць гэтыя будынкі няпрыгоднымі для скарыстаньня на будаўніцтва і ў большасьці пушчаюць на дровы. А між тым недахоп будаўнічых лесаматар'ялаў у паасобных раёнах не дазваляе будаваць усё новыя будынкі, дый каштаваць яны будуць шмат даражэй, чымся пабудова са старых хат і інш.



Пабудова кармушак у хляве.

Турская с.-г. станцыя скарыстала матар'ял старых халодных будынкаў для пабудовы хлява на 100 галоў і сьвінарніка на 40 галоў.

Пабудова вялася наступным чынам: старыя бярвеньні клаліся на каменны (з пустацелае цамэнтавае цэглы) фундамант. Як і ў старых будынках, зачэсаныя канцы запускаліся ў пазы шульляў, якія ставіліся на фундаманце, а ня ўкапваліся ў зямлю як раней. Сьцены з надворнага боку абіваліся лучынай і замазваліся глінай з невялікім процантам цэманту, а зьверху пакрываліся тонкім слоем мешанкі цэманту з пяском (каб ня трэскаліся). Плошча вакон зроблена з разьліку роўнай 1/16 плошчы падлогі. Кармушкі і стойлы зроблены па сучаснаму тыпу, існуючаму ў Нямеччыне і Даніі. Разьмер стойла наступны: даўжыня—1,4—1,5 мэтра, шырыня—1,05—1,1 мэтр., для калавых адкідаў зроблена канаўка 0,5 мэтр. і вузкія (10 × 10) мачаправоды, накрытыя дошкамі (глядзі малюнак). Кармушкі стаяць на падлозе і ўяўляюць

сабою звычайнае карыта, глыбіня якога 25 сант., шырыня 50 сант. Галоўны праход паміж каровамі—2 мэтры. Каровы пастаўлены ў 4 рады, шырыня памяшканьня 18 мэтраў, разьмеркаваньне шырыні відаць з наступнага малюнку.

На аснове двухгадовага вопыту, прыходзім да выніку, што паказаныя памеры ўпаўне здавальняючыя для жывёлы.

У частцы памяшканьня (з паўднёвага боку, каля сьцяны) замест аднаго раду станкоў для кароў, пабудаваны станкі (па тыпу Юрмаліата) для малых цялят. Падлога і кармушкі ў цялятніку і частцы хлява драўляныя. Ў другой частцы памяшканьня ўся падлога, а таксама і кармушкі для кароў—цэмантовыя.

Нагляданьні на працягу 2 гадоў кажуць за тое, што больш пажадана рабіць падлогі драўляныя, а праходы і кармушкі цэмантовыя. Апошнія пры азначаных вышэй разьмерах і спосабу пабудовы іх, робяцца проста з дробнага каменю, пяску і цэманту без жалеза; моцнасьць іх надзвычайна вялікая.




Як відаць на малюнку, каровы ў стойлах разьдзелены адна ад другой жалезнымі дугамі, якія патрэбны толькі на першы час, пакуль каровы прызвычаяцца да гэтых станкоў, а потым можна абыйсьціся і бяз іх. Такім чынам, бадай, ня мэтазгодна будзе рабіць гэтыя дугі, прымайстраваньне якіх каштуе вельмі дорага і асабліва там, дзе няма старых вадаправодных труб, дыямэтрам 2—3 цалі, з якіх робяць гэтыя дугі. Прывязь старчаковая, пабудова яе добра відаць на здымку.

Неабходна адзначыць, што адвязваюцца каровы аўтаматычна, націскам рычага (вагі), які знаходзіцца ў канцы раду і зьвязан з дзеравяным брусам, на якім, на ўбітых у яго крукох, вісяць ланцугі. Кожны крук уваходзіць у два нярухомых прабоі, паміж якімі вісяць ланцугі. Калі рычаг націснуць, дык брусок адсоўваецца на два вяршкі, крукі вылазяць з прабояў і ланцугі скідаюцца, дзякуючы чаму ўсе каровы ў раду ў адзін момант аслабаняюцца.

Кармовы праход зроблен толькі паміж двума сярэднімі радамі, а ў радох каля сьцен кармовым праходам служыць кармовы стол. Падстрэшша (чардак) вялікае і зьмяшчае каля 6.000 пуд. сена, якога якраз хапае для жывёлы на ўсю зіму.

Таксама зроблены сьцены і ў сьвінарніку. Аграномы і загадчыкі саўгасаў, якія наведвалі станцыю, з вялікай цікавасьцю аглядалі гэтыя будынкі і запазычылі пляны для пабудовы ў сябе. Шмат хто просіць прыслаць ім пляны гэтых будынкаў. Спосаб пабудовы са старых, нягодных матар'ялаў пад гліняную атынкоўку з посьпехам можа і павінен быць прыняты нашымі калектыўнымі гаспадаркамі. Будынкаў у сялян, уваходзячых у калгас, хопіць, а гэтых будынкаў і матар'ялаў упаўне хопіць на хлявы для рагатае жывёлы, сьвінарнікі і канюшні.

Такія хлявы, у адзнаку ад каменных, сухія і цёплыя, але менш агнятрывалыя. Апошняя акалічнасьць часта зьяўляецца рашаючым момантам пры пабудове хлявоў на 1.000 і больш галоў. Аднак, мне здаецца, і ў гэтым выпадку выйсьце ёсьць. Трэба будаваць такія-ж

хлявы, навакол квадратовага каменнага 2-х-паверхавага аддзяленьня, у якім захоўваецца для сутачнай дачы корм, а таксама драўляная вежа для сілосу. На другім паверсе гэтага каменнага памяшканьня захоўваецца канцэнтраваны корм. На выпадак пажараў, пры належнай пажарнай ахове, згарыць ня больш як адно зьвяно скотнага двара, ня гледзячы на тое, што ўсе сьцены драўляныя, але-ж дзякуючы атынкоўцы і пры агнятрывалых стрэхах, іх лёгка будзе абараніць ад агню. Плян такога будынку намі паказан н стар. 21.




Схэма папярочнага разрезу хлява.

Пры хлявох, побач з імі неабходна будаваць спэцыяльна гэрмэтычна зачыненыя мачазьбіральнікі. На невялікай адлегласьці (10—12 мэтр.), звычайна ў канцы хлява будуюцца паветкі для складаньня гною, шырынёю 5—6 мэтраў, а даўжынёю ў залежнасьці ад колькасьці гною. Падлога пад паветкай некалькі паглыблена, цэмантавана і злучана трубою з мачазьбіральнікам. Гной пад паветкай захоўваецца па спосабу нямецкага гаспадара Кранца, з тэю зьменаю, што пасьля ўшчыльненьня, у гной кладзецца слой торфу сант. 30 і паліваецца жыжкай. Гэты спосаб ужываецца на станцыі. Усе апэрацыі па кармленьні, па чыстцы гною і ўкладцы яго магчыма мэханізаваць пры дапамозе падвесных дарог і іншых прыстасаваньняў.

М. Драздоў.

---

# За арганізацыю ў БССР акцыянэрнага таварыства „БЭКОН“.

Збожжавая праблема, якая займала ўвагу Савецкага Саюзу ў апошнія гады, набліжаецца да вырашэньня. Ужо ў 1928-29 годзе калгасы і саўгасы далі краіне звыш 130 мільёнаў пудоў збожжа, а ў 1929-30 г. толькі грамаджаны сэктар, па плянавых меркаваньнях, дасьць звыш 400 мільёнаў пудоў.

Зараз з асаблівай вастратой стаіць жывёлаводная праблема. Калі казаць аб жывёлагадаўлі, дык Беларусь мае права ў гэтым пытаньні выйсьці ў першыя шэрагі, узяць на сябе сур'ёзныя заданьні ў выкананьні гэтай задачы.

Сельская гаспадарка Беларусі, якая шпаркім тэмпам перабудоўваецца, дасьць шырокае разьвіцьцё жывёлагадоўлі. Ва ўсёй праблеме беларускай жывёлагадоўлі асаблівае значэньне набывае сьвінаводзтва.

Сьвіное пагалоўе Беларусі складае каля 12 проц. усяго сьвіного стада Саюзу. Па шчыльнасьці-ж пагалоўя Беларусь стаіць на адным з першых месц Саюзу, перавышаючы нават шчыльнасьць сьвінога пагалоўя ў некаторых заходня-эўропэйскіх краінах.

Прыходзіцца сьвіней на 100 душ насельніцтва:

| | | | |
|---|---|---|---|
| СССР | 12,6 | Юга-Славія | 30,0 |
| БССР | 42,6 | Паўночна-Амэрыканскія Злучаныя Штаты | 68,9 |
| Нямеччына | 25,5 | Данія | 90,0 |

Колькасьць сьвінаводзтва ў БССР стаіць на больш высокім узроўні ня толькі ў параўнаньні з Саюзам у цэлым, але і ў параўнаньні з Нямеччынай, хаця і моцна яшчэ адстае ад Нямеччыны па культурнаму ўзроўню сьвінагадоўлі.



Сьвіньні калгасу „РАСЬСЬВЕТ-ПАБЯДЗІЦЕЛЬ-МАЙСКАЕ“ (Жлобінскі раён).

У наступны час цэнтр цяжару нашай працы ляжыць ня столькі ў далейшым колькасным павялічэньні сьвінагадоўлі, колькі ў якасным яе палепшаньні. Толькі дзякуючы высока-якаснаму ўзроўню сваё сьвінагадоўлі, Нямеччына мае магчымасьць абыходзіцца амаль бяз увозу мясных прадуктаў, пракармліваючы сваё прамысловае гарадзкое насельніцтва (якое складае $^3/_4$ усяго насельніцтва) за конт уласных крыніц.

Ва ўмовах Беларусі харчаваньне рабочага насельніцтва, у асноўным, павінна ісьці за конт сьвінагадоўлі і, у некаторай частцы, за конт бракованае буйнае рагатае жывёлы. Пры гэтым трэба меркаваць, што з разьвіцьцём інтэнсыўнасьці працы вынікае і неабходнасьць павялічэньня калёрыйнасьці харчавога прадукту. У гэтых адносінах сьвініна зьяўляецца найбольш калёрыйным харчавым прадуктам:

| | | |
|---|---|---|
| 1 кілё ялавічыны мае | . . . . | 1156 калёрый |
| 1 „ бараніны „ | . . . . | 1450 „ |
| 1 „ сьвініны „ | . . . . | 2500 „ |

Акрамя добраякаснасьці прадукту, які дае сьвіньня ў параўнаньні з іншымі відамі жывёлы, яна зьяўляецца і найбольш удасканаленай машынай, для найбольш выгоднай перапрацоўкі прадуктаў палявое гаспадаркі ў мяса.

Аднак, мэтай шырокага разгортваньня сьвінагадоўлі, палепшаньне яе якасьці, што можна хутка зрабіць праз бэканізацыю сьвінога пага-

лоўя, зьяўляецца ня толькі ў неабходнасьці павялічэньня мясных рэсурсаў для спажываньня ўнутры БССР... Не, у кароткі тэрмін бэканізаваная сьвінагадоўля, арганізаваная ў парадку спэцыяльных сьвінаводных калгасаў і саўгасаў, дасьць ўжо ў бліжэйшы час магутную крыніцу экспарту.

Каб дасягнуць шпаркага эфэкту ў галіне сьвінагадоўлі як з пункту погляду забясьпечаньня прадуктамі яе для ўнутраной патрэбы рэспублікі, так і, галоўным чынам, экспартных мэт, неабходна сканцэнтраваць мерапрыемствы, на вызначаных вучастках, не распыляючы мерапрыемствы, а згуртоўваючы пры невялікай колькасьці аб'ектаў.

Сапраўднае разьвіцьцё сьвінагадоўлі ў БССР патрабуе стварэньня спэцыяльнай арганізацыі па разьвіцьцю гэтае галіны (вытворча-экспартуючай). Гэта арганізацыя, па маёй думцы, павінна быць акцыянэрным таварыствам „БЭКОН"—пры НКЗ БССР і апірацца непасрэдна на шэраг калгасаў і саўгасаў.

Гэтае акцыянэрнае таварыства апроч шэрагу калгасаў і саўгасаў павінна ўключыць у свой склад экспартуючую арганізацыю, а таксама малочна-жывёлагадоўчую коопэрацыю, якая пры буйных малочных заводах будзе весьці адкорм бэконнага матар'ялу.

Саўгасы і калгасы, на якія будзе апірацца акцыянэрнае таварыства, павінны будуць максымальна спэцыялізавацца як сьвінаводныя гаспадаркі. Гэта спэцыялізацыя павінна быць праведзена ў такім разьмеры, каб уся пасеўная плошча ў гаспадарцы скарыстоўвалася выключна для вырасьліваньня кармовых сродкаў для сьвінаводзтва (бульба, караньплоды, травы, ячмень, сіласныя расьліны). Іншыя віды жывёлы павінны трымацца ў гаспадарках толькі ў разьмеры, які неабходны для абслугоўваньня сьвінагагоўлі (малочная жывёла для выпайкі парасят, рабочая жывёла ў разьмеры патрэбы ў цягавай сіле).

Такая спэцыялізаваная гаспадарка ня будзе мець магчымасьці дастаткова вырашчваць азімай саломы для падсьцілкі, а таксама і збожжа для ўласнай патрэбы. Акцыянэрнае вобчаства павінна забясьпечыць гаспадарку хлебам у цэнтралізаваным парадку. Што ж датычыцца саломы для падсьцілкі, дык яна ў большай сваёй частцы павінна будзе замяняцца торфам, часткай-жа набывацца ў вакольных калгасах.

Спэцыялізаваныя такім чынам гаспадаркі змогуць штогодна вырасьліваць і адкармліваць мінімум 5 бэконных сьвіньней на 1 гектар сельска-гаспадарчае плошчы, ці даць таварнае прадукцыі на 1 гектар 400 руб., з якіх каля 300 руб. валютай.

Калі ўзяць першы год невялічкі маштаб працы акцыянэрнага вобчаства,—аб'яднаньне ім 10 саўгасаў і 10 калгасаў, агульнай плошчай 20.000 гектар. дык ўжо першы год працы павінен даць экспартнага тавару на 6 мільёнаў руб. і на 2 мільёны руб. для ўнутранай патрэбы.

Дзейнасьць гэтага акцыянэрнага таварыства будзе шпарка разьвівацца. Трэба думаць, што другі год працы дасьць падваеньне разьмераў вытворчасьці, а ў перспэктыве падзесяцярэньне гэтае велічыні.

Трэба думаць, што грамадзкасьць выкажацца па гэтаму пытаньню на старонках друку, а ўрад, прасьледуючы задачы разьвіцьця сьвінагадоўлі і максымальнага пашырэньня экспартных магчымасьцяй, вынясе рашэньне аб арганізацыі ў БССР акцыянэрнага таварыства „БЭКОН".

**Цэйтлін.**

# Сьцеражыся трыхінозу.

„Трыхіноз сьвіней—вельмі небясьпечная і нявыгойная хвароба. Штогодна ён прыносіць каля 100 тысяч рублёў страты нашай с.-гаспадарцы".

### Што гэта за хвароба і чым яна выклікаецца.

У мясе сьвіньні, сабакі, кошкі, пацука, мышы і ў чалавека сустракаецца вельмі маленькі чарвячок, якога завуць трыхіна. У жывёлы трыхінная хвароба выклікае толькі больш-менш цяжкае занядужваньне, а ў чалавека—часта сьмерць. Чалавек заражаецца трыхінамі, калі ён зьесьць неагледжаную вэтэрынарным доглядам сьвініну, асабліва напоўсырую альбо і зусім сырую, альбо сьвежыя вэнджаныя каўбасы. Калі чалавек зьесьць кавалак сьвініны з жывымі трыхінымі, то апошнія ў кішках множацца і праходзяць з кішок у мяса. Чалавек пры гэтым церпіць страшэнныя болі і памірае ў муках.

### Якая жывёла хварэе на трыхіноз.

Трыхіннай хваробай хварэюць, галоўным чынам, сьвіньні і людзі. Людзі заражаюцца пасьля ўжываньня ў ежу мяса ад хворых на трыхіноз сьвіней. Сьвіньні-ж у сваю чаргу заражаюцца трыхінозам ад пацукоў, якіх яны вельмі спрытна ўмеюць лавіць і з ахвотаю паядаюць. Сьвіньні таксама часта паядаюць трупы пацукоў і адкіды ад сьвіных туш, заражаных трыхінозам. Пацукі ж у сваю чаргу заражаюцца пры паяданьні трупаў другіх пацукоў, трупаў і адкідаў ад сьвіней, хварэўшых трыхінозам. Трыхінозам хварэюць яшчэ сабакі, кошкі і мышы, калі яны паядаюць трыхінозных пацукоў і мышэй. Значыцца гэта вельмі небясьпечная хвароба бязупынна перадаецца ад хворых пацукоў сьвіньням і наадварот.

### Як адбываецца заражэньне трыхінозам.

Заражэньне чалавека і жывёлы пры паяданьні мяса адбываецца з прычыны таго, што ў ім знаходзяцца асобныя чарвякі, так званыя мышачныя трыхіны. Яны вельмі малыя, нябачныя для вока і ляжаць у мясе, скручаныя кальцом (падобна да спружыны). Такія трыхіны нярухомы, абкружаны мяшочкамі і знаходзяцца як-быццам ў сьпячцы. У такім становішчы яны знаходзяцца да таго часу, пакуль не пападуць у іншыя ўмовы жыцьця, пры каторых яны могуць вырасьці і даць патомства. Такія добрыя ўмовы наступаюць для мышачных трыхін тады, калі яны разам з мясям пападаюць у страўнік, а адтуль у кішкі чалавека, сьвіньні, кошкі, сабакі і іншай жывёлы. Папаўшы ў страўнік, а з яго ў кішкі, трыхіна на працягу 2—4 дзён становіцца дарослай і пачынае нараджаць жывых зародкаў. Адна самка можа нарадзіць да 10.000 маладых трыхін. Значыцца, у кішкох могуць паявіцца соткі мільёнаў маладых чужаедаў. Маладыя зародкі бываюць вельмі малыя, ня больш адной сотай міліметра ў даўжыню. Пасьля нядоўгага прабываньня ў кішковай сьлізі, яны пачынаюць вандраваць і заносяцца кроўю ці лімфою ў мускулы і ўкараняюцца там. Тут яны растуць, застаюцца ў спакойным становішчы, скручваюцца падобна да скрутка і абкружваюцца зярнёваю масаю, а зьверх яе авальнаю капсулаю; праз

некалькі месяцаў, звычайна не раней 6, у капсулах праісходзіць адкладаньне вапны. Калі трыхін у сьвіным мясе шмат і яны падвяргаюцца вапнаваму перараджэньню, то пры разгледжаньні такога мяса простым вокам яны бачны ў відзе мелкіх беленькіх пяшчынак. Мышачныя трыхіны вельмі трывалы: яны ня баяцца холаду і ўстойлівы да высокай тэмпэратуры. Звычайнае вэнджаньне і саленьне іх таксама не забівае. Толькі ледзь тэмпэратура ў 70—80 градусаў забівае іх і то на працягу досыць доўгага часу.



Мал. 1, Кавалак мяса з трыхінамі (іх можна бачыць толькі праз трыхінаскоп).



Мал. 2. Кавалак мяса з вапнянымі зярнятамі трыхеін (старыя трыхіны, каля 6 месяцаў).

### Адзнакі трыхіннай хваробы.

Трыхіноз у сьвіней працякае часьцей усяго без асобых відзімых для гаспадара адзнакаў. Толькі часамі ў сьвіней назіраецца панос, некаторая труднасьць пры руху і часовае зьнясіленьне. Наогул-жа апэтыт у сьвіней не парушаецца, і яны, звычайна, лёгка перахвароўваюць.

У людзей-жа трыхінная хвароба працякае вельмі цяжка, пры гэтым, чым больш трыхін папала ў жалудак, тым цяжэй працякае хвароба. Пасьля паносу, часамі з прымешкаю крыві, зьяўляецца вопух на твары, галоўным чынам, павек. Вопух гэты трымаецца ад 3 да 7 дзён. Затым паяўляецца гарачыня: тэмпэратура падвышаецца да 40 градусаў, пачынае балець галава, зьяўляецца слабасьць, разьбітасьць, ламота ўва ўсім целе, а ў цяжкіх выпадках і бяспамяцтва. Пры абмацваньні мускулаў грудзі, ног, шыі, жывата, вачэй хворыя адчуваюць мацнейшую боль. Пазьней боль адчуваецца пры жаваньні, глытаньні, руху і г. д. Голас траціцца, зьяўляецца рыпка.

У лёгкіх выпадках чалавек выздараўлівае праз 3 тыдні, а ў больш цяжкіх выпадках хвароба цягнецца $1^1/_2$—2 м-цы і больш. Трыхіноз выклікае досыць вялікую сьмяротнасьць сярод людзей: на кожную

сотню захварэўшых людзей 30 чалавек памірае. У нас на Беларусі трыхіноз мае вялікае распаўсюджваньне. Па некаторых акругах (Гомельскай, Бабруйскай) заражанасьць ім сьвіней даходзіць да 5—6 процантаў. Штогодна вэтнаглядам зьніштажаецца да 1.000 штук паражоных трыхінозам сьвіней, на суму каля 100.000 рублёў. А колькі такога мяса неагледжанага вэтнаглядам, зьядаецца насельніцтвам і служыць крыніцаю заражэньня людзей на трыхіноз! Па аднэй толькі Гомельскай і Бабруйскай акругах налічваецца некалькі дзясяткаў хворых на трыхіноз людзей. Хвароба пашыраецца з году ў год і ахоплівае ўсё новыя і новыя раёны. Вэтпрацаўнікі адны, без дапамогі насельніцтва, ня змогуць перамагчы гэту хваробу. Тут трэба дапамога самога насельніцтва, якое і павінна быць знаёмым з гэтай хваробай і мерамі барацьбы з ёю. Аб тым, як весьці барацьбу з трыхінозам, пагаворым у наступны раз.

Вэтэрынарны доктар **М. Жарын.**

## Некалькі слоў аб мясным пытаньні.

Побач з пытаньнямі ўзьняцьця народнай гаспадаркі і паляпшэньня харчаваньня насельніцтва, стаіць мяснoе пытаньне. Я кажу „побач" таму, што без шматпольных севазваротаў, без травасеяньня, бяз хлеба, кораньплодаў, бульбы і пераапрацоўкі яе на заводах, немажліва правільна разьвязаць гэтае пытаньне.

Галоўнае ў вырашэньні мяснога пытаньня—будзе халадзільная справа. Пры наяўнасьці правільнай сеткі халадзільнікаў, тушы жывёлы будуць перавозіцца ў вагонах-ледніках з месц загатовак у месцы спажываньня ў буйныя фабрычныя цэнтры, у сталіцы і наогул у вялікія гарады. Халадзільная справа ўтворыць пераварот у мясной справе. З пабудовай належнага ліку вагонаў-леднікаў непатрэбна будзе дастаўка ў гарады жывой буйнае жывёлы.

Зьвернем увагу на выдаткі па дастаўцы буйнае рагатае жывёлы і сьвіней у жывым выглядзе ў месцы ўбою і на выдаткі па дастаўцы тушаў у месцы спажываньня. Мы ўбачым, што пры перавозцы тушаў выдаткі будуць значна меншымі (ад 30 да 40 проц.), чым перавозка жывое жывёлы. Справа ў тым, што туш забітай жывёлы можна нагрузіць у вагон у 6—8 разоў больш, чым жывой, пры амаль што аднолькавым кошце за перавозку (дадатковая плата толькі за лёд і соль). Пры гэтым атрымліваецца значная эканомія ў чыгуначным саставе. Напрыклад: для перавозкі 10.000 галоў буйнай рагатай жывёлы, лічачы 10 галоў на вагон, патрэбна 1000 вагонаў, а для перавозкі 10.000 туш—ня больш 170 вагонаў (да 80 туш на вагон). Дзякуючы гэтаму спажывец атрымлівае таннае мяса, а для агульна-дзяржаўных інтарэсаў вялікую карысьць дае захаваньне вагонаў ад лішняга прабегу. Апрача гэтага, удалая арганізацыя мясное справы павінна ўмацаваць разьвіцьцё малочнай гаспадаркі, як бліжэйшага зьвяна ў агульным ланцугу сельска-гаспадарчай індустрыі.

Неабходна памятаць, што ўсякае дасягненьне дае пэрспэктывы на будучыню, і ўсё гэта ў выніку прывядзе да пераходу ад устарэлай збожжавай гаспадаркі да жывёлаводнай гаспадаркі.

Для харчаваньня насельніцтва ў нас ідзе на ўбой, галоўным чынам, буйная рагатая жывела, затым ідуць авечкі і сьвіньні [1])

У нас пакуль што няма спэцыяльных мясных парод буйнае рагатае жывёлы, як гэта ёсьць замежамі. У нас на мяса б'юць кароў, якія перасталі даіцца. Вось яны і пападаюць у разьніцу. Меншая-ж частка ўбойнае жывёлы, лепшая па якасьці, дастаўляецца з Украіны.

Харчаваньне ўбойнае жывёлы мае вялікае значэньне з тае прычыны, што худое мяса мае значны процант вады (да 80 проц.), і косьці складаюць 1/8 частку вагі ўсяе тушы. Ад худой жывёлы атрымоўваецца мяса значна менш, чымся ад сытай. Выход ячы з гэтага, расцэнка мяса робіцца ня столькі ў залежнасьці ад пароды, колькі ад сытасьці жывёлы.

Калі надаецца перавага пародзе ўбойнай жывёлы, дык толькі з-за хуткасьпеласьці пародзістай жывёлы і вялікай здольнасьці да адкорму. Напрыклад, двухгадовы бычок Шотгорнскай пароды дае жывой вагі ня менш 40 пудоў, у той час, калі жывая вага каровы мясцовай простай пароды ў гэтым узросьце не перавышае 20 пудоў. Тут выразна відаць значэньне пароды Але яшчэ цікавей тое, што гэты вынік атрымліваецца ў пародзістай жывёлы ўдвайне, а то і ўтрайне хутчэй, чым у непародзістай. Ітак, мы бачым, што парода—гэта галоўны рухавік палепшаньня мясное жывёлагадоўлі. На Случчыне сяляне ўлічылі гэты момант у адносінах да сьвіней і разводзяць надзвычайна добрую палепшаную хуткасьпелую пароду (сумесь з іоркшырамі), якая ў 6—7 месяцаў дае ўбойную вагу 5—8 пудоў.

Цяпер чарга за буйнай рагатай жывёлай. Ужо маюцца ў нас завадзкія рассаднікі чырвонай беларускай пароды. Неабходна павялічыць іх колькасна і ўважна сачыць за якасьцю прыплоду, заўсёды пакідаючы на племя экзэмпляры, якія маюць адпаведны экстэр'ер. Роўналежна з такімі гадавальнікамі, карысна выпісаць некалькі экзэмпляраў вытворцаў Шотгорнскай і Абердзін-ангусаўскай пароды для злучкі з самымі буйнымі каровамі, атрыманымі з прыплоду вышэй адзначаных гадавальнікаў.

Ва ўмелых руках—гэта справа абяцае даць вельмі добрыя вынікі. Бясспрэчна, знойдуцца ў нас працаўнікі, якія з любасьцю і ведамі павядуць па шляху паляпшэньня нашу *беларускую чырвоную пароду* рагатай жывёлы.

Вэтэрынарны доктар **І. Умілянаўскі.**

---

# Пошасны выкідак у буйнай рагатай жывёлы.

Гэта хвароба распаўсюджана ў гаспадарках з групавым утрыманьнем жывёлы (с ўгасы, племгасы). Хвароба вельмі заразная, якая перадаецца з загразьненым кормам, з загразьненай вадой, пры злучцы, праз вылучэньні з родавых органаў.

Крыніцаю распаўсюджваньня зьяўляюцца выкідкі і даношаныя плады. Бываюць выпадкі, што карова данашвае, але цялё родзіцца кволае—якое таксама зьяўляецца крыніцаю заразы. У мясцох зьяўленьня выкідка трэба прымаць сур'ёзныя меры, бо рэзультатам гэтай

[1]) У мясцох з пераважнай часткай магамэтанскага насельніцтва і ў вельмі буйных гарадох на ўбой ідуць коні, мяса якіх дзешавейшае за мяса буйнай рагатай жывёлы

хваробы зьяўляецца пагалоўнае зьнішчэньне прыплоду. Кожны выпадак выкідка трэба старанна высьвятляць, бо 61 процант выкідкаў бывае ад пошасных хвароб, а астагнія—ад розных іншых хвароб. У часе выкідка ўсе вылучэньні зьяўляюцца заразнымі, загэтым у гаспадарках трэба вясьці нагляд за каровамі. Тут трэба мець на ўвазе набуханьне вымя, набуханьне родавых органаў, сьлізістыя адлучэньні з родавых органаў, даношаныя плады, калі цялё кволае, і нагляд за бугаямі.

Тыя каровы, якія скінулі, вылучаюць заразу з малаком гадамі. Галоўны момант заражэньня—пэрыяд выкідка, а неданошаныя і даношаныя цялягы распаўсюджваюць заразу. Барацьба з пошасным выкідышам вядзецца гігіенічнымі мерапрыемствамі і папярэджвальнымі прышчэпкамі. Неабходна старанна сачыць за ўсімі жывёламі, рабіць часьцей дызынфэкцыю, мэханічную ачыстку ўсіх адкідаў, пабелку вапнай (з 2 проц. крэолінам), абмываньне сьцен і ясель гарачым растворам соды. Таксама трэба мець нагляд за злучкай, рабіць дэзынфэкцыю цела жывёлы: родавыя органы, хвост, вымя і заднія канечнасьці і наглядаць за выхадам пасьледу. Злучка пасьля выкідка дазваляецца толькі праз тры месяцы. Папярэджвальныя прышчэпкі робяцца пад скуру ў дозе 10,0".

Каб устанавіць гэтую хваробу, трэба абавязкова выклікаць вэтурача, які дасьледваньнем у лябораторыі пацьвярджае пошасны выкідак і прымае ўсе меры супроць распаўсюджваньня гэтай хваробы.

Эпізоот. вэтурач **Богаяўленскі.**



Кантрактацыя маладнячка—ставяць кляймо (Смалявіцкі раён).

# ПАЛЯВОДЗТВА Ў САЮЗЕ З НАВУКАЙ

## Удзел навукова-дасьледчых устаноў БССР у с.-г. кампаніі 1930 г.

У сувязі з узятым тэмпам колектывізацыі, надыходзячая с.-г. кампанія павінна набыць нязвычайна напружаны характар працы. У праўдзеньні гэтай гістарычнай кампаніі няўхільна павінны прыняць найжывы ўдзел усе сельска-гаспадарчыя ўстановы краіны. Роля с.-г. дасьледчых устаноў зьявіцца тым больш значнай, што на шляху новага будаўніцтва вёскі стаіць мноства праблем і пытаньняў, вырашэньне якіх магчыма толькі пры дапамозе навуковых мэтадаў і на аснове мясцовага вопыту. Многія з гэтых пытаньняў і праблем былі прадметам вывучэньня нашых Навукова-Дасьледчых устаноў у мінулым і, хоць далёка яшчэ ў няпоўным аб'ёме, але ўсё ж у вядомай меры асьветлены імі, аднак ва многім зусім ня былі вывучаны і стаяць на чарзе. Значыцца, да гэтых пытаньняў павінна быць сканцэнтравана ўвага ўсіх нашых навуковых працаўнікоў.

У другой палове студзеня 1930 году НКЗ і Беларускі Навукова-Дасьледчы Інстытут Сельскае і Лясное Гаспадаркі імя Леніна склікалі Усебеларускую нараду па сельска-гаспадарчай дасьледчай справе, на якой чарговыя задачы сельска-гаспадарчых Дасьледчых устаноў разгледжваліся з пункту гледжаньня іх падпарадкаваньня агульным задачам сацыялістычнай перабудовы вёскі і тэмпу калектывізацыі на будучыя пяць год. У гэтым карэнным пераглядзе пэрспэкцыйных пляноў і праграм спэцыялістыя і навуковыя працаўнікі ў галіне сельскай і лясной гаспадаркі БССР прымалі ўдзел.

У нашым папярэднім аглядзе мы паспрабуем намеціць важнейшыя чарговыя праблемы навукова-дасьледчай працы,—якія непарыўна зьвязаны з практычнымі мерапрыемствамі надыходзячай с.-г. кампаніяй. Да ліку гэтых мерапрыемстваў неабходна аднесьці: 1) мэханізацыю падрыхтоўкі пасеўнага матар'ялу шляхам сартаваньня і пратручваньня насеньня; 2) замену мясцовых сартоў сэлекцыйнымі; 3) пераход ад папарных, зернавых сыстэм земляробства да плодазьменных, травапольных, сідэрацыйных і нават прамысловых сыстэм земляробства з адпаведнымі шматпольнымі севазваротамі; 4) пашырэньне культуры кармовых расьлін, у тым ліку стварэньне шматгадовых штучных выпасаў, увядзеньне культуры аднагадовых кармовых расьлін для сіласаваньня, караньплодаў—для атрыманьня сакавітых кармоў і зернавых бабовых—для атрыманьня канцэнтраваных кормаў; 5) пашырэньне культуры тэхнічных расьлін для ўсіх відаў с.-г. тэхнічных вытворчасьцяй, а іменна—для вінакурэньня і піваварэньня, для крухмальна-патачнай вытворчасьці, для цукровай вытворчасьці, для маслабойнай вытворчасьці, для тэкстыльнай прамысловасьці, для тутунёвай і кансэрвнай вытворчасьці і г. д.; 6) забясьпечаньне ўрадлівасьці глебы шляхам рацыянальнага ўжываньня і прыгатаваньня гною, кампосту, зялёнага ўгнаеньня, вапнаваньня, фосфарытаваньня, тарфаваньня і ўжываньня мінэральных угнаеньняў—фосфарна-кіслых, калійных і азоцістых;

7) арганізацыя барацьбы са сьмяцьцёвай расьліннасьцю, чужаедамі і шкоднікамі палявых, гародных і садовых культур; 8) арганізацыя папярэдніх мер супроць зьнішчэньня азімых культур; 9) патаненьне з дапамогаю мэханізацыі шляхоў апрацоўкі глебы, пасеву і пасадкі, міжраднай апрацоўкі і прыборкі асабліва ўсіх працаёмкіх тэхнічных культур, як бульба, караньплоды, прадзільныя расьліны; 10) патаненьне, шляхам мэханізацыі, палявога транспарту пры вывазцы гною, кампосту, торфу, вапны і пры возцы снапоў збожжа, зялёнага корму, бульбы і караньплодаў.

Спынімся на пералічаных мерапрыемствах з мэтаю выяўленьня зьвязаных з імі навукова-дасьледчых работ, якія павінны быць уключаны ў праграмы нашых расьлінаводных дасьледчых устаноў.

I. Забясьпечаньне насельніцтва палепшаным пасеўным матар'ялам можа быць дасягнута толькі пры адпаведным абсталяваньні нашых насенных гаспадарак сартавальнымі машынамі ўсіх відаў і апаратурай для сушкі і пратручваньня насеньня ў масавым маштабе; як высьветлілася на спэцыяльнай нарадзе пры БНДІ 15—18 лістапада 1929 году па дакладу НКЗБ—ні насенныя гаспадаркі Белсельтрэсту і Дзяржнаскультуры, ні нават гаспадаркі нашых дасьледчых і сэлекцыйных станцый—не задавальняюць гэтым патрэбам, з прычыны гэтага прымушаны забясьпечваць насельніцтва ня зусім добраякасным насенным матар'ялам; вялікія партыі заражанага галаўнёю насеньня аўса, ячменю і пшаніцы ня могуць быць пушчаны ў пасеў за адсутнасьцю апаратуры для масавага сухога пратручваньня, ня гледзячы на тое, што спэцыяльнымі станцыямі па ахове расьлін за апошнія годы ўстаноўлена высокая эфэктыўнасьць ужываньня навейшых прыбораў для сухога пратручваньня зярна. Сэлекцыйныя станцыі і насенныя гаспадаркі Дзяржнаскультуры безадкладна павінны быць забясьпечаны навейшымі машынамі і апаратамі для выпрацоўкі бясспрэчна добраякаснага і сухога насеннага матар'ялу. Аддзелу мэханізацыі БНДІ неабходна выпрацаваць поўны камплект гэтых машын і прылад для ўсіх насеннавытворчых гаспадарак і ўстаноў, якія павінны быць прыкладам для буйных саўгасаў і калгасаў.

II. Замена мясцовых гатункаў палявых і гародных культур чыстасортнымі сэлекцыйнымі гатункамі ў БССР ня можа быць без некаторае рызыкі зроблена па тэй прычыне, што сортаапрабаваньне і сэлекцыя ў нас вядзецца больш-менш плянава і сыстэматычна толькі на працягу апошніх 2—3 год і прытым ахоплівае далёка ня ўсе культуры. На надыходзячым зьезьдзе па дасьледчай справе ўпяршыню будуць даложаны рэзультаты зводнай навуковай апрацоўкі даных Беларускай сортасеткі (па збожжу, бульбе, цукроваму бураку і ільну) і будзе зроблена спроба раёнаваньня гатункаў хаця-б у маштабе 5 буйных с.-г. раёнаў Беларусі,—хоць варта наперад прызнаць 2—3 гадавыя даныя недастатковымі для канчатковага ўстанаўленьня лепшых гатункаў па раёнах па прычыне рэзкіх надворных ваганьняў у тых кліматычных умовах, якія ўласьцівы нашай рэспубліцы.

III. Пытаньне аб раёнаваньні сыстэм земляробства і севазваротаў зьяўляецца для БССР яшчэ менш распрацаваным, бо няма ў праграмах с.-г. дасьледчых устаноў досьледаў і вывучэньня даных пытаньняў. Нават і ў саюзным маштабе гэтае пытаньне застаецца слаба распрацаваным як паказала нядаўняя спэцыяльная нарада аб сыстэмах земляробства пры Земпляне РСФСР. Тым больш прыходзіцца ў гэтым напрамку весьці работы нашым дасьледчым установам і асабліва экана-

мічнаму аддзелу НДІ. Усё, што ў гэтых адносінах могуць даць нашы навукова-дасьледчыя ўстановы і практыка саўгасаў, будзе прадэманстравана на сельска-гаспадарчай выстаўцы ў 1930 годзе, дзе запраектавана ў выглядзе жывых пасеваў 18 тыповых севазваротаў БССР.

IV. Кармовае пытаньне распрацавана нашымі дасьледчымі установамі значна паўней, маюцца даныя па палявому травасеяньню многалетніх і аднагодніх кармовых расьлін, па культуры бульбы і караньплоду і некаторых зернявых бабовых, але мала даных па стварэньню штучных выпасаў і па культуры сіласных расьлін, а між іншым якраз гэтым двум відам кармоў надаецца ў сучаснасьці найбольшае значэньне.

V. Пашырэньне культуры тэхнічных расьлін да апошняга часу затрымлівалася з аднаго боку адсутнасьцю, або аддаленнасьцю с.-г. тэхнічных прадпрыемстваў, а значыцца незабясьпечанасьцю збыту сыравіны, а з другога боку—вялікай працаёмкасьцю тэхнічных культур і іхнім патрабаваньням моцных угнаеньняў. З арганізацыяй с.-г. прамысловасьці і вялікага ліку аграіндустрыяльных камбінатаў з калгасаў і саўгасаў, а разам з тым са зьдзяйсьненьнем мэханізацыі і хімізацыі ў буйнай сельскай гаспадарцы, для тэхнічных культур ствараюцца зусім спрыяючыя ўмовы. Рэзультаты дасьледваньня на дасьледчых установах БССР бульбы, цукровага буракa, ільну, канапель, піваварнага ячменю, хмелю, тутуну і некаторых лекавых расьлін—дазваляюць разьлічваць на вельмі высокую рэнтабельнасьць усіх гэтых культур ва ўмовах буйных соцыялістычных гаспадарак, якія забясьпечваюць іх выгадны збыт і перапрацоўку на бліжэйшых фабрыках і заводах, а таксама і экспарт іх у неабмежаваных разьмерах.

VI. Аднэй з найцяжэйшых праблем пры пераходзе да інтэнсыўных форм земляробства зьяўляецца нізкі ўзровень ураджайнасьці нашых глеб, якія спустошаны працяжнай драпежніцкай культурай зернявых расьлін. Аднак шматгадовымі працамі расійскіх дасьледчых устаноў высьветлены галоўнейшыя шляхі і спосабы для аднаўленьня і ўздыму ўраджайнасьці нашых глеб, прычым удалося таксама ўстанавіць рэнтабельнасьць „хімізацыі“, гэта значыць ужываньне штучных мінэральных угнаеньняў ня толькі пад збожжавыя, але, яшчэ ў большай ступені, пад тэхнічныя і кармовыя культуры. Застаецца яшчэ нямала пытаньняў адносна рацыяналізацыі спосабаў прыгатаваньня, хаваньня і ўжываньня найбольш танных прыродных і мясцовых угнойных матар'ялаў, як гной, торф, кампост, зялёнае ўгнаеньне, попел, вапна, фасфарытная і касьцяная мука. Усе гэтыя пытаньні патрабуюць яшчэ многіх палявых досьледаў на розных глебах і пад рознымі культурамі.

VII. Ахова культурных расьлін ад пустазельля, чужаедаў і шкоднікаў зьяўляецца адной з першачарговых задач пры пераходзе ад экстэнсыўнага паляводзтва да інтэнсыўнага; у арганізацыі гэтай аховы кіруючая роля павінна належаць дасьледчым станцыям на чале з цэнтральнай станцыяй пры БНДІ. Апошняя арганізуе сетку апорных пунктаў, або карэспондэнтаў па магчымасьці ва ўсіх адміністрацыйных раёнах БССР і дае своечасовыя папярэджваньні і ўказаньні зямельным органам і аграпэрсаналу для прыняцця больш мэтазгодных мер барацьбы. У пэрспэктыўным пляне пяцігодкі прадугледжаны спэцыялісты ботанікі, фітопаталёгі і энтомолёгі ў штаце ўсіх раённых і спэцыяльных дасьледчых устаноў, а ў штаце Цэнтральнай станцыі апроч спэцыялістых—кадр разьезных інструктароў, па адным на кожную акругу.

VIII. Няўдачы з увядзеньнем высокакультурных замежных гатункаў азімых расьлін прымушаюць нас заняцца вывядзеньнем уласных гатункаў азімых, пры чым выходным матар'ялам павінны служыць зусім акліматызаваныя мясцовыя гатункі, больш устойлівыя супроць вымярзаньня і вымаканьня. На Украіне робяцца спробы пертварэньня азімых расьлін у яравыя, пры дапамозе прарасьліваньня насеньня пры нізкай тэмпэратуры (такое прарасьліваньне выклікае больш хуткі рост азімых і дазваляе пасеў азіміны перанесьці на вясну і такім чынам ухіліцца ад дрэнных уплываў зімовага пэрыяду). У нас такіх дасьледаў да гэтага часу не рабілася і да іх будзе прыступлена толькі з вясны 1930 году.

IX. Зьдзяйсьненьне шырокай мэханізацыі палявых работ, бясспрэчна неабходнае і мажлівае пры ўзбуйненьні саўгасаў і калгасаў, спаткае перашкоду ў адсутнасьці мясцовага вопыту адносна цэлага шэрагу новых машын і прылад, гэткія ўсе прычэпныя прылады пры трактарнай цяге, новыя машыны для пасеву і пасадкі, бульбасажалкі, многарадныя культыватары, праворнікі і асыпнікі, караньказапальнікі, уборачныя машыны для прадзільных расьлін, машыны для пяршыннай апрацоўкі, трэсты і г. д. Аддзелу мэханізацыі пры БНДІ трэба выканаць вялізарную работу па апрабаваньню ўсіх такіх машын і прылад ва ўмовах БССР і на падыходзячай с.-г. выстаўцы ўпяршыню будуць сабраны і прадэманстраваны найбольш цікавыя новыя машыны і прылады як саюзнай, так і замежнай вытворчасьці.

X. У праграму таго-ж аддзелу БНДІ, а часткова і ў праграму Аўтадору ўключана таксама апрабаваньне розных спосабаў мэханізацыі палявога транспарту. Аддзел ужо прыступіў да вылічэньня кошту мэханізаванага транспарту адносна 5 дасьледчых станцый БНДІ, якія знаходзяцца навокал Менску (пачынаючы з Менскай Балотнай Дасьледчай станцыі і канчаючы Расьлінаводнай станцыяй пры Малой Сьляпянцы), пры чым высьветлілася, што пры мэханізаваным транспарце, магчымым толькі пры капітальным рамонце грунтавых дарог, атрымаецца вялізарная эканомія параўнальна з існуючым зараз конным транспартам, якая дазваляе акупіць усе капітальныя затраты ўжо на працягу двух першых год. Падобная мэханізацыя транспарту стане неабходнай і для ўсіх буйных агракамбінатаў, у першую чаргу на двух узорных агракамбінатах БССР—у Дубровенска-Лядзенскім і Рагачэўска-Жлобінскім раёнах, у арганізацыі якіх прымаюць жывейшы ўдзел буйнейшыя нашы навукова-дасьледчыя ўстановы, а імення—Беларуская Акадэмія Навук, Беларуская С.-Г. Акадэмія і Беларускі Навукова-Дасьледчы Інстытут імя У. І. Леніна.

Пры дружнай працы ўсіх гэтых установаў і раённых дасьледчых станцый нам удасца перамагчы ўсе тыя перашкоды і цяжкасьці, якія стаяць у вырашэньні задач дасьледчай працы ў с.-г. кампаню 1930 г.

**Праф. У. У. Вінэр.**

---

# Як і чым угнойваць глебу, каб павялічыць ураджай палёў.

Досьледы Віцебскай станцыяй пачаты нядаўна, таму рана яшчэ рабіць канчатковыя вынікі, але яны вельмі цікавыя.

Найлепшае ўгнаеньне, якое маецца ва ўсіх гаспадарках, бясспрэчна—гной. Бяз гною апрацаваць належным чынам глебу не маг-

чыма. Ня толькі жыта, бульба, ячмэнь і пшаніца дрэнна аплачваюць працу бяз гною, але і канюшына, авёс, лён і інш. даюць добры ўраджай толькі ў тым выпадку, калі ідуць пасьля расьлін, пад якія быў пакладзены гной.

Значэньне гною магчыма бачыць з наступных досьледаў станцыі (глеба—суглінак, ураджай у цэнтнэрах з гектара):

| Культура | Без угнаеньня | | 13 тон гною | | 36 тон гною | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Зерня | Саломы | Зерня | Саломы | Зерня | Саломы |
| Жыта . . . . . | 6,9 | 10,0 | — | — | 22,4 | 37,5 |
| Авёс . . . . . | 9,3 | 12,5 | 13,7 | 20,8 | 16,5 | 26,9 |

Гэты досьлед высьвятляе вялікую дзейнасьць гною на павялічэньне ўраджаю ня толькі жыта, але і аўса. Мала гэтага, пры ўжываньні гною да 36 тон на гектар, ураджай значна павышаецца ў параўнаньні з увалам у 18 тон, як пры пасеве жыта, гэтак і аўса, хоць апошні лепш аплачвае гной пры меншых увалах. Такім чынам, у Віцебшчыне для дастатковага ўгнаеньня суглінкавай глебы трэба мець багата гною. На супяскавай глебе станцыя досьледаў не рабіла. Па досьледах-жа іншых устаноў вядома, што трэба ўжываць гной хоць па троху, але амаль што пад усе расьліны.

Каб мець больш гною, трэба пашыраць гадоўлю жывёлы. Для гэтага трэба ўводзіць шматпольле. Пры недахопе гною вялікае значэньне мае прыворка лубіну і інш. бабовых расьлін на зялёнае ўгнаеньне. На пескаватых і супяскавых глебах бяз лубіну немагчыма падвысіць ураджай, бо на іх травы кепска растуць, а таму цяжка трымаць багата жывёлы, каб мець здавальняючую колькасьць гною. Але ня толькі на пескавой глебе трэба сеяць на прыворку лубін. Па досьледах Новазыбкаўскай дасьледчай станцыі лубін лепш расьце на суглінкавай глебе. Прычым, калі яго ўжываць на тым полі, дзе перад тым быў гной, дык ураджай збожжавых і інш. расьлін падвышаецца так, як-бы пасеў зроблен на гародзе.

Нашы досьледы з каноплямі на палявой беднай супяскавай глебе далі наступныя вынікі (у цэнтнэрах на гект.):

| | Без угнаеньня | 1080 цэнтн. гною | 540 цэнтн. гною і зялёнае ўгнаеньне |
|---|---|---|---|
| Зернят . . . . | 0,45 | 7,65 | 6,30 |
| Трэсты [1]) матачнай . | 5,25 | 34,35 | 34,78 |
| Трэсты выбіранак . | 3,30 | 10,20 | 16,00 |

З досьледаў відаць, што прыворваны пад каноплі лубін замяніў 540 цэнтн. гною, а заворана яго было ўсяго 400 цэнтн. Вось чаму гаспадары павінны зьвярнуць увагу на зялёнае ўгнаеньне.

Сялянам трэба раіць як лепш увесьці зялёнае ўгнаеньне ў гаспадарцы.

[1]) Трэста, вырваныя, ня цёртыя каноплі (таксама і лён).

Трэба даведацца: дзе можна купіць лубіну, як і калі лепш яго сеяць, як і калі прыворваць пад жыта ці ярыну.

Дрэнна, што лубін у Віцебшчыне не заўсёды высьпявае на насеньне. Таму мяркуецца, што замест яго карысьней будзе сеяць на зялёнае ўгнаеньне сэрадэлю, боб, канюшыну, доньнік і інш. расьліны, насеньне якіх магчыма атрымаць у сваёй гаспадарцы. Гэтыя расьліны, асабліва канюшына і сэрадэля, каштоўны тым, што не займаюць поле пры пасеве без карыстаньня—іх магчыма падсяваць пад ярыну, пад жыта; больш таго, магчыма скасіць на корм, а прыворваць атаву.



Трактары за працай на балотным Масыве (саўгас Шпакоўшчына, Пол. акр.).

Кажуць—шкода прыворваць корм. Але памыляецца той, хто так разважае. Прыворваньне канюшыны і сэрадэлі больш карысна, чым прыборка на корм, бо пасьля яе ўраджай так павялічваецца, што каштоўнасць корму зварочваецца на першым-жа корані, ня кажучы аб уплыве на наступныя пасевы. Вось чаму ў Нямеччыне, дзе лубін добра высьпявае, усё-ж часта сеюць канюшыну і сэрадэлю як на корм, так і на прыворку.

Нельга пакінуць бяз увагі пытаньне аб штучных угнаеньнях. Досьледы на суглічку высьветлілі асаблівую карысьць ад супэрфасфату. Так, пры ўжываньні 3 цэнтн. на гектар, атрыман наступны ўраджай:

| Культура | Без угнаеньня | | Угноена супэрфасф. | | Прыбаўка ўраджаю | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Зерня | Саломы | Зерня | Саломы | Зерня | Саломы |
| Жыта . . . . | 13,00 | 19,90 | 19.70 | 35,10 | 6.70 | 15,20 |
| Авёс . . . . | 9,30 | 12,50 | 14,70 | 19,20 | 5,4 | 6,7 |

Супэрфасфат даў прыбытку ўраджаю жыта і аўса ў два разы большы па каштоўнасьці, чым ужыта ўгнаеньня. 3 цэнтн. ўгнаеньня павялічылі ўраджай на 10 мяхоў збожжа. Пад бульбу, канюшыну і лён супэрфасфат таксама карысны на суглінку. Аднак, пад гэтыя расьліны ня менш цікава калійная соль і салетра. Падлік усіх досьледаў са штучнымі ўгнаеньнямі вызначаюць вялікую карысьць ад іх; ня было выпадкаў, калі-б яны не аплачвалі сваю каштоўнасьць у адзін год. Ужываючы штучнае ўгнаеньне, трэба ведаць, што на лёгкіх пескаватых і супяскаватых глебах салетра і калійная соль даюць лепшыя вынікі, чымся на суглінку і гліне. Супэрфасфат, наадварот, робіць лепшы ўплыў на суглінку і меншы на пескаватых глебах.

На суглінку і гліне надта карысна ўжываньне вапны, крэйды, мергэлю, каб паменшыць кісласьць гэтых глеб. Досьледы далі наступныя ўраджаі ярыны ў цэнтнэрах на гектар:

| Культура | Без угнаеньня | | 18 цэнтн. крэйды | | Калійн. соль | | Калійн. соль +18 цнт. крэйд. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Зерня | Саломы | Зерня | Саломы | Зерня | Саломы | Зерня | Саломы |
| Авёс . . . . | 9,3 | 12,5 | 11,2 | 17,2 | 12,6 | 14,8 | 14,9 | 21,4 |
| Ячмень . . . . | 1,5 | 7,6 | 6,1 | 13,5 | — | — | — | — |

18 цэнтн. падвысілі ўраджай аўса і ячменю на 2 цэнтн. зерня і 5 цэнтн. саломы. Гэту дзейнасьць крэйды (вапны) на першы корань трэба лічыць надта карыснай, таму што вапна звычайна падвышае ўраджай, галоўным чынам, на другі і трэці год пасьля ўжываньня яе.

Акрамя пералічаных угнаеньняў, станцыя вядзе досьледы з торфам. Адзін торф на суглінку даваў невялікую прыбаўку ўраджаю. Пры ўжываньні-ж з калійнай сольлю і супэрфасфатам добра падвысіў ураджай жыта.

| Ураджай жыта | Без угнаеньня | Торф 360 цэнтн. | Торф 180 цэнтн., кал соль і супэрфас. |
|---|---|---|---|
| Зерня . . . . | 6,9 | 9,5 | 13,2 |
| Саломы . . . . | 10,0 | 14,5 | 17,0 |

З досьледаў Віцебскай дасьледчай станцыі відаць, якую вялікую патрэбу адчувае глеба Віцебшчыны ва ўгнаеньнях.

Угнаеньне глебы гноем зьяўляецца асновай угнаеньня. Гною кожны гаспадар павінен зьбіраць як мага больш. Гэта пытаньне магчыма вырашыць шляхам увядзеньня шматпольля з канюшынай і пашыранымі пасевамі бульбы і караньплодаў. Як відаць, суглінкі патрабуюць большай колькасьці, але-ж ня частых увалаў гною. пяскаватыя, наадварот, патрабуюць амаль што ня штогодняга ўнясеньня гною.

Падсумоўваючы ўсё сказанае, трэба мець на ўвазе наступнае:

Каб падвысіць ураджай палёў, неабходна карыстацца зялёным угнаеньнем. Без зялёнага ўгнаеньня, дзякуючы кепскаму разьвіцьцю траў на пяскаватых глебах, нельга чакаць здавальняючых ураджаяў, Аднак і на суглінку трэба зьвярнуць увагу на зялёнае ўгнаеньне, таму што пры чаргаваньні гною і лубіну магчыма дабіцца такіх ураджаяў. у полі, якія бываюць толькі на значна ўгноеных вучастках пры сялібе. Штучныя ўгнаеньні дужа карысны. На суглінку трэба асабліва цікавіцца супэрфасфатам, на пескавых глебах—серна-кіслым амоніем і калійнай сольлю.

Добра ўгнойваць поле торфам, прычым трэба да яго дадаваць калійнай солі (1—2 цэнтн. на гектар) і супэрфасфату ці фасфарыту ад 3 да 6 цэнтн. на гектар.

На суглінку трэба ўгнойваць вапнай, крэйдай, мергэлем, каб пазбавіць глебу кісласьці, бо іначай збожжа і канюшына ніколі не дадуць добрага ўраджаю.

**А. К. Энгельгардт.**

(Віцебская с.-г. дасьледчая станцыя).

# Скарыстаньне торфу на Віцебскай Дасьледчай Станцыі.

Карыстаць торф на ўгнаеньне Віцебская Дасьледчая Станцыя пачала з досьледаў у 1926 г. З таго часу на працягу 3-х гадоў ставяцца досьледы ў сялян-дасьледчыкаў.

З досьледаў атрыманы наступныя вынікі:

| | Бяз торфу | | Па 360-720 дв. цнт. торфу | | Прыбытак | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Па досьледам | Зерня | Саломы | Зерня | Саломы | Зерня | Саломы |
| На вёсцы | 3,8 дв. цн. | 9,6 дв. цн. | 5,7 дв. цн. | 15,0 дв. цн. | +1,9 дв. ц. | 5,4 дв. цн. |
| Па даным дасьл. ст. | 6,9 „ „ | 10,9 „ „ | 9,5 „ „ | 15,1 „ „ | +2,6 „ „ | 4,2 „ „ |

Гэтыя вынікі далі магчымасьць Дасьледчай Станцыі з восені 1928 г. пачаць практычнае карыстаньне торфам.

Перш-на-перш Дасьледчая Станцыя купіла 25 тон тарфянага падсьцілу на Смаленшчыне, бо ў межах Беларусі тарфяны падсьціл не вырабляўся.

Да атрыманьня тарфянога падсьцілу ў аборы клалася салома. Каб жывёла адчувала сабе добра, неабходна было класьці салому штодзенна. Усё-ж пад нагамі было вільготна.

Калі прышоў тарфяны падсьціл, яго патроху клалі пад жывёлу. Салома больш ня клалася. Пад жывёлай стала чорна, але суха, мякка, паветра стала чыстае бяз паху.

Трэба адзначыць, што да ўжываньня торфу ў падсьціл штогодна патрэбна было прадаваць значную частку жывёлы хворай сухотамі, сёлета ня было ні адной хворай каровы.

Прымаючы пад увагу ўсё гэта, а таксама і тое, што дзякуючы ўжываньню тарфянога падсьцілу колькасьць і якасьць гною павялічылася, улетку бягучага году станцыя загатовіла 250 куб. мтр. торфа-парашку. Гэты падсьціл добра сушыць абору, ачышчае паветра ў ёй; праўда, ён пэцкае жывёлу, чаму яго трэба зьверху пакрываць саломай. Акрамя практычнага карыстаньня торфам у якасьці падсьцілу, Дасьледчая Станцыя пачала кампаставаньне „золата“ з торфам, што дае нам магчымасьць ашчадна і раўнамерна разьмяркоўваць каштоўнае ўгнаеньне.

На падставе гэтага Віцебскі Гарсавет выдае пастанову аб стварэньні месца для вывазу „золата“ ў саўгасе Шуршава, дзе з яго, перамешваюць з торфам, і атрымліваюць каштоўнае ўгнаеньне.

Такім чынам карыстаньне торфам у кароткі тэрмін заняла пачэснае месца на Віцебскай Дасьледчай Станцыі, што поўнасьцю адпавядае якасьці торфу, як угнаеньня.

Энгельгардт.

# З практыкі Горацкай с.-г. Дасьледчай Станцыі па прыстасаваньню торфу на ўгнаеньне.

Для палепшаньня фізычных уласьцівасьцяй і забясьпекі эфэкту дзейнасьці мінэральных угнаеньняў на нашых падзолавых суглінках, а таксама і пяскох неабходна іх узбагачаць арганічнымі матэрыямі. На гэта, апрача гною, ідзе лугавы торф.

Досьледы паказалі, што лугавы торф, асабліва на сугліністых глебах, не адразу добра дзейнічае, а праз гады 3-4 пасьля свайго разлажэньня, пасьля чаго паказвае толькі ў поўнай меры свой добры ўплыў на ўраджаі.

Для хутчэйшага разлажэньня торфу і паскарэньня яго ўплыву Горацкая Дасьледчая Станцыя лічыць мэтазгодным да вывезенага на поле торфу дадаць невялікую колькасьць гною. Гной у гэтым выпадку зьяўляецца як-бы дражджамі, якія паскараюць разлажэньне торфу і даюць магчымасьць на першай-жа культуры атрымаць ад торфу добры ўраджай.

Вось 3-гадовыя досьледы дасьледчае станцыі па ўнясеньню торфу з гноем:

| | I год | | II год | III год | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Авёс | | Віка-аўсяная мешанка | Азімае жыта | |
| | Маса | Зерня | Маса | Маса | Зерня |
| Кантроль | 8,91 ц. | 4,19 ц. | 17,10 ц. | 20,34 ц. | 7,94 ц. |
| Гною 360 ц. | 13,52 „ | 6,37 „ | 25,52 „ | 39,20 „ | 14,73 „ |
| Гною 180 | 11,23 „ | 5,18 „ | 23,78 „ | 30,46 „ | 12,57 „ |
| 1/4 гною + 1/2 торфу | 11,82 „ | 5,45 „ | 26.17 „ | 29.01 „ | 12,70 „ |
| 1/2 гною + 1/2 торфу | 15,41 „ | 6,85 „ | 25,56 „ | 32,23 „ | 12,77 „ |
| Торф | 10,56 „ | 4,53 „ | 19,63 „ | 17,47 „ | 6,34 „ |

Прыведзеныя лічбы ўраджаяў паказваюць, што адзін торф у першы год не дае значных вынікаў, але пры сумесным унясеньні торфу з гноем магчыма атрымаць ураджаі ня ніжэй поўнай нормы гною.

Гэтакія-ж вынікі дае і торф на палёх сялян-дасьледчыкаў.

У 1928 годзе былі закладзены два досьледы на бульбу. Вучот паказаў наступнае:

| | | |
|---|---|---|
| Кантроль | 76,4 | цэнт. на гект. |
| Гной 360 ц. | 104,8 | „ „ |
| Торф | 72,55 | „ „ |
| 1/2 торфу + 1/2 гною | 105,8 | „ „ |

Пры ўнясеньні ў чыстым папары 6-ціпалёвага севазвароту аднаго торфу, на Іванаўскім і Дрыбінскім дасьледчых палёх, былі атрыманы па паасобных культурах наступныя вынікі.

| | Іванаўскае дасьлед. поле (сугліністая глеба) | Дрыбінскае дасьлед. поле (супясч. глеба) |
|---|---|---|
| | Прыб. у %% | Прыб. у %% |
| Жыта на чыстым пап. | + 6,6 | + 3,0 (зерня) |
| Канюшына 1 г. | + 6,1 | + 35 (сена) |
| Жыта на канюш. пап. | + 12,5 | + 20 (зерня) |
| Авёс | + 24,1 | + 20 (зерня) |

Торф, унесены ў чыстым відзе, пачынае даваць добрыя прыбаўкі на сугліністай глебе Іванаўскага дасьледчага поля толькі пад чацьвертаю культураю, а на супясчанай ужо на другой культуры, што тлумачыцца, галоўным чынам, хуткасьцю разлажэньня торфу ад глебавага тыпу.

Як бачым, з кароткага пераліку дадзеных досьледаў, торф зьяўляецца магутным сродкам для падвышэньня ўраджаяў. Асабліва трэба прапанаваць сумеснае ўнясеньне торфу з гноем, што дазволіць вырашыць пытаньне правільнага ўгнаеньня нашых палёў і атрыманьня высокіх ураджаяў. **А. Берзін.**

---

## Апыльваньне, як новы сродак барацьбы з сажаю (галаўнёю) збожжа.

У нас на Беларусі вельмі распаўсюджана хвароба на збожжы—сажа. Улетку 1927 году ў Горацкім раёне заражонасьць ёю збожжа была наступная: авёс—20 проц., ячмень—10 проц., пшаніца—12,5 проц., проса—10 проц. Страты ад сажы ў Горацкім раёне, по майму падліку, былі: аўса—1.062 тоны, пшаніцы—319,96 тон [1]). У 1929 г., па маіх назіраньнях, заражонасьць галаўнёй аўса па Барысаўскаму раёну месцамі даходзіла да 30—40 проц.

Ад сажы сялянскія гаспадаркі Беларусі церпяць кожны год страт ня менш як на мільён рублёў. Таму зразумела, што пратручваньне насеньня збожжавых культур павінна быць першачарговай задачай пры падрыхтоўцы да сяўбы.

Сродкам для барацьбы з сажаю да гэтага часу быў фармалін. (Фармалін ня ўжываўся толькі супроць пылкавай галаўні пшаніцы і ячменю, дзе ён амаль-што зусім ня прыгодзен).

У гэтым артыкуле мы таксама ня зьбіраемся раіць мэтад барацьбы, што будзе апісвацца супроць гэтых відаў галаўні. Але ў пратручаньні фармалінам ёсьць некаторыя недахопы. Па-першае, назіраецца заўсёды некалькі паніжаная ўсходжасьць насеньня, пратручанага ў фармаліне, асабліва, калі пасеў пасьля пратручваньня затрымліваецца на некалькі дзён, або тыдзень. Таму ўсю працу па пратручваньню насеньня фармалінам прыходзіцца рабіць зараз-жа перад пасевам. З-за недахопу часу, гаспадар часта сее непратручаным несеньнем, бо кожная хвіліна ў часе веснавой пасеўкампаніі дорага. З прычыны таго, што пратручанае фармалінам насеньне, паляжаўшы некалькі дзён, псуецца, нельга пратручваць ім на насенссуду на мясцох яе хаваньня.

Другі недахоп пры пратручваньні фармалінам пасеўнага матар'ялу зьяўляецца ў тым, што для выкананьня працы патрэбна шмат часу і месца, а гэта ўскладняе працу, асабліва калі прыходзіцца пратручваць шмат пасеўнага матар'ялу. Такім чынам, пры нашым шпаркім тэмпе калектывізацыі, пры пабудове буйных калгасаў, прыходзіцца шукаць іншых сродкаў для пратручваньня насеньня супроць сажы.

Навукай высунуты новы прынцып—апыльваньне насеньня сухім парашком, замест распаўсюджанага мокрага пратручваньня насеньня фармалінам. Пры гэтым спосабе ня трэба пасьля пратручваньня прасушваць пасяўны матар'ял. Пры сухім спосабе магчыма рабіць апыль-

---

[1]) Глядзі часопіс „Плуг“ № 12—1927 г. „Сажа на палёх Горацкага раёну“.

ваньне ў студзені і лютым месяцах, а таксама і на мясцох хаваньня несенссуды.

Мною на працягу двух год вяліся досьледы па апыльваньню насеньня мядзяным купарвасам і парыскай зеляньню. Атрыманыя даныя сьведчаць, што апыльваньне аўса, ячменю і г. д. супроць галаўні (сажы) дае добрыя вынікі. Вынікі досьледаў наступныя:

1. Кантроль—без пратручваньня і апылкаваньня — 9,0 % параж. гал.
2. Пратручанае 0,15% фарм. . . . . . . . . . . . . . 1,0 „ „
3. Апылкаванае парыскай зеляньню . . . . . . . 0,1 „ „
4. Апылкаванае абязводжаным мядзяным купарвасам 0,05 „ „

Гэтыя лічбы атрыманы як з дасьледчых вучасткаў, так і з пасеву аўса, які апыльваўся ў гэтым годзе на палёх навучальнай фэрмы с.-г. тэхнікуму імя Цюрупы ў Барысаве, у колькасьці 16½ гектараў. Гэты мэтад апыльваньня, як мэтад барацьбы супроць галаўні, у нас ужо ёсьць падставы раіць для калгасаў і саўгасаў Беларусі.


Апыльваньне мядзяным купарвасам насеньня.

Апыльваньне робіцца вельмі проста. Для гэтага трэба ўзяць якую небудзь судзіну, альбо бочку з добрым шчыльным вечкам. У бочку насыпаецца насеньне (аўса, ячменю ці пшаніцы) і сюды дабаўляецца пэўная колькасьць парашка. Абязводжанага мядзянага купарвасу бяруць 12--20 грам на 16 кілё насеньня, у такой-жа колькасьці бяруць і парыскую зелень. Абязводзіць мядзяны купарвас магчыма ў звычайнай сялянскай печы. Для гэтага мядзяны купарвас кладзецца на патэльню і ставіцца на гарачае вугольле ў печ. Праз гадзіну-дзьве мядзяны купарвас, замест сіняга каменю, будзе белым—рассыпчастым парашком. Потым у пасудзіну з насеньнем сыплюць гэтага парашку 12—20 грам на 16 кілё насеньня і добра перамешваюць насеньне з парашком (устрахваючы і пераварачваючы бочку) так, каб кожнае зерне было пакрыта роўным слоем гэтага парашку. Гэта дасягаецца тады, калі пераварачваньне робіцца павольна. Лепш за ўсё для гэтай мэты зрабіць спэцыяльны апарат (глядзі малюнак), які каштуе ня больш 20 р. Ёсьць таксама апараты для апыльваньня завадзкой вытворчасьці[1]).

Ва ўмовах Беларусі апыльваньне раіцца ўпяршыню і большасьць аграномаў з ім мала знаёма, таму трэба за падрабя нымі парадамі звярачвацца на цэнтральную станцыю аховы расьлін БНДІ, Шырокая 28, альбо с.-г. тэхнікум у горадзе Барысаве.

**М. Дарожкін.**

(Барысаў, с.-г. Тэхнікум імя Цюрупы).

---

[1]) Пратручанае мядзяным купарвасам ці парыскай зеленьню насеньне нельга ўжываць для корму жывёле, бо яно атрутнае.

# Сельска-гаспадарчыя машыны і прылады ў справе падвышэньня ўраджайнасьці.

Пастаўленыя задачы перад сельскай гаспадаркай БССР к канцу пяцігодзьдзя падняць ураджайнасьць на 45 проц. па галоўных зерневых культурах і 70 проц. па тэхнічных, мажліва выканаць толькі пры правядзеньні ўсіх тых мерапрыемстваў, якія вызначаюцца дырэктывамі партыйных і савецкіх органаў.

Адным з галоўнейшых мерапрыемстваў па падвышэньню ўраджайнасьці зьяўляецца тэхнічнае ўзброеньне сельскай гаспадаркі, г. зн. забясьпека рознымі с. г. машынамі саўгасаў, калгасаў і паасобных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, якая пакуль што вельмі малая, так на адзін гэктар пасеву прыходзіцца ў рублёх (зьвесткі на 1-VI-28 г.).

| | |
|---|---|
| па саўгасах . . . | 20,2 руб. |
| „ калгасах . . . | 12,7 „ |
| „ паасобных сялянскіх гаспадар. . . | 7,2 „ |

Разгледзім коратка, што розныя с.-г. машыны даюць сельскай гаспадарцы:

Па-першае, сельска-гасп. машыны робяць лягчэйшымі розныя сельска-гасп. работы, прыкладам можа быць праца трактара і жнівяркі параўнальна з сярпом.

Па-другое, с. г. машыны хутчэй выконваюць работу і захоўваюць працу ў гаспадарцы, так, калі трактарам мажліва ўзараць за 8 гадзін—2 гект. гэту працу выканаць плугам мажліва пры 8 конях і 4 рабочых. Праца па абмалоту малатарняй і ў ручную вядома амаль усім, бо адзін малацьбіт пры надзвычайна цяжкай працы абмалоціць цэпам за дзень 1—1½ капы (па 60 снапоў), тады, як на долю таго-ж малацьбіта пры лягчэйшых умовах працы, пры абслугоўваньні малатарні прыпадзе за дзень абмалоту ад 5 да 20 коп, у сувязі з чым кошт абмалоту памяншаецца ў 10 і больш разоў.

Па-трэцяе, праца машыны значна патаняе сабекошт, што відаць з вышэйпрыведзенага прыкладу па абмалоту, а таксама вялікае патаненьне ёсьць і пры рабоце з сенакасілкамі, жнівяркамі і інш.

Па-чацьвертае,—машыны значна паляпшаюць якасьць работы, а дзякуючы гэтаму пры машыннай рабоце падвышаецца ўраджай, чаму, прыкладам могуць служыць зернаачышчальныя машыны і радковыя сяўнікі.

Пры ачыстцы насеньня застаецца розных зярнят пустазельля, бітых, шчуплых у гаспадарцы на спажываньне жывёлы да 10—15 проц. і апрача таго пры засеве ачышчаным насеньнем па дадзеных дасьледчых установаў ураджай падвышаецца на 20—25 проц.

Значыць, ужо адно мерапрыемства па ачыстцы ўсяго высяваемага насеньня можа захаваць па Беларусі шмат тых зярнят, якія раней проста высяваліся ў зямлю бяз усякай карысьці ці нават шкодзілі, калі сеялася насеньне значна засьмечанае розным пустазельлем.

Усё высяваемае насеньне павінна быць ачышчана. Згодна пастановы СНК і гэта мерапрыемства можа даць пры 10 проц. засьмечанасьці нягодных зярнят да 19.500 тон, альбо, лічачы па 30 руб. за тону, будзе эканоміі ў сельскай гаспадарцы—855.000 руб. Апрача таго, на такую-ж суму руб. будзе падвышэньне ўраджайнасьці ад засеву ачышчаным насеньнем.

Налічнымі машынамі можна выканаць ачыстку насеньня па БССР цалкам, але трэба адзначыць, што тэмп насеннаачысткі яшчэ малы і ачышчана на 1-1-30 г. да 3—5 проц. ад заданьня.

Па БССР трэба выконваць ачыстку насеньня тымі машынамі, якія ў нас маюцца.

Пры высеве радковай сявалкай ачышчанага насеньня ўраджай падвышаецца па дадзеных дасьледчых станцый на 5—15 проц. і апрача таго значна эканоміцца насеньне, бо яго менш высяваецца на 25—50 проц., у сувязі з чым купленая радковая сявалка пры скарыстаньні яе на працягу сэзону можа акупіцца ў першы-ж год.

З усіх сельска-гаспадарчых машын найвялікшае эканамічнае значэньне маюць машыны ўборачныя; яны павялічваюць вытворчасьць рабочых у 12—37 разоў, так жнівярка за ўвесь сэзон работы—25 працоўных дзён, дае эканомію на 325 рабочых пры параўнаньні з ручной работай, а снопавязалка на 512 рабочых.

Каротка ўпамянуўшы аб усіх перавагах, якія даюць с.-г. машыны і асабліва больш складаныя як разьлічаныя на конскую цягу, так і на мэханічную, трэба адзначыць, што сялянская гаспадарка і ўноў арганізаваныя калгасы яшчэ мала маюць гэтых машын. Гэта пацьвярджаецца апрача дадзеных вышэй лічбаў адносна кошту машыны, які прыходзіцца на адзін гектар пасеву, яшчэ і тым, што шмат сялянскіх гаспадарак і асабліва бядняцкіх, зусім ня мае ніякага с.-г. інвэнтару. Такіх гаспадарак у 1928 г. па усёй БССР налічвалася 8,1 проц. Апрача таго, яшчэ ёсьць такія гаспадаркі, якія зусім ня маюць плугоў: у 1928 г. іх налічвалася па БССР—12,5 проц., пры чым па Магілеўскай акрузе бясплужных гаспадарак менш—6,7 проц. і па Менскай маецца больш—16,6.

Сошных гаспадарак, карыстаючыхся сахой замест плуга, у 1928 г. налічвалася 14.146, галоўным чынам (да 50 проц.), у двух раёнах Менскай акругі—Плешчаніцкім і Бягомльскім, якія зьяўляюцца далёка адлеглымі ад шляхоў зносін (чыгункі і шасейных), эканамічна адсталымі па вядзеньню сельскай гаспадаркі і з камяністымі глебамі.

Хуткі рост калектыўных гаспадарак на Беларусі, ахапляючы ўсё новыя і новыя бядняцка-серадняцкія сялянскія гаспадаркі, складае найлепшыя ўмовы па скарыстаньню сельск.-гасп. машыні асабліва больш складаных, якіх індывідуальныя гаспадаркі, па прычыне сваёй раздробленасьці, не маглі-б скарыстоўваць.

Калектыўныя гаспадаркі патрабуюць больш складаных, з большай вытворчасьцю розных машын, якія лепш можна скарыстаць у буйнай гаспадарцы.

Лепшымі машынамі зьяўляюцца тыя, якія прыводзяцца ў рух трактарамі.

Але адразу і на працягу яшчэ некалькі гадоў перайсьці да суцэльнай трактарнай апрацоўкі немагчыма, бо наша саюзная прамысловасьць ня можа адразу задаволіць трактарамі і прыцэпнымі машынамі.

Ды гэтага не мэтазгодна зрабіць адразу, бо ў Беларусі ёсьць многа рабочых коняй і align-рознага простага сельск. гасп. інвэнтару, які патрэбна ў першую чаргу скарыстаць, абагуліўшы ў калгасе.

Апублікаваная пастанова ЦК УсеКП(б) аб тэмпу калектывізацыі асабліва падкрэсьлівае „надзвычайную важнасьць у сучасных умовах у якасьці пераходнай меры стварэньня ў калгасах конна-машынных баз і зьмешанага тыпу трактарна-конных баз, якія супольваюць трактарную цягу з коннай“.

Гэта пастанова вельмі сваячасова і адпавядае вялікаму размаху руху калектывізацыі шырачэзных мас бядняцка - серадняцкага сялянства, падводзіць найлепшую машынную базу пад гэты рух па выкарыстаньню сродкаў с.-г. вытворчасьці, дзякуючы чаму пастаўленыя задачы па пашырэньню пасяўной плошчы ў вясеньнюю с.-г. кампанію будуць выкананы.

*Машынна-конная станцыя*, пры абагуленых 400 рабочых коняй, 250 плугох, 125 розных барон, 60 кульціватарах, 30 сеялак, 22 жняярках, 22 сенакасілках і іншых с.-г. машынах можа абслужыць ня менш 2500 гектараў пахаці і 500—600 гект. сенажаці.

Наркамземам Беларусі вызначаецца арганізацыя машынна-конных станцый у раёнах суцэльнай калектывізацыі, па 5 у кожным раёне, і ў іншых раёнах Беларусі па 3. Усяго такім чынам будзе арганізавана ня менш 390 машынна-конных станцый.

Арганізоўваемыя 32 трактарныя калёны з 430 трактарамі ў сваім складзе ў 1929-30 г. таксама павінны ўкамплектоўвацца рабочымі конямі і с.-г. машынамі коннай цягі. Такая арганізаваная трактарна-конная станцыя можа даць найлепшыя вынікі па карыстаньню с.-г. машын і асабліва трактары, якія магчыма скарыстоўваць выключна на цяжкіх палявых работах (пад'ём цаліны, ворыва і інш.), а коняй на больш лёгкіх палявых работах (баранаваньне, пасеў і інш.), што наогул дасьць эканомію ў сродках і большай вытворчасьці с.-г. машын.

Машынна-конныя станцыі і трактарна-конныя павінны ўкамплектоўвацца ў першую чаргу з тых коняй і с.-г. машын, якія маюцца ў саўгасах і калгасах, пры папаўненьні недахопу за кошт закупкі коняй і завазімага с. г. інвэнтару і абслугоўваць саўгасы, калгасы, вытворчыя каапэрацыйныя аб'яднаньні і бядняцка-серадняцкія гаспадаркі на дагаворных пачатках.

Каб забясьпечыць вызначаныя задачы па пашырэньню пасяўной плошчы на 200.000 гект. у вясеньнюю с.-г. кампанію, падвышэньне ўраджайнасьці на 30 проц. па саўгасах, 25 проц. па калгасах і 20 проц. па асобных сялянскіх гаспадарках і забясьпечыць с.-г. інвэнтаром, прадугледжваецца ў 1929-30 г. завезьці розных с.-г. машын і прыладаў коннай цягі на суму ў тысячах руб.:

| | На суму ў тыс. руб. | У %% |
|---|---|---|
| 1. Для саўгасаў дасьл. станц. і інш. дзяржарганізацый | 1006,1 | 7,9 |
| 2. Для калектыўных гаспадарак | 6164,3 | 48,4 |
| 3. Для прыватных пунктаў | 417,7 | 3,3 |
| 4. Для каапэрац. аб'яднаньняў | 1719,0 | 13,4 |
| Усяго па агул. сэктару | 9307,1 | 73,0 |
| 5. Не абагуленаму сэктару | 3420.5 | 27,0 |
| 6. Усяго гадавы завоз | 12727,6 | 100,0 |
| 7. З якое завозіцца да вясеньняй с.-г. кампаніі | 7253,1 | 57,0 |

З вышэйпрыведзенай табліцы відаць, што абагуленаму сэктару прызначаецца шмат с.-г. інвэнтару і асабліва калгасам, на абавязках якіх стаяць задачы хутка ўзьняць сваю гаспадарку і вытворчасьць у ёй з дапамогай с.-г. машын.

**Кесараў.**

# КАЛГАСЫ ПІШУЦЬ



Новы дом у Арэвічах.

## Мы перамаглі—Арэвіцкі калгас расьце.

Арэвіцкі калгас нарадзіўся ў муках. Доўгі час яго не прызнавалі і ня верылі, каб у Арэвічах мог арганізавацца буйны калгас, як паказальны на Прыпяцкі раён. Шмат плётак распаўсюджвалі кулакі па раёну, кажучы, што ў калгас заганяюць пугай, бо сам, па сваёй волі, народ ня ідзе. Кулакі крычаць, што іх зямлю забіраюць. Прадстаўнікі Наркамзему і АКРЗА выяжджалі і ўбачылі, што ніхто ні ў каго нічога не адбірае, а нараджаецца сацыялістычны элемэнт, і толькі зьявіўся на сьвет, як уся кулацкая зграя вёскі Арэвічы зараўла благім матам. Гэта і зразумела, калі ідзе размова аб калектыўным будаўніцтве ды



Старыя хаты калгасьнікаў Арэвічы.

яшчэ ўзбуйненым, дзе будзе ўжывацца машына. Кулакам, мабыць, прыдзецца на „печкі“ папасьці, пры землябудаўніцтве (печкі—гэта пясчаныя землі Арэвіч), як іх там завуць. Кулакі не памыліліся, папалі на „печкі“. Вось гэты момант захаванай клясавай барацьбы выліўся ў адкрытую барацьбу: даходзілі да таго, што выкапвалі землябудаўнічыя

слупкі і бузілі, як толькі мага. Нават старшыню сельсавета ўзялі загрудкі, але старшыня па-пралятарскі разабраўся ў чым справа і кой каму папала на гарэхі.

Калектыў усё рос ды рос. І да 30 кастрычніка г. г. пачалі падводзіць ітогі. Тав. Шніцэр кажа, што з 165 двароў запісалася 124. Ёсьць дасягненьні, ёсьць і недахопы. Хутка ўсё сяло, за выключэньнем кулакоў, увойдзе ў калгас.

Дзякуючы ўпартай і прыкладнай рабоце калгасу ўжо цяпер амаль усё сяло ўваходзіць у калгас.

Што рабілі калгасьнікі для палепшаньня жывёлы? Калгасьнікі арганізавалі малочную гаспадарку, набылі с.-г. машыны: сенакасілку, граблі і інш. І з сенакосам добра справіліся, хоць яго і маецца каля 2.000 гектараў. Дасталі трактар, праўда стары, які часта рабіў перабоі ў рабоце, але ўсё-ж з дапамогай яго і калгаскіх коняй запахалі 300 гектараў і пасеялі жыта. Жыта парасло, як сьцяна. Кулакі злуюцца, але дарма, калгасьнікі на гэта і ўвагі не зьвяртаюць. Пабудавалі дом пад жыльлё, абору для жывёлы і засадзілі сад ў 30 гектараў. Калгасьнікі ад кіраўнічых органаў не атрымалі неабходнай арганізацыйнай дапамогі, якая



Гаспадарчы двор у калгасе Арэвічы (Гомельская акруга).

ім была вельмі патрэбна, асабліва пры складаньні вытворчага пляну. Калгас, які мае 5.200 гектараў ня можа бясплянава разьвівацца. Арэвіцкі калгас, Прыпяцкага раёну (Гомельшчына) мае вялізарнае значэньне, як паказальнік усяму раёну, дзе шмат вынесена пастаноў аб пераходзе ўсяго сяла на калектыўнае землякарыстаньне. Навакольнае сялянства пільна сочыць, як уздымаецца Арэвіцкі калгас і, „калі ён здолее добра наладзіць работу, дык і мы тады арганізуем калгас“ кажуць яны. Калектывы павінны паставіць справу так, каб батрацтва і бяднейшае і серадняцкае сялянства зацікавілася працай і пайшло ў калектыў. Пачатак пакладзен добры, ёсьць надзея ўцягнуць у калектыў і в. в. Дружкі, Пагоннае, Краснапольле і Баршчэўскі сельсавет—тады сапраўды будзе гігант-калгас на мэліёраваных землях у 15.000 гектараў.

**Карэняка.**

# Мяняецца твар зямлі.

*(Аб калгасе імя газэты „Зьвязда“, Мазырскае акругі).*

Цяжка жылося беднаце і серадняком вёскі Насовічы. Зямлі было мала, ды і тая параскідана ў 15 кавалках, на адлегласьці аж да 18 кілёмэтраў ад вёскі. Панавалі—абшарнік, у якога беднякі адраблялі за зямлю, поп з царквой і манаполька. Кастрычнік прагнаў абшарніка і зьнішчыў манапольку. Засталіся—самагон ды поп з царквой.



Актыў і праўленьне калгасу імя газ. „Зьвязда“.

Зямельнае гора нібыта разьвязалі ў 1923 г. сталыпінскім землеўпарадкаваньнем. На 280 двароў было ўтворана 229 хутароў і два пасёлкі. У гэтым нашлі выгоду, але ня ўсе. Заможнікі атрымалі па 30 – 40 гектараў зямлі і пачалі акулачвацца. А бедната так і засталася гібець, бо то-ж было кулацкае земляўпарадкаваньне, якім кіраваў кулак Акуліч.

І так расьлі на сталыпіншчыне „савецкай“ два лягеры—кулак і бядняк да 1929 г. Але камуністычная партыя і савецкая ўлада рабілі справу пабудовы шляху да сацыялізму. Калі ў 1924 г. на ўсю вёску ў 280 двароў было 2 газэты, дык у 1929 г. іх ужо маецца 198, або на $1^1/_2$ двары адна газэта.

У дзень калектывізацыі мінулага году 33 беднякі арганізавалі калгас імя газэты „Зьвязда“. За 1 месяц працы ён вырас у калгас-волат на плошчы 4.500 гектараў, у якіх аб'ядналіся 250 гаспадарак. Толькі нягоднае адсеяна ад калгасу (35 двароў), якім дана плошча па-за калгасам. Культ-уздым у калгасьнікаў заўважваецца нябывалы. Людзі нібыперарадзіліся, пацягнула іх да новага жыцьця. У школу на двух настаўнікаў вучыцца 150 дзяцей. На лікпункт да іх-жа зьявілася 120 чалавек мужчын і жанчын. На агульным сходзе 17 кастрычніка, аднагодна, месца былога, нядаўняга дурману—царкву, вырашана перадаць пад клюб. З якім захапленьнем сотні новых людзей—калгасьнікаў, з аднаўленым сьветапоглядам, 6 лістапада слухалі ў новым клюбе, устаноўленае за сродкі ячэйкі бязбожнікаў—радыё. Грымела музыка духавога аркестру чыгуначнікаў станцыі Каленкавічы, якія прыехалі на змычку ў вёску. І соценныя хвалі, сапраўдна сьвятошна апранутых людзей 7 лістапада залілі вуліцу.



Абед у дзень калгаснага сьвята.

Сотні людзей навакольных вёсак зьявіліся на калактыўнае сьвята. Калгасны абед больш як на 100 асоб быў прыкладным паказчыкам новага жыцьця—камунальнага харчаваньня. Парвалася рэлігійнае пута. Беспрацоўны поп кінуў бязбожную вёску-калгас і пераехаў у суседнюю, больш цямнейшую, в. Замосьце, абдурваць „цемень“, пакуль і адтуль яго ня выштурхне новае жыцьцё. Маўклівыя ў былым сьцены царквы зараз грымяць ад дакладаў, пралетарскіх сьпеваў і музыкі па радыё.

Мяняецца твар зямлі і чалавека, пачынаецца новае, культурнае жыцьцё батрацкай і бядняцка серадняцкай часткі сялянства БССР, аб'яднанай у калактывы, да якога належыць і калгас „Зьвязда“.

**С. Хваёвы.**

---

# Пустэчу зрабілі карыснай плошчай.

*(Калгас „Бедната“, Грэскі раён, Меншчына).*

Сяляне вёсак Камянцы і Дзюдзева ў ліку 8 гаспадароў атрымалі пры землеўпарадкаваньні ў 1929 г. свае надзелы і арганізавалі калгас пад назвай „Бедната“. Зямлю ім далі з запаснага фонду, за 10 вёрст ад сваіх вёсак, адзін хмызьняк ды голы ўзгорак з кратавінамі. Плошча вялікая, каля 100 гектараў, а ні кавалачка ворнае зямлі, усё зарасьлі ды хмызьнякі. Сяляне акаляючых вёсак ня верылі, што тут хто-небудзь будзе жыць. А калгасьнікі думалі іначай—„няма дрэннай зямлі, а ёсьць дрэнныя гаспадары“, „дзе адзін можа заняпасьці, там гуртам, калектывам можна горы перавярнуць і дабіцца посьпеху“.

Узімку калгас купіў лесу на абору і дом, які к вясьне быў вывезен на месца. Секлі, вазілі, па сіле магчымасьці, самі. Пад весну, калі сьнег пачаў раставаць, калгасьнікі купілі і перавезьлі маленькую старэнькую хатку, каб мець хоць які колечы прытулак у полі ад дажджу. Прышла вясна. Калгасьнікам працы безьліч, патрэбна церабіць і карчаваць кусты. Чатыры сябры спужаліся працы і выступілі з калгасу. Але на месца выбыўшых увайшлі беднякі-партыйцы, моцныя людзі,— праца закіпела.

Калгасьнікі пабудавалі абору (да рэчы, накрылі бляхаю), купілі 9 кароў, 6 коняй і ўзялі на пашу ад Слуцкага сельсавету 100 штук кароў па 10 руб. за штуку. Няўжыткоўная плошча калгасу зрабілася прыбытковай. А калі хутка за аборою пачаў вырастаць дом, дык сяляне ўбачылі, што калгас не памёр, як яны думалі, а будуецца і мацнее. Дом нарэшце быў адбудаваны і цяпер калгасьнікі маюць цёплыя, сьветлыя кватэры.

Зараз калгас уступіў у другую гадавіну свайго існаваньня. Шлях пройдзены невялікі, але цяжкі. Праўда, бедны яшчэ калгас—няма, як кажуць, ні кала, ні двара, але затое калгас моцны з палітычнага боку: палова калгасу партыйцы, а рэшта кандыдаты. Усе калгасьнікі ведаюць сваю справу і не адступяць ні на крок. Навакол, сярод сялянства, таксама пачаўся калгасны рух, усе акаляючыя паселішчы загаварылі аб калгасах. Ужо праводзяцца падрыхтоўчыя сходы, рыхтуецца грунт, і ня сёньня, заўтра з калгасу „Бедната“ вырасьце вялікі магутны калгас.

Праўленьне калгасу, каб азнаёміць сялянства з унутраным бытам калгасу, робіць свае справаздачы на сялянскіх сходах. Увесь плян

дзейнасьці калгасу сялянам вядомы і сяляне разьбіраюць, крытыкуюць яго. А разьбіраць ёсьць што — плян вялікі.

Калгас пакуль што мае толькі абору і жылы дом на 7 кватэр і аддадзенае Гольчыцкім лясьніцтвам быўшае панскае гумно. А будаваць яшчэ трэба сьвіран, сьвінарнік, склад для бульбы і яшчэ шмат дробных будынкаў. З жывёлы трэба набыць ня менш як 30 кароў і 20 штук коняй.

З машын калгас ня мае нічога, акрамя некалькіх звычайных барон і плугоў, а набыць трэба трактар (які ўжо выпісан) і ўсе неабходныя с.-г. машыны.

Калгас мяркуе пабудаваць цагляны завод, млын і лесапілку, якія будуць прыводзіцца ў рух трактарамі.

Цяпер калгас мае распрацаванай зямлі 12 гектараў, з якой 10 засеяна жытам. На весну калгас ставіць задачай засеяць ярыньню 45 гектараў. Можна спадзявацца, што калгас гэта выканае. На лета, замест кустоў і хмызьняку—закрасуе жыта ды іншае збожжа. **Крот Міхась.**

---

## На правільным шляху.

*(Аб калгасе імя Леніна, Глускага р., Бабр. акр.).*

Пяскі, балота, лес... зямля пустая. Даўней тут жыў пан, галоўным чынам прыбыткам ад бровару. Зараз парабкі і беднякі выбіраюць правільны шлях. У 1928 г. 21 сямейства арганізавала ў былым маёнтку калгас. *„Хто быў нічым, той стане ўсім“.*

Але для гэтага трэба шмат пакласьці працы. Сябры калгасу імя „Леніна“ гэта сабе ўявілі і з разбуранае—пачалі будаваць новую гаспадарку на сацыялістычных падставах. Будынкаў, патрэбнага інвэнтару і сродкаў для пабудовы не хапае. На дапамогу прыходзіць дзяржава асыгноўваньнем 12.080 рублёў крэдыту. На гэтыя сродкі набываецца малатарня, касілка, жняярка і г. д. Купляюць 20 кароў, 8 коняй, 6 валоў, а к вясьне праэктуецца купіць трактар. Будуецца крухмальны завод. Паступова вырастаюць і новыя будынкі. Сёлета засаджаны сад у 300 дрэў. Кожны калгасьнік мае добрую вопратку, боты. Дзеці бегаюць у школу ў хромавых чаравічках,—гэта дзеці былых батракоў, бацькі якіх, у мінулым, увесь свой век хадзілі ў лапцёх. Калектывізм кладзе свой адбітак і на псыхолёгію людзей. Люба паглядзець на калгасьнікаў, калі яны грамадою выйдуць на працу. Гультайства, неахайных адносін да працы не заўважыш. Кожны працуе па сваім здольнасьцям і ад гэтага атрымоўваецца непараўнальна вялікі посьпех. З кожным днём узьнімаюць усё новыя і новыя вянкі ў будынках. Кіпіць работа на ўсіх іншых вучастках: на полі, у садзе, гародзе і г. д. Сёлета калгасьнікам прыходзіцца больш працаваць, чымся сялянам на сваіх гаспадарках, але скаргаў усё-ж ня чуваць. Рэдка ўжо пачуеш і слова „маё“, яму на зьмену прышло „наша“:—нашы коні, нашы каровы.

---

## Сучаснае і мінулае земляўпарадкаваньне.

*(Чырвона-Слабодзкі раён, Бабруйшчына).*

За апошнія 6 месяцаў у Чырвона-Слабодзкім раёне разгорнута вялікая работа па калектывізацыі сельскай гаспадаркі. Бядняцка-серадняцкае сялянства цэлымі вёскамі ўступае ў калгасы. У Чаплінкім сельсавеце арганізаваны калгас „Майскі луч“, які будзе мець да 3.000 гек-

тараў зямлі, а ў Малышэвіцкім ствараецца калгас амаль што на плошчы зямлі ўсяго сельсавету. Пашыраюцца за лік акаляючых пасёлкаў і засьценкаў калгасы „Новы Шлях“ і „Колас“. Ствараюцца новыя калгасы ў вёсках: Лютавічы, Жываглодавічы, Смалічы, Ракіны, у паселішчах Гулевічы і Сямежава[1]). Па пастанове апошняга пленуму РВК пераводзяцца на суцэльную калектывізацыю пяць сельсаветаў: Старчыцкі, Замагільскі, Жыліхаўскі, Семяжаўскі і Макранскі.

Усяго на 10-е сьнежня мінулага году плошча зямлі пад калгасамі ў Чырвона-Слабодзкім раёне складае 11.720 гектараў з лікам 964 гаспадаркі. Такім чынам увесь раён ахоплен калектывізацыяй на 52 проценты.

Вось факты: больш як чатыры месяцы адсутнічае пяць памоцнікаў аграномаў, між тым АКРЗА аб гэтым зусім мала дбае, ён ня робіць ніякіх захадаў да пасылкі ў раён аграномаў, без якіх уся праробленая работа па калектывізацыі можа зьвясьціся ні на што. У апошні час АКРЗА зрабіў прапанову аб пераводзе ў другі раён каморніка. Адсутнічае Заг. Земаддзелу. Абяцаўся Калгассаюзам трактар, але да апошняга часу не пасылаецца. Трактароў у раёне зусім няма, між тым як іншыя раёны ўжо маюць іх па чатыры (Клічаўскі раён).

З боку АКРЗА, Акркалгассаюзу і іх спэцыялістых аграномаў і эканамістых нічога ня зроблена па распрацоўцы пляну па земляўпарадкаваньню калгасаў, плянавасьці забудовак, двара, сядзібы і іншае. Гэтыя пытаньні ў калектыўным будаўніцтве зьяўляюцца актуальнымі і сам раён самастойна вырашыць іх поўнасьцю ня можа.

Цяпер скажам некалькі слоў аб мінулым земляўпарадкаваньні раёну.

Да апошняга году з боку РК КП(б), РВК і ўсіх арганізацый амаль што ніякай працы па калектывізацыі не вялося. Цікавы факт: калі 16 гаспадароў м-ка Чырвонай Слабады ў 1926 г. падалі заяву аб стварэньні калгасу, дык ранейшымі кіраўнікамі Земаддзелу ім было адмоўлена і на гэтым месцы былі створаны пасёлкі і атрубныя хутары.

Пры земляўпарадкаваньні вёсак Жываглодавічы, Чапліц і Рачкавіч у 1927 годзе—цалкам былі створаны невялікія пасёлкі ад 5 да 15 двароў і 72 хутары. Заможнікі ў гэтых вёсках здолелі атрымаць хутары з лепшай якасьцю зямлі, а таксама купіць за грашы ў беднаты сядзібы на месцы ў вёсцы, а беднату выселіць на горшую зямлю. Калі падлічыць мінулае земляўпарадкаваньне, то на 25 процантаў плошчы раёну яно праведзена гэтакім чынам.

Многа фактаў маецца па куплі і продажу зямлі па раёну. Па аднаму Чырвона-Слабодзкаму, пад відам куплі будынкаў, утваралася купля і продаж пляцоў ад $1/4$ да 1-го і больш гектара. Амаль што зьнішчан поўнасьцю лес мясцовага значэньня ў Бялевічах, Макранах і ў Ракінях і на гэта ўсе былыя работнікі Земаддзелу не рэагавалі.

Насельніцтва зараз выявіла памянёныя вышэй недарэчнасьці, а таксама і тых хто гэта рабіў і патрабуе, каб сьледчыя органы і РСІ заняліся гэтай справай.

**І. П.**

---

[1]) Аўтарам нічога не гаворыцца аб калгасе ў вёсцы Бычаціна, які арганізаваны восеньню мінулага году. Цікава ведаць пра яго становішча і ці ёсьць падставы для ўзбуйненьня яго шляхам злучэньня з бліжэйшымі калгасамі. Як наладжана праца па ўцягненьню бядняцка-серадняцкага сялянства ў гэтым калгасе. Рэдакцыя чакае допісаў з месц аб канкрэтнай працы калгасаў Чырвона-Слабодзкага раёну.

**Рэдакцыя.**

# Больш увагі культурна-бытавой рабоце ў калгасах і камунах.

Камуна „Першага Мая“ (Жыткавіцкага р., Мазыршчына) арганізавана ў 1929 г. на памешчыцкіх землях з 13 сямей, у якіх дарослых 24 чалавекі.

Цяжка спачатку прышлося батраком і бедняком арганізаваным у гэтую камуну: кулацтва ўсімі спосабамі падрывала яе работу: травіла сенажаці і пасевы, пагражала забойствамі сяброў камуны, прыходзіла



Мітынг у камуне „10 Кастрычнік“, Аршаншчына.

ноччу ў камуну з гармошкай пад відам „разам з камунарамі пагуляць“ з тым, каб учыніць шкоду камуне. Але камунары сваячасова заўважылі гэта і не дапусьцілі іх у камуну. І зараз на кожным кроку кулацтва агітуе камунараў: „выйдзіце з камуны, вы-ж жывеце ў прымежнай паласе, прыдуць палякі і вас-жа першых пастраляюць“. Але камунары ня падаюць духам і ўсё больш і больш разгортваецца работа камуны і вярбуюцца новыя члены.

Поруч з гэтым ёсьць вельмі шмат недахопаў у рабоце камуны: цеснат жыльлёвага памяшканьня (адзін маленькі пакой на 14—15 асоб). Дзяцей у калгасе 24 чалавекі, а ясьляў няма, чаму жанчыны нерэгулярна выходзяць на работу. Рахункаводзтва, з самага пачатку арганізацыі, у камуне не вядзецца, і камунары ня ведаюць свайго гаспадарчага становішча. Мясцовыя прафарганізацыі камуне не дапамагаюць наладзіць справаводзтва.

Палітгурток у весцы ёсьць, але камунары, з-за далёкай адлегласьці, яго не наведваюць. Сельска-гаспадарчага гуртка ў камуне няма. Лекцыі на агратэмы ня чытаюцца, бо ўчастковы аграном Бардоўскі ня хоча вясьці гэтай працы, нават адмовіўся на просьбу старшыні камуны вызначыць памеры кармушак для жывёлы, матывуючы тым, што ў камуне няма канцэнтраванага корму, дык няма для чаго складаць кармушкі: давайце сена, салому і толькі. Сельгаскаапэрацыя адпусьціла пуд гатунковага жыта для закладкі паказальнага вучастку ў камуне, але аграном не дапамог у гэтай працы і жыта засталося непасеяным. Маецца маленькая с.-г. бібліатэчка, але ў ёй вельмі шмат „прышчэпаўскай“ і нават стара-абшарніцкай літаратуры.

Газэты камунай выпісваюцца, але ня чытаюцца камунарамі.

Мэдыцынскае абслугоўваньне мясцовым фэльчарам і акушэркай здавальняючае. Акрздраў-жа з свайго боку ня досыць зьвяртае ўвагі на гэтую справу, напрыклад: удава сябра камуны мае 8-гадовага хлопчыка хворага на сухоты, якога вазілі ў тубдыспансэр, але апошні яго ня прыняў і гэтае дзіця знаходзіцца разам з здаровымі дзецьмі.

Наглядаецца цэлы шэраг бытавых няўрадзіц на глебе ўзаемаадносін паміж мужчынамі і жанчынамі. Усё гэта таму, што сярод камунараў, асабліва жанчын, амаль што не праводзіцца ніякай выхаваўчай работы. Арганізаваны лікпункт для камунараў, але бяда ў тым, што кіраўніком лікпункту прымацавана былая пападзьдзя, якая стала настаўніцай у 22 годзе, пасьля сьмерці яе мужа (папа). Сябры камуны гэтым нездаволены, яны кажуць:—„ці даўно мы гэтай Рудкоўскай настаўніцы рукі цалавалі, прыносілі мяса, сала, крупы і адзежу мылі, як „матушцы“ нашай вёскі, а зараз яна нас выхоўвае. Мы баімося задаць ёй пытаньне на антырэлігійную тэму, бо калі адна камунарка задала пытаньне ці ёсьць бог, дык пападзьдзя пачырванела і нічога не адказала“.

Камунаркі абраны ў дэлегацкі пункт, але ён працуе нерэгулярна. Жыткавіцкі мясцком Мэдыкасантруд узяў шэфства над камунай, але ён да гэтага часу нічым не дапамог камуне ў разгортваньні культ-бытавой работы. Зараз паабяцаў узяць шэфства Кавэскадрон пагранічнікаў і трэба думаць, што шэф справіцца са сваёй работай.

Антырэлігійная работа ў камуне не праводзіцца, хоць ёсьць вялікая цяга к апошняй. На агульным сходзе камунараў большасьцю галасоў прынята пастанова аб пераводзе дня адпачынку з нядзелі на аўторак. Адначасова камунары падрыхтоўваюцца да пераходу на бесьперапынны тыдзень.

Наогул у камуне ў сучасны момант больш займаюцца склокамі, разборам і ўладжваньнем непаразуменьняў паміж сабою, і вельмі мала займаюцца пытаньнямі вытворчасьці і паляпшэньня работы апошняй: камуна ня ўступіла ў соцыялістычнае спаборніцтва, не праводзіць вытворчых нарад. Вельмі дрэнна абстаіць справа з працоўнай дысцыплінай у камуне: адсутнічае згоджанасьць у рабоце, несваячасовы выхад на работу. Усё гэта спрыяе таму, што жанчыны, вылучаныя для работы на кухні, паміж сабою лаюцца і прыгатаўляюць сьнеданьне не раней 10—11 гадзін раніцы. Праўленьне хоць і абгаворвае пытаньне аб працоўнай дысцыпліне, але яго пастановы ня маюць уплыву на сяброў камуны.

Такое становішча камуны сыгналізуе аб тым, што ўсім партыйным, прафэсыянальным, савецкім і іншым грамадзкім арганізацыям трэба тэрмінова ўжыць належныя захады да зьнішчэньня паказаных неда-

хопаў у рабоце камуны. Трэба дапамагчы выканаць намечаныя Акркалгассаюзам, пры абглядзе культ-бытавой работы ў камуне, мерапрыемствы, выходзячы з дырэктыў Агітпрапаганды і Бюро Мазырскага АК КПБ(б) і наогул партыйных, савецкіх і прафэсыянальных арганізацый па гэтаму пытаньню, як напрыклад: уступленьне ў сацыялістычнае спаборніцтва, наладзіць ліквідацыю няпісьменнасьці, прымацаваўшы кляс..ва вытрыманага настаўніка. Арганізаваць і наладзіць работу вытворчых нарад; арганізаваць пры камуне палітычны гурток, сыстэматычны выпуск насьценных газэт і разгортваньне самакрытыкі; папоўніць бібліятэку калгасу літаратурай, ачысьціўшы яе ад непатрэбных і нават шкодных кніжак; палепшыць мэдыцынскае абслугоўваньне. Наладзіць разгортваньне аграграматы; палепшыць работу дэлегацкажаночага сходу. Стварыць спрыяючыя ўмовы для выхоўваньня і стварэньня кадраў патрэбных камуне папаўненьнем шэрагаў партыі за кошт камунараў.

Гэтая работа павінна быць прыстасавана і цалкам накіравана на падняцьце вытворчасьці камунальнай гаспадаркі, а таксама на мабілізацыю вакол камуны ўсёй батрацка-бядняцкай і серадняцкай часткі вёскі, накіроўваючы яе на барацьбу з кулацка-заможнай часткай вёскі, за сацыялістычную перабудову нашай вёскі.

**Фрайман.**



Выраб цэглы ў калгасе імя 11-годзьдзя Кастрычнікавай Рэвалюцыі" (Карatковічы). Уверсе—паветка для сушкі цэглы; унізе—цагляны завод за працай.



# Кожны калгас павінен мець свой грамадзкі насенны фонд.

## Парадак складаньня насенных фондаў у калгасах.

Тэмп разгортваньня калгаснага руху сярод шырокіх колаў бядняцка-серадняцкага насельніцтва ў БССР паказвае, што ў надыходзячую вясновую пасеўкампанію будзе ахоплена калгасамі ня менш 35 проц. усёй пасеўнай плошчы БССР.

Пасьпяховае правядзеньне вясеньняй пасеўкампаніі па калгасах у значнай ступені залежыць ад сваячасовага складаньня і належнага захаваньня да пасеву патрэбнай колькасьці насеннага матар'ялу. Між тым справа па складаньню абагуленых насенных фондаў у новаарганізуючыхся калгасах да гэтага часу разгорнута яшчэ не дастаткова.

Складаемыя насенныя фонды ў значнай колькасьці выпадкаў не забясьпечваюць фактычнай патрэбнасьці калгасаў у насеньні.

Пры раскладцы насеньня паміж членамі ў некаторых выпадках недастаткова захоўваецца клясавы падыход, маюцца выпадкі раскладкі насеньня па разьмеру зямельных надзелаў і інш.

У мэтах сваячасовай падрыхтоўкі калгасаў да правядзеньня надыходзячай вясеньняй пасеўкампаніі, паляпшэньня якасьці насеньня, для належнага падвышэньня ўраджайнасьці ў калгасах—Белкалгасцэнтрам распрацавана спэцыяльнае палажэньне аб складаньні і захоўваньні насенных фандаў у калгасах.

Згодна гэтага палажэньня, насенныя фонды ў калгасах павінны ўтварацца зараз-жа і не пазьней як у працягу тыднёвага тэрміну пасьля арганізацыйнага афармленьня калгасу. Прыступаючы да складаньня насеннага фонду, савет калгасу з прыцягненьнем мясцовага аграному павінен скласьці плян надыходзячых пасеваў, на падставе складзенага пляну падлічыць колькасьць патрэбнага насеньня па культурах і рабіць раскладку яго паміж членамі калгасу.

Пры раскладцы насеньня паміж членамі неабходна ўлічваць, каб разьмер насеннага фонду па раскладцы ўпаўне забясьпечваў патрэбнасьць у насеньні па складзенаму пляну пасеваў.

Уступіўшыя ў калгас рабочыя, батракі і безнасенныя бядняцкія гаспадаркі, як ня маючыя насеньня, павінны аслабаняцца ад унясеньня насеннага матар'ялу ў насенны фонд калгасу. Раскладку насеньня паміж членамі неабходна ўтвараць па плошчы пасеву, улічваючы пры гэтым колькасьць ядакоў, якая ёсьць у кожнага члена пры ўступленьні ў калгас, а таксама і моцнасьць яго гаспадаркі. Сярэдняя норма раскладкі насеньня ўтвараецца так:

а) Напрыклад, патрэбна скласьці насенны фонд у 1000 цэнтн.

б) Агульная плошча пасеву ў членаў пры ўступленьні ў калгас 500 *га*. Сярэдняя норма раскладкі такім чынам вызначаецца ў 2 цэнтн. на кожны гектар пасеву (1000:500 = 2).

в) Агульны лік едакоў у членаў скажам 1000, сярэдняя забясьпечанасьць пасевам такім чынам вызначаецца (500:1000 = 0,5) у 0,5 *га* на едака. Такім чынам, па сярэдняй норме раскладкі ў 2 цэнтн. з кожнага *га* пасеву ўносяць усе члены, якія маюць сярэднюю забясьпечанасьць пасевам на едака ў 0,5 *га*. Асобы, якія будуць мець забясьпечанасьць пасевам 0,25 на едака, павінны ўнесьці 1 цэнтн. насеньня з кожнага *га*, а гаспадаркі з забясьпечанасьцю пасевам у 1 *га* на едака ўносяць 4 цэнтн. насеньня з кожнага *га* пасеву і г. д.

Для больш забясьпечаных серадняцкіх гаспадарак з больш высокімі ўраджаямі гэтыя сярэднія нормы раскладкі павінны быць павялічаны. Для найбольш пасьпяховага і мэтазгоднага выкананьня гэтай працы, як раскладка насеньня паміж членамі, так і асабліва аслабаненьне ад унясеньня насеннага матар'ялу, зьніжэньне, або павялічэньне сярэдніх норм раскладкі для паасобных членаў, павінны праводзіцца саветам калгасу з актыўным удзелам груп беднаты.



Пры зборы насеннага фонду вызначаюць гатунак.

У выпадку недахопу або адсутнасьці ў таго ці іншага члена насеньня вызначанай культуры, колькасьць апошняга можа быць заменена на другую культуру, па ўзгадненьні з саветам, у колькасьці, адпаведнай існуючым цэнам для кожнай культуры.

Калі ёсьць у членаў гатунковае насеньне, насеньне траў, караньплодаў і тэхнічных культур, дык яно павінна поўнасьцю паступаць у насенныя фонды калгасу. Паступіўшая ад членаў калгасу насеньне ацэньваецца па мясцовых каапэрацыйных цэнах і запісваецца саветам калгасу ў спэцыяльную кнігу прадуктаў і матар'ялаў, адпаведныя кнігі капіталаў калгасу, а таксама на асабовыя рахункі членаў у пакрыцьцё ўступных і паявых узносаў членаў згодна статуту. Прынятае ад членаў несеньне неабходна адначасова запісаць і ў членскую кніжку, якая захоўваецца на руках у кожнага члена. Увесь насенны матар'ял (апроч бульбы) павінен ссыпацца ў грамадзкія сьвірны. Пры адсутнасьці гэтакіх на месцы, вызначаюцца і падрыхтоўваюцца сьвірны, якія ёсьць у паасобных членаў калгасу. Насенны матар'ял бульбы можа захоўвацца на месцы ў паасобных членаў пад пісьмовыя абавязацельствы апошніх захоўваць яго да пасеву.

Сабранае насеньне неабходна абавязкова ачышчаць і адсартыроўваць на адпаведных машынах. Адначасова савет калгасу павінен прыняць крокі да абмену сабранага насеньня на гатунковае або палепшанае ў бліжэйшым саўгасе, куставым аб'яднаньні калгасаў або ў бліжэйшым сельск.-гасп. т-ве.

Гатунковае насеньне неабходна захоўваць асобна ад звычайнага насеньня, а таксама і высяваць асобна па гатунках.

Перад пасевам увесь сабраны ад членаў, а таксама абменены насенны матар'ял абавязкова пратруціць, бо інакш пры паражонасьці насеньня грыбнымі хваробамі хаця-б у некалькіх членаў пры ссыпцы могуць заразіцца ўсе пасевы.

Для загадваньня насенным фондам вызначаецца саветам калгасу спэцыяльная асоба з членаў калгасу, якая адказвае за належнае захоўваньне насеннага матар'ялу.

За правільную раскладку насеннага матар'ялу паміж членамі, сваячасовы збор і належнае захоўваньне яго нясе асабістую адказнасьць савет калгасу. Супольна з загадчыкам насенным фондам савет калгасу павінен зараз-жа па складаньні гэтага фонду паклапаціцца аб арганізацыі супроцьпажарнай ды іншай аховы яго шляхам вылучэньня спэцыяльных вартаўнікоў, страхоўкі насеннага фонду ды інш.

Працу па складаньню насенных фондаў на мясцох неабходна разгарнуць так, каб апошнія былі складзены ва ўсіх існуючых калгасах не пазьней 1-га лютага г. г. Шэфарганізацыям і асобным т.т., якія едуць на вёску, у сучасны момант неабходна асаблівую ўвагу зьвярнуць на аказаньне калгасам практычнай дапамогі ў складаньні насенных фондаў.

Аграном **Ладысеў Д.**

---

# Саўгасы—баявыя штабы сацыялістычнага наступленьня.

Нябывала адказныя задачы стаяць перад саўгасамі ў вясеньнюю сельска-гаспадарчую кампанію гэтага году. Яны выцякаюць з пастаноў Лістападаўскага Пленуму ЦК УсеКП(б)Б, паказаўшага, што *„саўгасы, зьяўляючыся прадпрыемствамі пасьлядоўна сацыялістычнага тыпу, павінны яшчэ ў большай ступені, чым да гэтых пор, служыць прыкладам таго, як патрэбна арганізаваць буйную вытворчасьць і скарыстаць высокую тэхніку ў сельскай гаспадарцы"*. С.-г. кампанія 1930 г. ёсьць гістарычны экзамен змаганьня за сапраўды буйныя саўгасы, з максымальна высокай вытворчасьцю ўсіх галін працы, зьнізкім сабекоштам прадукцыі, за саўгасы як пралетарскія штабы сацыялістычнага наступленьня. Гэтага патрабуе бурны рух калгаснага будаўніцтва, які забясьпечвае магчымасьці сканчэньня калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, у асноўным ужо ў 1930 г. задачы ліквідацыі кулацтва як клясу,—што на саўгасы ўскладае шэраг новых адказьнейшых абавязкаў.

### За новыя буйныя саўгасы і ўзбуйненьне старых.

Вытворчы плян з 1-VII—29 г. па 1-VII—30 г. прадугледжвае пашырэньне плошчы пад саўгасамі за 56 проц. Гэтыя лічбы зараз зьяўляюцца зусім адсталымі. За апошні час высьвятляюцца вялізарныя мажлівасьці арганізацыі новых і ўзбуйненьня старых саўгасаў. (Барковічы на плошчы 6.000 *га*, Даўгалесьсе каля 2.000 *га*, Насовічы—1.400 *га* і шэраг плошчаў Магілеўскае і Аршанскай акруг).

Адным з найбольшых недахопаў старых саўгасаў зьяўляецца іх драбната. Сярэдні разьмер у 540 *га* гэта выразна падкрэсьлівае. Нажаль яшчэ няма пералому, каб у бліжэйшыя гады сярэдні разьмер саўгасаў давясьці да 3—5000 *га*. Гэта задача зьяўляецца аднэй з актуальнейшых задач кампаніі, за якую павінны ўхапіцца самі саўгасы, іх аб'яднаньні і ўсе земорганы.

## За рашучую спэцыялізацыю саўгасаў.

С.-г. кампанія гэтага году павінна даць пачатак рашучай спэцыялізацыі саўгасаў. Трэба пакласьці канец таму унівэрсалізму, які меў і мае мейсца ў старых саўгасах. Патрэбна пачаць ліквідацыю таго становішча, калі саўгас вытварае ўсяго патрошку. Саўгасы павінны атрымаць выразны твар, сапраўдных фабрык гатункавага насеньня, племянной жывёлы, мяса, малака, тэхнічных культур, садова-гародных прадуктаў і г. д. Пагэтаму арганізацыяй 4-х малочных ферм, 4 саўгасаў тэхкультур, 6 садова-гародных баз, пашырэньнем гаспадарак племкультуры і інш. робіцца толькі першы пачатак. Над замацаваньнем і фарсыраваньнем гэтага пачатку павінна быць у значнай меры пабудована праца. Гэта будзе садзейнічаць яшчэ большай таварнасьці і зьніжэньню сабекошту прадукцыі саўгасаў.

## За рост пасеўных плошчаў.

Плянам вызначан узрост пасеўных плошчаў на 27,7 проц. Гэты проц. павінен быць ня менш як падвоен. Гэта патрэбна правесьці ня толькі за рахунак новых саўгасаў і далучаемых плошчаў да старых саўгасаў, але і за рахунак поўнай ліквідацыі не занятых папараў, рэволюцыйнага наступленьня на хмызьнякі, малапрадукцыйныя сенажаці, выганы і г. д. Саўгасы ўпяршыню павінны вытварыць на плошчы 1800 *га* насеньне лугавых траў. Асабліва вырастаюць пасеўныя плошчы пад люпінам—800 проц., лёнам—582 проц. (без спэцыяльных саўгасаў), каля 400 проц. па караньплодам і інш. Павінен быць ня толькі створан, але і рашуча ажыцьцёўлен пералом па выкарыстаньню ўсіх мажлівасьцяў пашырэньня пасеўнае плошчы.

## За высокі ўраджай і нізкі сабекошт прадукцыі.

Большасьць саўгасаў маюць значныя посьпехі ў галіне ўздыму ўраджайнасьці за апошні год. Нажаль гэтага яшчэ нельга сказаць (за адсутнічаньнем патрэбных даных за 1929 г.) аб зьніжэньні сабекошту. Паказчыкі-ж 1928 г. гавораць аб росьце сабекошту па асобным культурам—па асобным саўгасам сабекаштоўнасьць зьяўляецца злачынна высокай. (Ціманава—17,40 р., Забычаньне—18,16 р., Елізавеціна—19,75 р. 1 цэн. жыта). Вакол зьніжэньня сабекошту абсалютна не мабілізавана ўвага рабочых,—рабочыя ў большасьці ня ведаюць сабекошту вытвараемай імі прадукцыі і элемэнтаў, з якіх яна складаецца. Вытворчыя нарады гэтым цэнтральным пытаньнем вытворчасьці зусім не займаліся.

Задача ўзьняць ураджайнасьць жыта на 46 проц., авёс—54 проц., лён—40 проц. і бульбы на 62 проц. супроць ісходнага пяцігодкі і зьніжэньня сярэдняга сабекошту ня менш як на 25 проц. —патрабуе ўздыму вытворчасьці працы на 30 проц., палепшаньня якасьці працы, мабілізацыі ўсіх унутраных рэсурсаў, 100 проц. выкананьня агромінімуму,

рашучай барацьбы з немэтазгоднымі тратамі на вытворчасьці, жорсткага рэжыму эканоміі. Гэтыя задачы патрабуюць лепшай арганізацыі працы, абавязковага пераводу на непрарыўны тыдзень, спыненьня сабатажу асобнымі кіраўнікамі зьдзельшчыны і поўнага яе прымяненьня, уздыму працоўнай дысцыпліны.

Праз зьдзельшчыну і сыстэматычнае прэміраваньне трэба садзейнічаць росту вытворчасьці і якасьці працы рабочых. Гэтыя-ж задачы і роля саўгасаў на вёсцы патрабуе рашучага ўзмацненьня сталых кадраў рабочых і рашучага паляпшэньня іх палітыка-вытворчай кваліфікацыі.

### Жывёлагадоўлю ў цэнтр увагі.

Найбольш адсталай галіной саўгасаў зьяўлялася жывёлагадоўля. Гэта галіна не карысталася ўвагай саўгасаў. Нізкая ўкамплектаванасьць жывёлай (37 проц. пляну), нізкае і якаснае становішча. 1930 г. ёсьць першы год пераломy. Мяркуецца закупіць 9731 шт. буйнае рагатае жывёлы. 100 проц. пакідаецца на вырасьліваньне здаровага маладняку. Арганізуюцца першыя чатыры малочныя фермы, 2 сьвінзаводы, 15 расаднікаў і птушка-кральчатны завод. На саўгасы ўскладзена баявая задача адкарміць 10.000 валоў і 10.000 сьвіней.

Упяршыню ў пляне вызначаюцца значныя мерапрыемствы па стварэньню кармавой базы. Гэта патрабуе ня толькі закладкі насеньнікаў лугавых траў, кораньплодаў, штучных выпасаў, будаўніцтва сіласных установак, але і рашучага наступу на балоты, хмызьнякі і куп'ё і інш. мерапрыемствы палепшаньня натуральных сенажацяў,—што ў значнай меры мажліва праводзіць і зараз (зьнішчажэньне хмызьняку).

Правадзімыя мерапрыемствы павінны забясьпечыць рост удойнасьці на 25 проц.

### Саўгасы—арганізатары калгаснага будаўніцтва.

Бурны калгасны рух і шалёнае супраціўленьне кулака патрабуюць ад саўгасаў на справе стаць штабамі сацыялістычнага наступленьня. Саўгас павінен быць арганізатарам і лепшым памоцнікам калгаснага будаўніцтва вакол сябе. Тут новыя задачы паўстаюць перад саўгасамі. Даць кіраўнікоў калгасаў, перадаць вопыт працы вытворчых нарад—быць іх арганізатарам у калгасах, разгарнуць дапамогу ў парадку шэфства. Аказаць рашучую дапамогу ў аграмаджваньні сродкаў вытворчасьці, узмацненьня недзялімых капіталаў і арганізацыі працы, саўгас павінен быць арганізатарам адпору распрадажы і зьнішчэньня жывёлы. Саўгас павінен быць штабам раскулачваньня кулака і арганізатарам ліквідацыі яго як клясы. Арганізуючы пад сваім кіраўніцтвам сумесныя гаспадарчыя прадпрыемствы саўгасаў і калгасаў, трэба на дагаворных пачатках на ўсе 100 проц. выкарыстаць вытворчую здольнасьць кожнай машыны і ўсіх іншых агрыкультурных мажлівасьцяў. Рашуча выправіць усе скрыўленьні клясавай лініі.

### Безадкладна ліквідаваць недахопы.

Праверка становішча на мясцох і нарада інспэктароў паказала, што да гэтай пары экзамен трымаецца як апаратам трэсту, гэтак і саўгасамі недапушчальна дрэнна. Саўгасы да гэтай пары не атрымалі патрэбных сродкаў на набыцьцё коняў і паказаньняў аб іншых грун-

тоўных укладаньнях, ня дадзены паказаньні аб пераводзе на бесьперарыўку, арганізацыі курсаў, слабасьць жывой праверкі. Асобныя саўгасы паказваюць абураючыя факты і іншыя грунтоўныя ўкладаньні, якія ня будучы ліквідаваныя пагражаюць зрывам шэрагу мерапрыемстваў. Лушчэньне, якое вельмі карысна ў барацьбе за ўраджай, сарвана. Вапнаваньне выканана ў нязначнай меры. Яшчэ да гэтай пары Слабада, Лудчыцы, Буйнічы, Некрашы, Васільеўск, Харапуць, Межава, Райцы, Дзедлава, Мазалава ня скончылі абмалоту. У Какорычах нават не абмалочана жыта, яшчэ ня скончана зернаачыстка свайго насеньня і злачынна павольна разгортваецца зернаачыстка на вёсцы. Кой-хто яшчэ толькі зьбіраецца выяжджаць на гэту работу. Рамонт за адсутнічаньнем жалеза не разгорнут. Зусім слаба мабілізован і лом дзеля гэтых мэт.

Зусім ня прыкована ўвага рабочых к задачам зьніжэньня сабекошту. Сацыялістычнае спаборніцтва не пранізана задачамі с.-г. кампаніі і ня выконвае яшчэ максымальных задач. Зьяўляюцца толькі першыя атрады ўдарнікаў. Зусім недапушчальна нізкая дысцыплінаванасьць і вучот усіх работ у вызначаныя тэрміны. Захаваліся звычайныя бюрократычныя мэтады работы.

## За ўдарныя тэмпы работы.

Задачы кампаніі патрабуюць рашучага безадкладнага пералому абломаўскіх бюрократычных мэтадаў работы, зьмены іх на ўдарныя тэмпы. Патрэбна сталёвае партыйнае кіраўніцтва на мясцох па выкананьню гэтых задач

Патрэбна, каб рабачкомы сталі на справе тварам да вытворчасьці. Каб у самы бліжэйшы час на вытворчых нарадах былі распрацованы ўсе дэталі вялізарных задач кампаніі безадкладна разгорнуты ажыцьцяўленьнем з актыўным удзелам усіх рабочых.

Патрэбна, каб сацыялістычнае спаборніцтва стала штодзенным мэтадам работы, было пераключана поўнасьцю на выкананьне мерапрыемств кампаніі ў яе максымальных лімітах.

Патрэбна, каб у хуткім часе ўдарныя групы перарасьлі ва ўдарныя саўгасы. Патрэбна, каб у працы ўсёй сыстэмы была ўведзена жалезная дысцыпліна. Патрэбна безадкладна правесьці самаправерку ўсяе работы.

Трэба выкарыстаць усе ўнутраныя мажлівасьці і рашуча спыніць нямэтазгодныя траты па вытворчасьці. Пры гэтых умовах вялікі гістарычны экзамен будзе зусім пасьпяхова вытрыман.

**Т. Аўчыньнікаў.**

г. Менск.
Белсельтрэст.

---

# Да рацыяналізацыі лесараспрацовак.

У дрэвапрацоўваючай прамысловасьці Беларусі вытворчасьць гнутай мэблі займае важнае месца. Яна прадстаўляе з сябе шэраг добра абсталяваных фабрык, якія выпушчаюць гатовы фабрыкат; фабрыкат гэты мае вялікі попыт і, што асабліва каштоўна, мае значны попыт і заграніцай.

Агульнай хваробай памянёнай вытворчасьці ў Беларусі зьяўляецца недахоп сыравіны-драўніны, а таму фабрыкі працуюць толькі ў адну зьмену і з вялікімі перабоямі. Ясна, што адшуканьне новых крыніц



Працуюць на лесанарыхтоўках.

сыравіны для гнута-мэблявай вытворчасьці складае безадкладную задачу. Беларуская фабрыка гнутай мэблі ўжывае з беларускіх парод толькі клён. Зразумела, што такія пароды як ясень і граб па сваім мэханічным якасьцям вельмі прыгодны для гнута-мэблявай вытворчасьці, але справа ў тым, што ясень занадта дарагі і ідзе туды, дзе без яго нельга абыйсьціся, а добрага грабу па думцы лесапрамыслоўцаў у нас няма.

Пры больш-жа ўважлівым вывучэньні пытаньня высьвяецца, што справа з ясенем і грабам далёка ня так безнадзейна і што іх можна ў значнай меры выкарыстаць для гнута-мэблявай вытворчасьці бяз шкоды для іншых галін прамысловасьці.

1. Ясень. Вельмі каштоўная ясенявая драўніна ідзе выключна на выраб абадоў. На адзін стан абада ідзе сырызны ў сярэднім, прыкладна 0,19 к. м. Самы-ж абад у гатовым відзе мае аб'ём у сярэднім 0,05 к. м. Рэшта драўніны 0,14 к. м. г. зн. 73 проц. ідзе, пры распрацоўцы кражоў на абадовыя плашкі, на трэскі (адкол). Гэтыя трэскі (адколы), як адкіды вытворчасьці, ідуць у нязначнай колькасьці, прыблізна 5 проц., на выраб сьпіц і часткова для ацяпленьня катлоў на парнях. Рэшта-ж і большая частка проста выкідаецца або спальваецца на месцы.

Паўстае пытаньне: няўжо-ж такая каштоўная драўніна, як ясеневая, можа быць так няправільна выкарыстана, няўжо-ж гэтыя адколы сапраўды зьяўляюцца „адкідамі“? Аказваецца—далёка ня так. Быў зроблены невялікі досьлед [1]) з абодных ясеневых кражоў, прывезеных на парню, узята бяз выбару 130 штук кражоў аб'ёмам 42,60 к. м. З іх выраблена абаду 215 станаў. Адколы пасьля абада пашлі на мэбальны паўфабрыкат, прычым атрымана 11 камплектных тузінаў кіёў, г. зн. паўфабрыкат для 11 тузінаў ясеневых крэслаў.

Некаторыя скэптыкі зацьвярджаюць, што якасьць паўфабрыкатаў—кіёў будзе кепская, далей,—што ясеневае крэсла нельга паліраваць, бо яно мае буйныя судзіны і ўбірае ў сябе паліту́ру. Факты-ж паказалі наступнае: пасланы на фабрыку паўфабрыкат—кіі аказаліся для гнуцьця лепей кляновых. Апошні даў 7 проц. браку пры гнуцьці, а ясеневы ўсяго 3 проц., г. зн. ясень больш гнуткі. Паліроўка сапраўды крыху цяжкаватая, калі яна робіцца ў звычайны цёмны колер, але затое вельмі лёгка атрымліваюцца ясеневыя крэслы з натуральным колерам ясеневай драўніны і больш пекныя, чымся кляновыя.

У Беларусі штогод вырабляюць 120—130 тысяч станаў абадоў. Калі распаўсюдзіць рэзультаты памянёнага вышэй досьледу на ўсю Беларусь, дык атрымаем, што *на парнях можа быць выраблена звыш 6.000 камплектных тузінаў кіёў, інача́й кажучы, наша прамысловасьць можа атрымаць дармавой сырызны для выра́бу звыш 6.000 тузін крэслаў.*

Апошнія лічбы па абгульненьню ўсёй Беларусі зьяўляюцца ня зусім дакладныя, бо досьлед зроблены на аднэй парні, і можа здарыцца, што на другой парні лічбы крыху зьменяцца ў той ці іншы бок. Але так ці інача́й трэ' прыняць тэрміновыя захады да таго, *каб з бягучага-ж году не змарнаваць гэтую сыравіну.*

2. Граб—можа быць скарыстаны для гнутай мэблевай вытворчасьці яшчэ ў большай меры, чымся ясень.

Лесавод **М. Каплан.**

---

[1]) Досьлед зроблены на парні пры станцыі Завішын, Зах. чыг., а кіі перапрацаваны на фабрыкат у Бабруйску на фабрыцы „Труд Инвалида“.

# ХРОНІКА

## Які даецца напрамак далейшага разьвіцьця савецкіх гаспадарак на Мазыршчыне.

Мазыршчына на 1929-30 год вызначыла значнае ўзбуйненьне савецкіх гаспадарак, а менавіта: з 8000 га да 21000 га. З другога боку—у мэтах найбольш поўнага і своечасовага задавальненьня масцовай прамысловасьці адпаведнаю колькасьцю сыравіны і забясьпечаньня працоўных прадуктамі харчаваньня, выклікаецца неабходнасьць правядзеньня суровага плянавага рэгуляваньня вытворчай дзейнасьці савецкіх гаспадарак, што магчыма ажыцьцявіць толькі пры ўмовах вызначэньня спэцыялізацыі і напрамкаў вядзеньня гэтых гаспадарак.

На Мазыршчыне ў гэтых адносінах ужо штокольве робіцца. Што прымалася там пад увагу пры вызначэньні напрамку кожнай савецкай гаспадаркі? А вось што: а) напрамак сельскай гаспадаркі таго ці іншага раёну, б) суадносіны паміж зямельнымі ўгодзьзямі ў гаспадарках, в) глебавыя ўмовы, г) рынак, д) попыт, е) шляхі зносін і г. д.

На падставе гэтага ўводзяцца напрамкі вядзеньня саўгасаў па асобку наступныя:

Па саўгасах „Слабада“ Калінкавіцкага раёну і „Дабрынь“ Каралінскага раёну на падставе пастановы Эканамічнае Нарады пры СНК БССР ад 29 жніўня 1929 г. гэтыя саўгасы ўключаны ў склад дзяржаўнай племяннной культуры па буйнай рагатай жывёлы. Адначасна з гэтым, прымаючы пад увагу пабудову ў горадзе Мазыры прадпрыемства па пераапрацоўцы сьвініны, а таксама шпаркага разьвіцьця сьвінагадоўлі, — уключаецца дадаткова ў напрамак па саўгасу „Дабрынь“ матачнага сьвінагадавальніка буйнай ангельскай пароды, і па саўгасу „Слабада“ прамысловай сьвінагадоўлі.

У саўгасе „Канстанцінава“ Капаткевіцкага р., у якім ёсьць значныя зямельныя ўгодзьдзі (698 га, з якіх 215 га пахаці) і пры пабудове буйнай электрычнай станцыі сельскага тыпу, выклікае крайнюю неабходнасьць узбуйненьня гаспадаркі, што часткова ўжо і праводзіцца ў жыцьцё—прырэзваецца 1200 га няўжытковых зямель каля в. в. Раг і Івашкевічы. Глеба тут лёгка пясчаная з месцамі выдуваемых пяскоў. Для таго, каб больш правільна арганізаваць гаспадарку, трэба прырэзаць да саўгасу балотны масыў Курыцігскага балота плошчаю 1000 га, якая па характару расьліннага акрыцьця зьяўляецца мохавым (гіпнавым) балотам, на якім, у зьвязку з тым, што раней была пракапана магістральная канава, пры адносна невялікіх затратах сродкаў магчыма стварыць плошчу прыдатную для пасеву канапель і часткова скарыстаць, як найлепшую сенажаць. Пры такім становішчы а пры ўмове аб'яднаньня ўсіх прырэзваемых вучасткаў у адну гаспадарку, напрамак вядзеньня апошняй па саўгасу „Канстанцінава“ мажліва вызначыць ухіл лубінава-бульбяна-канапляны.

Саўгас „Скрыгалава“ арганізаваўся ў 1928-29 г., як саўгас лубінавы. Ён мае ўсёй зямлі 1912 га, пахаці 850 га, з якой 450 га можна араць зараз, і 162 га сенажаці. Улічваючы вялікія запатрабаваньні ў сыдэрацыйным насеньні—трэба гэты саўгас узбуйніць шляхам прырэзкі няўжытковых зямель в. в Лешня, Белая і г. д. каля 1000 га, пакінуўшы за гэтым саўгасам лубінавы напрамак.

Саўгас „Ліпава“, як старая гаспадарка, у свой час была вельмі абрэзана, а таму наяўнасьць зямельных угодзьзяў не вялікае: пахаці 234 га, сенажаці 207 га і лесу 226 га. Прымаючы пад увагу пабудову буйнага крухмальнага заводу, прырэзку вялікага балотнага масыву да 8000 га і вельмі спрыяючыя суадносіны паміж пахацьцю і сенажацьцю, пры спрыяючых шляхох зносін (чыгунка ў 5 клм.)—напраўленьне даецца прамысловае, з прадукцыйным жывёлаводзтвам буйнай рагатай жывёлы і прамысловай сьвінагадоўлі.

У Петрыкаўскім раёне маецца саўгас „Камаровічы“, які мае бровар, пахаці 229 га сенажаці 741 га (балотнай), лесу 145 га і хмызьняку 40 га. Добрыя зямельныя суадносіны, наяўнасьць прадпрыемства—выклікае неабходнасьць дачы ўхілу гэтай гаспадарцы прамысловага, з прадукцыйным жывёлаводзтвам буйнай рагатай жывёлы і сьвінагадоўлі. У гэтым-жа раёне ёсьць саўгас „Дуброва“, які мае невялічкую плошчу зямлі. між іншым мае штучныя пруды, добрыя суадносіны паміж пахацьцю і сенажацьцю, таму яму надаецца жывёлаводны напрамак з прадукцыйнай буйнай рагатаю жывёлаю і поплеч з гэтым і рыбаводны. Саўгасу-ж „Дарашэвіч“, таго-ж раёну, выходзячы з наяўнасьці сельска-гаспадарчых, глебавых і інш. умоў, як вадзяныя шляхі, блізкасьць рынку г. Петрыкава, дом адпачынку і г. д., таксама надаецца жывёлаводчаскі характар і садова-гародні.

Саўгас „Лучыцы“, Капаткевіцкага раёну мае спрыяючыя ўмовы для разьвядзеньня птушкаводзтва і дробнае жывёлы (вада р. Пціч, пясок, высокае мейсца, наліччa выгулаў і г. д.) даны напрамак вядзеньня птушкаводзтва і дробнага жывёлаводзтва.

Побач з вызначэньнем напрамку далейшага разьвіцьця савецкіх гаспадарак, улічваючы вялікае разгортваньне сацыялістычнага сэктару і неабходнасьць больш поўнага забясьпечаньня гатункавым насеньнем і стварэньня мясцовых насенных фондаў—бярэцца напрамак на арганізацыю новых савецкіх гаспадарак і ў першую чаргу ў 1929-30 г. будзе арганізавана ў Грабава-Сямоцічах, Петрыкаўскага раёну, з бросавых зямель на плошчы ў 1500 га лубінавая гаспадарка.

Неабходна, каб кіраўнікі савецкіх гаспадарак Мазыршчаны, а таксама і ўпаўнаважаны Бельсельтрэсту, прынялі адпаведныя захады да атражэньня, як у вытворчых праграмах, так і ў плянах вясеньняй пасяўной кампаніі, - усе вось гэтыя напрамкі далейшага разьвіцьця саўгасаў, якія чотка і яскрава вызначаны адпаведнымі органамі.

---

## Паведамляем:

**Я. Раро (Горкі).** Артыкул „Пра адно з пытаньняў ільнакультуры“ пойдзе **у № 2. Фото**-малюнкі атрымалі і зьмесьцім.

**К. Еўтушэўскаму (Чарэя).** Ня пойдзе. Пішэце, як хутары вашага раёну пераходзяць на калектыўную гаспадарку і што трэба зрабіць, каб зьнішчыць перашкоды.

**Г. Шумілаў.** Допіс зьмесьцім, пакуль-што не забудзьце падпісацца на час. **„Шляхі Калектывізацыі“.**

## Усім падпішчыкам і дапішчыкам.

Вышлі з друку новыя кніжкі:

**М. Ганчарык.**—Вымаканьне, выправаньне ды вымярзаньне азімага збожжа і як з гэтым змагацца. Выданьне НКЗБ 1930 г. (з малюнкамі).

**І. Серада.**—Вадапой жывёлы ў хлеве і на пашы. Выданьне НКЗБ 1930 г. (з малюнкамі).

## Рыхтуюцца да друку.

**І. Лазарэвіч.**—Прамысловая падсочка сасны (з малюнк.).

**А. Галубчык.**—Прыбытковае трусаводзтва (з малюнк.).

Прысылайце заказы. Менск, Савецкая, 71. Выдавецтва НКЗБ.



Адк. рэд. П. Рачыцкі. Рэдактар—**Рэдкалегія.**

# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА на 1930 год

## НА ЧАСОПІС

**Беларускага Навукова-Дасьледчага Інстытуту Сельскае і Лясное Гаспадаркі імя У. І. Леніна, Народнага Камісарыяту Земляробства і саюзу с. г. і Лясных Працаўнікоў**

# „СЕЛЬСКАЯ І ЛЯСНАЯ ГАСПАДАРКА“

**ў форме двухмесячных выпускаў кніжнага формату.**

ЗАДАЧА ЧАСОПІСУ: асьвятляць пытаньні соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай і лясной гаспадаркі, грунтуючыся на выніках працы навуковых і дасьледчых устаноў БССР і СССР.

ЧАСОПІС ДАПАМОЖА: масавым зямельным спэцыялістым (кіраўнікам саўгасаў і калгасаў, аграномам, жывёлаводам, лесьнічым, каапэратарам, каморнікам, мэліоратарам і г. д.) выконваць пяцігодку ў 4 гады.

У ЧАСОПІСУ ЗЬМЯШЧАЮЦЦА: арыгінальныя экспэрымэнтальныя працы па калгаснаму і саўгаснаму будаўніцтву, па асобных галінах агрономіі, жывёлагадоўлі, лясной справы, па тэхнічнай перапрацоўцы сельска-гаспадарчых прадуктаў; рэфэраты саюзных і чужаземных навукова-агранамічных прац; навуковая інфармацыя; сельска-гаспадарчая хроніка; бібліографія і інш.

У ЧАСОПІСУ ПРЫМАЮЦЬ УДЗЕЛ: загадчыкі аддзелаў і вучоныя спэцыялістыя Беларускага Навукова-Дасьледчага Інстытуту, прафэсары, дацэнты і выкладчыкі Беларускай С.-Г. Акадэміі, працаўнікі дасьледчых Станцый, зямельныя працаўнікі, эканамісты-аграномы БССР, працаўнікі калгассыстэмы, калгасьнікі, дасьледчыкі і г. д.

**ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:**

**на 1 год (6 нум.)—5 руб., на 6 мес.—2 р. 50 к.**
**Паасобны нумар—1 р. 20 к.**

**За ўвесь 1927 год высылаецца камплект (3 нум.)—2 р. 50 к. і за 1928 год (6 нум.)—5 руб.**

**Падпіска прымаецца:**
**у выдавецтве НКЗ (Савецкая 71, Менск) і на кожнай пошце.**

*АДРАС РЭДАКЦЫІ: Менск, Шырокая, 28.*

**Цана 50 кап.**



# ПАДПІСВАЙЦЕСЯ НА

# „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“

Часопіс соцыялістычнага земляробства і агранамізацыі насельніцтва.

Выданьне Наркамзему і Белкалгасцэнтру БССР.

ЧАСОПІС

## „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“

**ставіць сваёй мэтай ў папулярнай форме адбіць шляхі калектывізацыі сельскай гаспадаркі БССР як праз вышэйшыя формы вытворчага аб'яднаньня—камуны, арцелі, так і простыя—рознага віду таварыствы.**

ЗАДАЧЫ ЧАСОПІСУ

## „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“

згуртаваць увагу ўсяго бядняцка-серадняцкага сялянства вёскі на шляху сацыяльна-тэхнічнай рэвалюцыі ў сельскай гаспадарцы, заснаванай на электрычнай машыне, на трактары і г. д., а працаўнікоў калгассыстэмы, зямельным, агранамічным і ўсяму вясковаму актыву дапамагчы выконваць працу ў гэтым напрамку на мясцох.

Значнае месца адводзіцца ў часопісу падвышэньню с.-г. ведаў насельніцтва і тэхнічным парадам, абгрунтаваным на навуковых даных і мясцовых досьледах.

Часопіс зьвязаны з практычнай працаю каапэрацыйных аб'яднаньняў і перадавым актывам калгасаў і вёскі.

| ПАДПІСНАЯ ПЛАТА: | | |
|---|---|---|
| | На год . . . . | 2 р. 20 к. |
| | На 6 м-цаў . . . | 1 р. 10 к. |
| | На 3 м-цы . . . | 60 к. |
| | Паасобны нумар . | 20 к. |

Зборшчыкі падпіскі атрымліваюць 15% пры завербаваньні 6 гадавых ці 12 паўгадавых падпішчыкаў. Замест грашовага адлічэньня зборшчык, які сабярэ 6 гадавых або 12 паўгадавых падпісак, можа быць залічан гадавым падпішчыкам часопісу.

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: на кожнай пошце, кожным лістаносцам, спэцыяльнымі зборшчыкамі і непасрэдна ў рэдакцыі.

**Ёсьць камплекты „ПЛУГА“ за ранейшыя гады. Цана кампле́кту 1 р. 10 к.**

АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Савецкая, 71, Н. К. З. Б.**